ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КАМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН
НАРКАМАСЬВЕТЫ
І ЦП САЮЗУ
ПРАЦАСЬВЕТЫ
БССР




№ 5
1933

...ЖАЎНАЕ
...ЦТВА
...УСІ

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# Камуністычнае выхаваньне

ОРГАН
НАРКАМАСЬВЕТЫ
І ЦП САЮЗУ
ПРАЦАСЬВЕТЫ
БССР









ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

МАЙ
№ 5
1933

*Л. Бэндэ*

# Нацыяналдэмакратычныя апосталы

Клясавы вораг ў шалёнай барацьбе супроць пралетарскай дыктатуры, супроць сацыялістычнага будаўніцтва ідзе на ўсякага роду правакацыі, хітрыкі. Усе і ўсякія спробы практыкуе ён для дасягненьня сваіх мэт.

«Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасьці Савецкай дзяржавы будзе ўсільваць супраціўленьне апошніх рэштак паміраючых клясаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць свае апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх больш рэзкіх формаў наскокаў, апэлюючы да адсталых пластоў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць савецкае ўлады. Няма такой пакасьці і хлусьні (клеветы), якую-б гэтыя бышыя людзі не ўзьвялі на савецкую ўладу і навакол якіх не спрабавалі-б мабілізоўваць адсталыя элемэнты» (СТАЛІН).

Контррэвалюцыйныя нацдэмаўскія вылазкі праз мастацкую і крытычную літаратуру за апошнія часы: вылазкі СІДАРЭНКІ, НІКАНОВІЧА, БАРАНАВЫХ, ЛУЖАНІНА, ПРУДНІКАВА, КАЛЮГІ, РУСІНОВІЧА і інш. сьведчаць аб тым, што клясавы вораг актыўна выкарыстоўвае літаратурную форму для прапаганды сваіх контррэвалюцыйных ідэй, для плявузганьня на сацыялістычнае будаўніцтва, для мабілізацыі адсталых элемэнтаў супроць савецкае ўлады.

Аднак, выкарыстоўваньне клясавым ворагам літаратуры не абмяжоўваецца толькі тым, што ў літаратурную форму ўкладаюцца контррэвалюцыйныя ідэі, кулацкае плявузганьне на сацыялістычнае будаўніцтва, на пралетарскую дыктатуру, што праз яе клясавы вораг спрабуе мабілізаваць адсталыя элемэнты супроць пралетарскай дыктатуры. Клясавы вораг актыўна выкарыстоўвае для сваіх мэт і выкладаньне мастацкай літаратуры. Пры гэтым ён выкарыстоўвае ня толькі творы з контррэвалюцыйным зьместам, створаныя непасрэдна ў мэтах барацьбы супроць пралетарскай дыктатуры.

Вядомы факт, як адна настаўніца з Гомельшчыны на занятках па беларускай літаратуры прымусіла дзяцей з 5-й групы сьпіс-

ваць у свае сшыткі контррэволюцыйную адозву з твору пралетарскай літаратуры «Спалох на загонах», тав. ГАЛАВАЧА, пры гэтым сьпісваць тольку адну адозву без адпаведнага і патрэбнага растлумачэньня. Практыка выкладчыка В. ГАЛАВАЧА з Бабруйскага рабфаку і лесатэхнікуму яшчэ больш характэрна. Гэты нацдэмаўскі адпрыск шырока карыстаўся для «практыкаваньняў» граматыкай Лёсіка, выбіраючы з яе контррэвалюцыйныя староньні для сьпісваньня студэнтамі ў свае сшыткі.

Ня трэба быць «выразьнікам тончэйшага і складанейшага» падыходу да клясавага ворага, а мець толькі звычайныя людзкія вочы, каб бачыць антысавецкі характар такога роду «практыкаваньняў».

«Практыкаваньні» В. ГАЛАВАЧА лішні раз сьведчаць пра неабходнасьць рэвалюцыйнай пільнасьці да практыкі клясавага ворага, а гэта пільнасьць не заўсёды была у бабруйскіх партыйцаў і камсамольцаў студэнтаў.

Аднак В. ГАЛАВАЧ не адзінокі. Вось перад намі «Праграма курсу беларускай літаратуры Магілеўскага пэдінстытуту на 1932—1933 нав. год» і І заданьне аўтара гэтай праграмы САКАЛОЎСКАГА—выкладчыка пэдінстытуту.

Дарэмныя былі-б пошукі ў ёй таго, што патрабуецца ад выкладаньня мастацкай літаратуры ў ВНУ, таксама як і пошукі марксысцка-ленінскага мэтаду, пра які аўтар праграмы гаворыць у першых радкох праграмы, ці правільней сказаць: якім аўтар перахрысьціўся, каб застрахаваць сябе ад непатрэбных яму папрокаў з боку тых кіраўнікоў, якія апрача літары і фразы нічога ня хочуць знаць у сутнасьці (а ёсьць яшчэ такія)—«Марксысцкі мэтад як адзіны навуковы мэтад дасьледваньня літаратуры». Гэтымі словамі распачынае аўтар праграму. Але наступныя за гэтай фразай радкі аўтара праграмы сьведчаць аб іншым.

«Марксызм» аўтара праграмы, вельмі і вельмі нагадвае «марксызм» такога «марксыста» як ПЕРЕВЕРЗЕЎ з аднаго боку і вульгарызаваны сацыялізм САКУЛІНСКАГА гатунку у старой стылізацыі яго праф. ПІАТУХОВІЧАМ.

Што імена «марксызм» таго гатунку зьяўляецца прыватнай уласнасьцю аўтара праграмы сьведчыць уся праграма і практыка выкладаньня.

Нас цікавіць у першую чаргу палітычны твар праграмы. Вядома, што мэтадычныя асновы неразьдзельны ад палітычных ведаў. Антымарксысцкая мэтадалёгія сплош і радам прыводзіць і ня можа ня прывесьці да антыпралетарскай палітыкі. А ў даным выпадку палітычна шкодныя ідэі крышталізуюцца ў праграме і ў мэтадалёгічных яе асновах і ў тых выпадках, якія вынікаюць з рэалізацыі гэтых асноў. Вось разьдзел праграмы пад назваю «Буржуазныя стылі». У разьдзеле «Ядвігін Ш. як прадстаўнік лібэральнай шляхты (шляхэцкай буржуазіі) у беларускай літаратуры». Пакінем на сумленьні аўтара гэтую агульную

характарыстыку. Нас цікавіць, як і для чаго характарызуе САКАЛОЎСКІ ЯДВІГІНА Ш. у дэталізацыях.

Як вядома, Ядвігін Ш. у беларускай буржуазнай дарэвалюцыйнай літаратуры зьяўляецца аднэй з самых характэрных фігур. Маянтковец, эксплёататар беларускай беднаты і батрацтва ў сваёй гаспадарчай практыцы, лібэрал-нацыяналіст да Кастрычніцкай рэвалюцыі ў мастацкай творчасьці і актыўны міністр контррэвалюцыйнай беларускай рады характарызуецца праграмай наступным чынам:

«Паказ вёскі, паказ зьдзічэньня беднай вёскі і небясьпечнага (?!) разрыву яе з горадам, як выражэньне тугі па эўрапейскай буржуазнай культуры і як пратэст супроць абскурантызму царскага ўраду».—І далей: «Мяшчанская быта-псыхіка забабонавых някультурных сялян, зьдзічэлых паноў і абмежаваных буржуа паказана ў гумарыстычных новелях як выраз тае самае тугі».

І яшчэ: «Нацыянал-адраджэнцкая сымболіка і яе контррэволюцыйная афарбоўка і поруч з тым прагрэсыўныя нацыяналадраджэнцкія матывы, абумоўленыя каленіяльным станам Беларусі...»

І яшчэ: «Адлюстраваньне бяссардэчнай эксплёатацыі беднаты і рабочых, гвалту над імі, паліцэйскага зыску і праваказцыі... прадбачаньне перамогі пралетарыята і спачуваньне яму...»

Гэтую характарыстыку мы выпісалі і для таго, каб салідарызавацца з чытачом, які ўзяў ужо пад падазрэньне як літаратурную, так і агульнаэлемэнтарную пісьменнасьць аўтара праграмы.

Аднак, што тут «арыгінальнага» ў Сакалоўскага.

Маянтковец, выразьнік праз мастацкую творчасьць і палітычную дзейнасьць інтарэсаў капіталізаванага беларускага памешчыка, хітры і разумны ідэолёг свае клясы, які «умеў узьняцца да разуменьня агульных інтарэсаў свае клясы і адстойваць гэтыя інтарэсы» праз сваю мастацкую творчасьць, які ўмеў хітра ашукваць масы, характарызуецца Сакалоўскім як прадбачнік перамогі пралетарыяту і як змагар супроць усёй сыстэмы буржуазна-памешчыцкага ладу.

Контррэвалюцыянэр пад пяром Сакалоўскага ператвараецца у рэвалюцыянэра, але на якога часамі находзіць толькі «змрочны пэсымізм і бязвыхаднасьць». Ператварыўшы (дзякуючы лоўкасьці рук) Ядвігіна Ш. у змагара супроць усёй сыстэмы буржуазна-памешчыцкага ладу, Сакалоўскі па-халуйску ліжа пяткі міністру БНР і пнецца расчуліць сваіх слухачоў, выклікаць і ў іх такое-ж халуйскае прысмыканьне перад ім, гэтым ідэолёгам буржуазіі. «Народная прастата фразэалёгіі і сакавітасьць лексыкі»—са сьлюнкамі на губах піша Сакалоўскі; «Пяшчотна лёгкі гумар у замалёўцы ахвяр эксплёатацыі як вынік лібэральнай гуманнасьці», і мабыць «спачуваньня пралетарыяту»; «Гострыя, колкія словы і пякучыя эпітэты да аб'екту сатыры». І толькі перад

«заключнай ацэнкай» Ядвігін Ш.—міністр БНР» і усё, больш ні слова!

У сьвятле такой праграмнай характарыстыкі контррэвалюцыянэра Ядвігіна-Лявіцкага робіцца зразумелай і лекцыя Сакалоўскага пра другога контррэвалюцыянэра А. Гаруна, лекцыя паводле запісу студэнта і паводле заявы самаго Сакалоўскага на сходзе студэнтаў і настаўнікаў Магілеву 26 сакавіка, што запісана правільна хоць і расходзіцца з праграмай.

Вось вытрымкі з характарыстыкі Гаруна на лекцыі: «Сам рабочы, працаваў у дэпо чыгункі. За падпольную рэвалюцыйную дзейнасьць быў выслан у Сібір 1907—1917 г., пасьля перайшоў у лягер контррэвалюцыі. Сталася гэта таму, што калі Гарун быў у падпольлі, папаў пад уплыў контррэвалюцыянэра Язэпа Лёсіка. Яго жыцьцё трагічнае. Трагізм гэта, калі пралетарскі дзеяч, як Гарун пераходзіць у шэрагі буржуазных дзеячоў».

Праграма Сакалоўскага ў духу Сідарэнкі трактуе і творчасьць Янкі Купалы. Праграма таксама як і Сідарэнка, адмаўляе, замазвае ацэнку творчасьці Янкі Купалы, якая давалася ў нашым друку камуністычнай крытыкай. Праграма адмаўляе, замазвае і характарыстыку перадрэвалюцыйнага этапу творчасьці Купалы, якую даў сам паэт у сваім лісьце. Згодна тэй-жа праграмы Купала ня быў на пазыцыях нацдэмакратызму, а ў яго былі толькі «нацдэмаўскія ўхілы».

У падыходзе да творчасьці Купалы, як і інш. пісьменьнікаў, адсутнічае элемэнтарна-навуковы падыход, ня ўскрываецца і не аналізуецца творчасьць паэтаў у яе разьвіцьці, у яе прычыннай абумоўленасьці, у яе функцыянальнай значымасьці, выходзячых з канкрэтна-гістарычных умоў клясавай барацьбы. Некалькі перанятых фраз. Куча шкоднай няпісьменнай адсебяціны, беспрынцыпнасьць і блытаніна, вось «навуковы» бок праграмы.

Затое, праз усю мяшаніну праглядае вытрыманае як і ў Сідарэнкі імкненьне ўнікнуць ад палітычнай, камуністычнай ацэнкі творчасьці Купалы, імкненьне прытупіць, стушаваць, адкінуць гістарычна-даведзеныя факты з творчасьці Купалы і іх ацэнку камуністычнай крытыкай... Непасрэдна перадрэвалюцыйны пэрыяд у творчасьці Купалы, у які паэт вызначыўся як носьбіт, як баян, як адзін з самых выдатных ідэалёгаў нацыянал-рэфармізму, нацыянал-адраджанізму ацэньваецца Сакалоўскім як: «новыя хістаньні Купалы ў бок пэсымістычнага рамантызму».

Праграма зусім унікае ад ацэнкі Кастрычніцкага пэрыяду ў творчасьці Купалы. Гэты пэрыяд творчасьці зусім зьнікае з праграмы. А пераход Купалы на пазыцыі... нацдэмакратызму «згодна праграмы адбыўся» «пасьля Кастрычніка», як «вынік дробна-буржуазнага неразуменьня Кастрычніка і ўплыву на дробнага буржуа фашысцкай буржуазіі». Для доказу гэтага палажэньня (праграма пабудавана так, што ня з фактаў выводзіцца палажэньне, а факты падганяюцца пад палажэньне) Сакалоўскі выхватвае з розных часоў тры творы, абыходзячы

моўчкі палітычную сутнасьць гэтых твораў. («Паўстань», «Крыўда» «Тутэйшыя»).

З усяго разьдзелу праграмы пра Купалу вынікае тэндэнцыя ня даць правільнай, якая-б адпавядала аб'ектыўнаму стану рэчаў, партыйнай ацэнкі дарэвалюцыйнай і першых пэрыядаў пасьля-рэвалюцыйнай творчасьці Купалы, а затое падфарбаваць нацыяналістычныя элемэнты ў ёй такога роду фразамі: «Вера ў культурны рост народу і палкае імкненьне да сьвету» і г. д. Тое-ж з творчасьцю, з пазыцыямі Купалы пасьля Кастрычніка: адсутнасьць чоткіх палітычных установак, увільваньне ад палітычнай клясыфікацыі дакумантаў і фактаў клясавай барацьбы, а замест гэтага няпісьменныя і палітычна шкодныя пошукі дэтэрмені-наваннасьці» фактаў. Паміж іншым разьдзел—«Янка Купала пасьля Кастрычніка» упісаны ў праграму зусім нядаўна пасьля ўжо апошніх вылазак нацдэмаўскага атрэп'я. Сярод усёй гэтай палітычна шкоднай падаўленай галіматыі аб творчасьці Купалы у праграме знаходзім і такога роду пэрлы: «Сувязь Купалы з капіталістычнымі элемэнтамі Нэпу». «Гэты пэрл выдае з галавой літаратуразнаўчыя здольнасьці Сакалоўскага, які шукае не суадпаведнасьці ідэі, а проста «сувязі. Купалы з капіталістычнымі элемэнтамі».

Сакалоўскі ў сваёй праграме адмаўляецца ад аналізу творчасьці Купалы за пэрыяд 1922—1929 гг.,—«адмаўляецца ад выяўленьня двух процівалеглых тэндэнцый ў творчасьці за гэты час.

Своеасаблівае тлумачэньне дае праграма і творчасьці Купалы за апошнія 3 гады. Вось яно: «Рост сацыялістычнага будаўніцтва ў рэканструкцыйны пэрыяд. Аслабленьне і ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў. Уцягненьне ў сац. будаўніцтва дробнай буржуазіі. Культурна-асьветны ўплыў на яе пралетарыяту і адваяваньне яе ад буржуазіі. Пераход Купалы ў лягер спадарожніцтва, як вынік гэтага ўплыву і як працэс ідэалёгічнага перавыхаваньня дробнага буржуа ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва». Клясавая барацьба, разгром нашай партыяй нацдэмакратызму ў рэканструкцыйны пэрыяд, як бачыць чытач, для Сакалоўскага ня мае ніякага значэньня. Для яго галоўнае: «Культурна-асьветны ўплыў на яе (дробную буржуазію. **Л. Б.**) пралетарыяту». Характарыстыка Купалы увенчыцца ня менш арыгінальнай сынтэнцыяй: «Рэвалюцыйныя выступленьні Купалы на пленуме Арг-Камітэту ССП **(так тры «с»)**, разаблачэньне сваіх крытыкаў і адмежаваньне ад іх». Дазволена запытаць паважанага прыватдацэнта, што «сіе» значыць? Купалаву творчасьць, палітычныя пазыцыі і памылкі Купалы крытыкавалі ў нашым партыйным друку, крытыкавалі пасапраўднаму ніхто іншы, а камуністычная крытыка, наша партыя... усё гэта факты. І паколькі нам вядомы выступленьні Купалы на пленумах Аргкамітэту, Купала выступаў і адмяжоўваўся не ад камуністычнай крытыкі, а ад апалёгетаў нацдэмаўскіх элемэнтаў у яго творчасьці, такіх прыкладна, як Сакалоўскі, ад нацдэмаўскага атрэп'я—гэта таксама факт.

Узьнікае пасьля гэтага пытаньне: для чаго патрэбна была Сакалоўскаму гэтая фальсыфікацыя фактаў? Але-ж адказ ён сам дасьць крыху ніжэй.

Так характарызуецца творчасьць Купалы ў праграме. Ня лішняе будзе паглядзець, як жа рэалізуецца праграма. Вось перад намі запіс лекцыі студэнтам 1-га курсу Магілеўскага Пэдінстытуту Салаконавым, чытанай Сакалоўскім 7/III-33 г., у якой між іншым напісана: «Купала зьяўляецца паэтам бядняцкіх пластоў вёскі. Той, хто лічыць Купалу кулацкім паэтам, той спрыяе на руку антыпартыйным, фашысцкім поглядам».

І яшчэ «Я. Купала да Кастрычніка хістаецца. Быў дэкадэнтам, нашаніўцам і г. д. У Кастрычніцкую рэвалюцыю Я. Купала ўвайшоў з пэсымістычным настроем... «Тутэйшыя»—тут Я. Купала становіцца на шлях скэптыцызму рэвалюцыі... «Безназоўнае»—Купала тут вітае Кастрычнік». Гэтыя мясьціны былі мной зачытаны на сходзе студэнтаў у прысутнасьці Сакалоўскага. У сваім выступленьні Сакалоўскі пацьвердзіў, што ён лічыць іх правільнымі як усю праграму і сваю дзейнасьць.

Пяройдзем да характарыстыкі творчасьці **Якуба Коласа.**

«Колас паэт сярэдняцкага сялянства з тэндэнцыяй перш да паўпэраў, а потым да акулачваньня»—так распачынаецца характарыстыка творчасьці Коласа. Ня варта траціць часу і паперы для падрабязнага разбору ўсёй галіматыі Сакалоўскага пра творчасьць Коласа. Спынім увагу толькі на некалькіх момантах. Так, Сакалоўскі лічыць, што фінал «Новай Зямлі»—Сьмерць Міхала напісаны Коласам сьвядома таму, што «інакш паэма, дапісаная на 4-м годзе рэвалюцыі, была-б проста контррэвалюцыйнай», а затое цяпер «Сьмерць Міхала ў паэме можа быць сымбалем сьмерці хутарскай ідэі і хуліганскай палітыкі». Лоўкасьць рук і ніякага машэнства... затое лірыка, лірыка чаго вартая: «Хоць Колас стаў і застыў у сумным раздарожжы (у паэме), але чытач, асабліва чытач, які ня мае, або сьвядома ня хоча мець такога заможнага дармавога работніка, як дзядзька Антось—адмовіцца ад шляху хутарызацыі праз пакупку зямлі».

Вось як выглядае ідэя «сьмерці хутарскай палітыкі»... Уся справа аказваецца ў тым, што пакупка зямлі ня добры «шлях хутарызацыі», студэнту застаецца прыгадаць другі шлях хутарызацыі, раз ён адмовіцца ад шляху пакупкі зямлі. Так увязваецца Сакалоўскім творчасьць Коласа з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва. Так выкарыстоўвае Сакалоўскі сваю «пэдагагічную» і вучоную практыку для барацьбы супроць сацыялістычнага будаўніцтва, для прапаганды ідэі прышчэпаўшчыны.

Ня менш цікавай і шкоднай зьяўляецца характарыстыка пазыцый Коласа ў час Кастрычніка: «Хістаньні і апазыцыйныя выступленьні ў час Кастрычніка». Дзіваку аўтару праграмы і няўдамёк, што савецкія студэнты сёе-тое разумеюць з палітычнай гісторыі, з гісторыі клясавай барацьбы. Трактоўка пазыцый Коласа ў час Кастрычніка як «апазыцыйнага выступленьня» павінна

прадпалагаць прызнаньне ў той час Коласам асноў новага ладу, прызнаньне новай сацыяльнай сыстэмы, савецкай сыстэмы. А гэта не адпавядае сапраўднасьці. Сакалоўскім-жа патрэбна гэта фальсыфікацыя для тых мэт, што і Сідарэнкам.

Адсюль ня зьдзівіць чытача і той факт, што ў праграме адсутнічае ўказаньне і характарыстыка павароту Купалы і Коласа на пазыцыі Савецкай улады, павароту да актыўнага удзелу ў сацыялістычным будаўніцтве. Ня выгадна Сакалоўскім гаварыць аб такіх зьявах.

Было-б не аб'ектыўна, калі-б мы не сказалі, што ў разьдзелах праграмы пра Купалу і Коласа ёсьць упамінаньне аб нацыяналізьме ў іх творчасьці. Але ня ў гэтым сутнасьць. Сутнасьць у тым, як гэта падаецца і як гэта тлумачыцца. Праграма трактуе элемэнты нацыяналізму ў творчасьці Купалы толькі як «нацдэмаўскі ўхіл». На лекцыі даецца тлумачэньне прычыны ўхілу: «на Купалу ўплываў Ігнатоўскі». Нацыяналістычныя элемэнты ў творчасьці Коласа таксама своеасабліва вытлумачваюцца праграмай: «Усе гэтыя рысы ёсьць выяўленьне буржуазнага пэсымістычнага рамантызму, абумоўленага ў Коласа царскай рэакцыяй і дробна буржуазным бязьвер'ем у посьпехі барацьбы з ёй». Сакалоўскі і тут ідзе пратоптаным нацыяналістычным шляхам, шукае прычыны нацыяналізму у вонкавых фактарах і ў фактарах суб'ектыўных, акурат як і Сідарэнка ў яго артыкуле—«Шлях паэта».

А цяпер паглядзім, як-жа Сакалоўскі ацэньвае творчасьць Сымона Баранавых. Бярэм заданьне № 4. У ім чытаем: «Сялянская літаратура (пралетарска-калгасная)». У разьдзеле «Сымон Баранавых» няма нават і намёку на кулацкую тэндэнцыю ў яго творчасьці. Затое ў заданьні чытаем: «Народная прастата ў лексыцы ў вобразах стылю (так і напісана: «у вобразах стылю») Баранавых «Чужая зямля», «Межы», «Два канцы». Культываваньне правінцыялізмаў, як выяўленьне нацыяналістычнай тэндэнцыі ў творчасьці Баранавых, тэндэнцый да правінцыяльнай нацыяналістычнай абмежаванасьці, тэндэнцыі супроцьстаўленьня праз культывізацыю правінцыялізму беларусаў іншымі нацыянальнасьцямі характарызуецца як «народная прастата лексыкі».

Гэта апалёгэтыка нацыяналістычным тэндэнцыям ў творчасьці Баранавых не пашкодзіла Сакалоўскаму зусім ніядаўна зрабіць дапіску: «элемэнты нацдэмакратызму ў мове твораў (культывуецца мова пераважна глухое вёскі, адмежавана ад мовы пралет. гораду). Нацдэмаўская вылазка з імпрэсіяй «Матчын сын». Лоўкасьць рук... але машэнства навочна.

Гэта ў заданьні. Але як-жа на лекцыі ацэньвае Сакалоўскі Баранавых. Тут-жа як і ў заданьні, але без дапіскі.

«Матчын сын»—значнае хістаньне ў бок нацдэмакратызму аўтара, з якім здарылася няшчасьце. Увогуле-ж ён савецкі пісьменьнік» і яшчэ ў другі раз: «Баранавых хоць і даў зрыў, застаецца пралетарска-калгасным пісьменьнікам». Пры гэтым на

лекцыях ня ўскрывалася клясавая сутнасьць «Матчынага сына», ідэйкі гэтага твору, а рабілася крытыка «Матчынага сына» як жанру, як стылю, як перакручваньне арыгіналу (г. зн. вершу Купалы).

Своеасаблівую ацэнку дае Сакалоўскі і нацдэмаўскай вылазцы Сідарэнкі «Сідарэнка—крайне правы ўхіл».

У апошняй творчасьці Я. Пушчы шукаюцца «рэвалюцыйныя спробы» Язэпа Пушчы—«Рэвалюцыйныя матывы».

Максім Лужанін—гэта рэцыдывіст нацдэмаўскай контррэвалюцыі ацэньваецца так: «За апошнія гады значна перабудоўваецца, дае савецкія эмацыянальныя вершы»; «зараз перавыхоўваецца» і г. д.

Калі контррэвалюцыянэры Ядвігін Ш., А. Гарун, Пушча ўсялякім чынам ідэалізуюцца, калі нацыяналістычныя элемэнты ў творчасьці Купалы і Коласа затушоўваюцца, калі ўсялякімі спробамі размагнічваецца партыйная ацэнка контррэволюцыйным вылазкам Сідарэнкі, Баранавых, дык затое дастаецца ад Сакалоўскага пралетарскім пісьменьнікам. Мы ня будзем чапаць ацэнкі П. Труса як «паэта слабага серадняцкага сялянства». В. Сташэўскага, як «змагара за атэізм і інтэрнацыяналізм і палітэхнізм», паглядзім, як ацэньваецца творчасьць пралетарскіх паэтаў, Чарота і Александровіча.

І. Юны Чарот. «Завіруха».

Перапляценьне анархабунтарскіх элемэнтаў і нацдэмакратычных з баявымі пралетарскімі матывамі».

Што гэта такое? Гэта зусім ня тое, што канстатаваньне ўплыву нацыяналістычных творчых традыцый на маладога Чарота. Не, гэта іншае, гэта спроба скампрамэнтаваць Чарота, прышыўшы яго творчасьці нацыяналдэмократычныя матывы. Не выпадковы і той факт, што ў заданьні № 2 «Міхась Чарот—першы беларускі пралетарскі паэт і пісьменьнік» зусім не распрацавана паэма «Босыя на вогнішчы».

А вось «Заданьне № 3—Андрэй Александровіч—пралетарскі паэт—Урбаніст».—І гэта таксама перапляценьне. Вось яно: «Перапляценьне анархіі, багемшчыны, фармалізму (і імажэнізму) з элемэнтамі ідэалізму, з баявымі рэвалюцыйнымі матывамі». Гэта з першых слоў заданьня, пра «Першыя крокі» Александровіча. А вось далей: «Паступовае перамаганьне і выцясьненьне першых матываў (і ўплываў) другімі». Якімі?

«1. Бунтарны камсамол, бунтарны горад, п'яны вечар і п'яны паэт».

Вось з чаго пачынаецца прапрацоўка Александровіча.

У сувязі з гэтай бульваршчынай, разьлічанай на кампрэмэнтацыю пралетарскага паэта цікава і наступная акалічнасьць. Твор Андрэя Александровіча. «Дзьвіна» напісаны ў 1926 г., на якім асабліва сказаўся ў той час уплыў нацыяналізму, Сакалоўскім ацэньваецца «як сур'ёзная бальшавіцкая пазыцыя». Гэтая

акалічнасьць з галавой выдае Сакалоўскага як агента клясавага ворага ў савецкай навучальнай установе.

Дастаецца ад Сакалоўскага і нашай крытыцы. «Ухілы Бэндэ». «Меншавізм Канакоціна». «Новыя вылазкі контррэвалюцыйнага нацдэмакратызму ў літаратуры (Кучар)».

У заключэньне спынімся яшчэ на некаторых маючых не апошняе значэньне палажэньнях Сакалоўскага. Вось як ацэньвае праграма па літаратуры эканоміку Беларусі. «Напярэдадні Кастрычніка». «Эканамічная вага буйнага землеўладаньня, яго заходняэўрапейскі капіталістычны характар». Гэта ацэнка характару буйнага землеўладаньня нічога агульнага ня мае з сапраўднасьцю, з ленінскім вучэньнем аб характары буйнага землеўладаньня ў былой царскай імпэрыі. Прызнаць заходня-эўрапейскі капіталістычны характар буйнага землеўладаньня—гэта значыць адмовіць у праваце ленінскай ацэнцы.

І ў 1914 годзе Ленін канстатаваў налічча прыгоньніцтва ў вёсцы, нават поруч з тымі «прагрэсамі» атрубоў, травесеяньня, увядзеньня машын і т. п., якія так захапляюць іншых наіўных людзей».

Прызнаць заходня-эўрапейскі характар буйнага землеўладаньня на Беларусі, значыць прызнаць няпрыемлімасьць для Беларусі бальшавіцкай стратэгіі, ленінскай лініі ў сялянскім пытаньні на этапе буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Іменна гэтаму і вучыць Сакалоўскі савецкіх студэнтаў.

Вучэньне Сакалоўскага аб характары землеўладаньня на Беларусі перад Кастрычнікам дапаўняецца вядомай нацыянал-дэмакратычнай тэорыяй «барацьбы двух культур» на Беларусі. Сакалоўскі выцягнуў са «звалу» гэту тэорыю, якой контррэвалюцыйны нацдэмакратызм апраўдваў сваю дапамогу Пілсудзкаму і выдае яе за «марксызм». Нацдэмы званілі ў свой «звон», што паход інтэрвэнтаў на краіну пралетарскай дыктатуры ёсьць барацьба заходняй культуры, цывілізацыі супроць усходняга барбарства, цемры. Буржуазна-памешчыцкая Польшча ў іх вачох набывае прадстаўніка і носьбіта заходняй культуры і цывілізацыі. Пры гэтым ўся гісторыя Беларусі характарызуецца тым, што на яе тэрыторыі адбываецца барацьба гэтых двух культур. Так вучылі нацдэмы. Сакалоўскі ў 1933 г. у савецкім інстытуце прапагандуе гэтую нацыянал-фашысцкую тэорыю, забівае ёй галовы савецкага студэнцтва, узаконьвае яе ў праграме.

«Барацьба двух культур за гегемонію (польскай і расійскай)»—пішацца ў праграме. Выходзячы з гэтай тэорыі Сакалоўскі разьвівае на сходзе студэнтаў «новую тэорыю» няўхільнасьці арыентацыі беларускай інтэлігенцыі на захад, «нават калі-б расійская культура перамагла-б і была пануючай. Гэтыя контррэвалюцыйныя «тэорыі» прапагандуюцца сярод нашай савецкай інтэлігенцыі, з трыбуны, з катэдры савецкай ВНУ.

Нарэшце заключны акорд ў нацыянал-дэмократычнай сымфоніі Сакалоўскага—аб лёсе дробнай буржуазіі ў Савецкім Саюзе.

«У выніку рэвалюцыйных посьпехаў пралетарыяту асабліва у нас, ва ўмовах дыктатуры, дробны буржуа ўцягваецца пралетарыятам як гегемонам у клясавую барацьбу з агульным ворагам і паступова перавыхоўваецца ў сьвядомага будаўніка сацыялізму, у змагара за ліквідацыю клясаў. Ён **эканамічна** і ідэалёгічна **пралетарызуецца** (даючы, вядомая рэч, у працэсе выхаваньня рэцэдывы) і робіцца роўнапраўным членам сацыялістычнага грамадзтва».

Што гэта контррэвалюцыйны паклён на ленінскую партыю, на палітыку сацыялістычнай рэканструкцыі дробна-таварных гаспадарак, наўрад ці можна сумнявацца. Ня прыходзіцца сумнявацца таму, што гэта ня проста памылковая фармулёўка, а ясна акрэсьленая лінія контррэвалюцыйнай прапаганды, паклёпу. Ніхто іншы, як кулак, шкоднік і іх ідэолёг ўнутры нашай краіны сацыял-фашысты тыпу Каўцкага, нацыянал-фашысты тыпу Луцкевіча, Астроўскага за мяжой з усіх сіл прагнулі перакапаць працоўныя масы Захаду, што ў Савецкім Саюзе, што пад сьцягам калектывізацыі адбываецца пралетарызацыя сялянства, што пралетарская дыктатура ідзе тым-жа шляхам, што і капіталізм да буйнай гаспадаркі. Вось з якой сымфоніі гэты акорд.

Уся разгледжаная намі нацыялістычная галіматыя ў яе аголеным выглядзе прапагандавалася на працягу двох з лішнім год з катэдры савецкай навучальнай установы. Паўстае пытаньне, дзе былі і куды глядзелі кіраўнікі інстытуту камуністы, куды глядзела партыйная ячэйка, куды нарэшце глядзеў райком партыі. Зусім нядаўна райком прыняў рэзалюцыю па справе, зьвязанай з беларусізацыяй у Інстытуце. Прынялі, далі агульную ацэнку і абмежаваліся, а не пацікавіліся пашукаць (ды і шукаць ня трэба было, варта толькі вочы мець), хто-ж рэальна стаіць за гэтай справай у самым інстытуце. Ганеньне на расійскую мову ў інстытуце мае прамое дачыненьне да разгледжаных намі праграм і заданьняў Сакалоўскага, таксама як і дзейнасьць Сакалоўскага ёсьць ня што іншае, як дзейнасьць клясавага ворага, як канкрэтнае ўвасабленьне актывізацыі нацыяналістычных элемэнтаў у нашай краіне.

Праграма Сакалоўскага многа раз абгаварвалася ў Інстытуце, таксама як яго паводзіны са штанамі, да якіх ён зьвёў заваёвы першай пяцігодкі. Твар яго быў вядомы, але сядзелі, дазвалялі яму рабіць «экспэрымэнты» на галовах савецкіх студэнтаў. Больш таго, праграмы Сакалоўскага пасылаліся ў Наркамасьветы, але там маўчалі, моўчкі згаджаліся. Калі ў НКА моўчкі згаджаліся, дык загадчык катэдрай пэдінстытуту Гаўрук заспакойваў кіраўніцтва Інстытуту, што «з выкладаньнем літаратуры ўсё ў парадку»—папросту—ўціраў «ачкі».

Бабруйскі і Магілеўскі факт лішні раз сьведчаць аб актывізацыі клясава-варожых элемэнтаў і на вучастку пэдагогікі, лішні раз сьведчаць, да чаго прыводзяць гніла-лібэральныя адносіны да клясавага ворага, да чаго прыводзіць прытупленьне рэвалюцыйнай пільнасьці. Рэвалюцыйная пільнасьць зьяўляецца той якасьцю, якая асабліва патрэбна бальшавікам. А ў Магілеўскіх камуністаў з пэдінстытуту гэтая бальшавіцкая якасьць адсутнічае.

*Н. І. Раецкі*

## Вынікі палітэхнічнага навучаньня ФЗС і ШКМ па дрэваапрацоўцы за 1-ю палову 1932-33 нав. году

З мэтай выяўленьня і абагульненьня практыкі барацьбы нашай савецкай школы за выкананьне пастаноў ЦК аб пачатковай і сярэдняй школе, Палітэхнічным сэктарам Навукова-Дасьледчага інстытуту Камуністычнага Выхаваньня было праведзена спэцыяльнае абсьледваньне становішча работы ў школах па палітэхнічнаму працоўнаму навучаньню.

Для абсьледваньня былі ўзяты наступныя школы: па гораду Менску—5 ФЗС, 6 ФЗС, 19 ФЗС, 25 ФЗС, 27 ФЗС і 39 ФЗС і па раёнах Урэцкая ШКМ, Навасёлкаўская ШКМ і Заслаўская ШКМ. Абсьледваньне праводзілі навуковыя працаўнікі Інстытуту.

Для выяўленьня ведаў вучняў была праведзена анкета з 10 пытаньняў. Гэта анкета была складзена, выходзячы з той часткі праграмы па працоўнаму палітэхнічнаму навучаньню, якая павінна была-б быць засвоена ў першым навучальным паўгодзьдзі. Анкета была праведзена ў 5—7 групах вышэйназваных школ.

Ёю было ахоплена па 5 гр. 297 вучняў і па 7 гр. 231 вучань. Усяго ахоплена анкетаю вучняў па 5 і 7 гр. па ўсіх ФЗС і ШКМ 528 вучняў. Ня гледзячы на тое, што ўсе гэтыя пытаньні выцякаюць з праграмнага матар'ялу, ніводзін з 270 вучняў 5-х груп не адказаў правільна на ўсе 10 пытаньняў па дрэваапрацоўцы; на першае пытаньне анкеты—назаві пароды дрэў, якія найбольш скарыстоўваюцца ў будаўніцтве. Па гэтаму пытаньню мы чакалі атрымаць наступны адказ—ад вучняў: сасна, елка, дуб, ясень. Выходзячы з гэтага намі была апрацавана наступная ацэнка ў %, сасна 50 проц., елка 25 проц., дуб 25 проц.

Калі вучань адказваў на гэта пытаньнее поўнсьцю, мы лічылі адказ за 100 проц.

Аб уяўленьні вучнямі, якія пароды дрэва найбольш скарыстоўваюцца ў будаўніцтве, можа сьведчыць наступная таблічка:

| Назва школы | Правільных адказаў | Адсутн. адказаў | Няправільн. адказ | Адказ не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС . . . | 71,8 | 28,2 | — | — |
| 6 ФЗС . . . | 63,5 | 31,5 | 5 | — |
| 19 ФЗС . . . | 69 | 31 | — | — |
| 25 ФЗС . . . | 62 | 38 | — | — |
| 27 ФЗС . . . | 56,25 | 43,75 | — | — |
| 39 ФЗС . . . | 70 | 27 | 3 | — |
| Урэцкая ШКМ . | 56⁰/₀ | 49 | — | — |
| Навасёлкаўская ШКМ . | 59 | 41 | — | — |
| Заслаўская ШКМ . . | 96 | 4 | — | — |

Рэшта проценту падае на адсутнасьць адказу, ці адказ быў няправільны.

Сярэдні процант правільных адказаў па першаму пытаньню па ўсіх ФЗС 5 гр. складае 72,95 проц., а па ШКМ 70,3 проц., па другому пытаньню—як можна вызначыць узрост дрэва, мы чакалі ад вучняў наступнага адказа—па гадавых кольцах, і гэты адказ залічвалі за 100 проц. правільнага адказа.

З табліцы № 2 відаць правільныя адказы вучняў у паасобных ФЗС і ШКМ. (у процантах)

| Назва школы | Правільных адказаў | Адсутн. адказы | Няправільн. | Адказаў не па сутн. |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС . . . | 60 | 40 | — | — |
| 6 ФЗС . . . | 20 | 45 | 35 | — |
| 19 ФЗС . . . | 61 | 21 | 18 | — |
| 25 ФЗС . . . | 73 | — | 27 | — |
| 27 ФЗС . . . | 64,39 | 25 | 10,61 | — |
| 39 ФЗС . . . | 89 | 3 | 8 | — |
| Урэцкая ШКМ . . | 48 | 35 | 17 | — |
| Новасёлкаўская ШКМ . | 78 | 7 | 4 | — |
| Заслаўская ШКМ . | 63 | 31 | — | 6 |

Сярэдні процант па ўсіх ФЗС правільных адказаў—складае 74,7 проц. і ШКМ 60,8 проц.

Чым тлумачыць малы процант правільных адказаў, як па ФЗС, так і па ШКМ?

На наш погляд тым, што настаўнік па працоўнаму навучаньню не прапрацаваў глыбока тэмы «Дрэва як жывы арганізм». Часткі дрэва, што дрэва, як і ўсякая расьліна складаецца з трох асноўных частак: корань, ствол і гальлё. Корні дрэва служаць для ўтрыманьня дрэва ў вэртыкальным палажэньні і сваім разьвятленьнем смокчуць з глебы расчыненыя ў вадзе спажыўныя

матэрыі і перадаюць іх па нутраной частцы кары. Пры дапамозе вуглярода дрэва перапрацоўвае атрыманыя з глебы спажыўныя матэрыі. Гэтыя асноўныя спажыўныя матэрыі як крухмал, цукар і бялкі перадаюцца ўніз па нутраной частцы кары дрэва і служаць для ўтварэньня новай дрэвясіны. Яны падрыхтоўваюцца з неарганічнай матэрыі ў лістох і разносяцца з лістоў па ўсяму дрэву.

Ствол дрэва ў папярэчным сваім разрэзе ясна выяўляе такую пабудову, кара дрэва служыць абаронай яго ад рэзкіх зьмен цяпла і холаду. Абалонь, як больш маладая частка дрэва, здольна праводзіць спажыўныя матэрыі, сэрцавіна зьяўляецца самай моцнай часткай дрэва і афарбавана яна ў больш цёмны колер, чым абалонь. Акрамя пералічаных слаёў рэзка адрозьніваюцца адзін ад другога сваёй афарбоўкай, мы можам пры папярочным разрэзе ствала лёгка адрозьніць простым вокам мноства розных па сваёй таўшчыні колец. Гэтыя кольцы і ёсьць штогодняе нарастаньне цела дрэва. Кожнае такое кальцо ў сваю чаргу складаецца з двух кружкоў—аднаго ўнутранага сьветлага ці вясеньняга кальца і другога надворнага цёмнага ці асеньняга кальца. Па ліку гэтых калец гадавага нарастаньня дрэва можна дакладна вызначыць яго ўзрост. Паміж дубам кары і верхнім слоем забалоні знаходзіцца біальны слой. Гэта той самы слой, у якім штогодна ўтвараецца новае наслаеньне дрэва. У адказах вучняў па другому пытаньню мы спаткалі і шэраг такіх адказаў, як напрыклад узрост дрэва можна вызначыць памераўшы яго мэтрам, ці такія адказы—трэба дрэва пасадзіць і сачыць за яго ўзростам, узрост можна вызначыць па сукох, па кары, па моху, па сэрцавіне, трэба дрэва пасадзіць, то праз некалькі дзён дрэва будзе вялікае. Па пытаньню—у якім напрамку дрэва лягчэй калоць, мы чакалі наступнага адказу: дрэва лягчэй калоць уздоўж валакон.

З таблічкі № 3 відаць адказы вучняў паасобных ФЗС і ШКМ (у процантах):

| Назва школы | Правільных адказаў | Адсутн. адказаў | Няправільн. адказаў | Адказ не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС | 97 | 3 | — | — |
| 6 ФЗС | 40 | 10 | 50 | — |
| 19 ФЗС | 82 | 11 | 7 | — |
| 25 ФЗС | 15 | 15 | 58 | 12 |
| 27 ФЗС | 57,4 | 25 | 3,6 | 14 |
| 39 ФЗС | 89 | 3 | 8 | — |
| Урэцкая ШКМ | 37,5 | 20 | 37,5 | 5 |
| Новасёлўская ШКМ | 0 | 100 | — | — |
| Заслаўская ШКМ | 100 | — | — | — |

Сярэдні працэнт правільных адказаў па ўсіх ФЗС складае 71 проц. Па ШКМ проц. правільных адказаў надзвычайна нізкі і гэта трэба тлумачыць слабасьцю прапрацоўкі пытаньня—утва-

рэньня валакна дрэва. Цела дрэва складаецца з клетак. Шэраг клетак, сабраных разам, утвараюць асобную групу ці частку дрэвясіннага арганізму. Сама клетка зярністае цела. Абалонка—цьвёрдае цела і складаецца са злучанай ткані ці клетачкі. Па меры росту цела дрэва, клетачка, якая ўтварае абалонку клетак, усё больш і больш таўсьцее і зьяўляецца цьвёрдай асновай, з якой і складаецца ўвесь арганізм дрэва. Такім чынам дрэва ёсьць нішто іншае, як зацьвярдзеўшая клетачка, ці злучаная ткань.

Адгэтуль зразумела, чаму калоць значна лягчэй удоўж валакон. Дрэнныя паказчыкі па гэтаму пытаньню мы атрымалі ў наступных ФЗС: 6, 25, 27, па ШКМ Урэцкай і асабіста па Навасёлькаўскай ШКМ, дзе з 27 вучняў ні адзін ня даў правільнага адказу. Між іншым вучні гэтых школ пісалі: «настаўнік не гаварыў». Адгэтуль і зразумела, чаму вучні далі нізкі паказчык правільных адказаў.

Па 4 пытаньню—у якім напрамку дрэва больш усыхае і ў якім наймены ўдоўж валакон у напрамку да цэнтра, або па акружыне. Па гэтаму пытаньню мы чакалі наступнага адказу: найбольш па акружыне і наймены уздоўж валакон.

Паказчыкам правільных адказаў па гэтаму пытаньню зьяўляецца табліцка № 4. (у процантах).

| Назва школы | Правільных адказаў | Адсутн. адказаў | Няправільн. адказаў | Адказ не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС . . . | 44 | 47 | 6 | 3 |
| 6 ФЗС . . . | 2 | 88 | 5 | 5 |
| 19 ФЗС . . . | 39 | 47 | 14 | — |
| 25 ФЗС . . . | 2 | 96 | 2 | — |
| 27 ФЗС . . . | — | 82 | 18 | — |
| 39 ФЗС . . . | 16,66 | 74,22 | 9,02 | — |
| Урэцкая ШКМ . . | 1 | 86 | 3 | 10 |
| Новасёлкаўская ШКМ . | 50 | 24 | 20 | 4 |
| Заслаўская ШКМ . | 96 | 4 | — | — |

З гэтае таблічкі відаць, што вучні зусім не ўяўляюць, як адбываецца ўсушка дрэва, за выключэньнем Заслаўскай ШКМ, якая дала правільных адказаў 96 проц.

Між тым, як пытаньне ўсушкі дрэва набывае надзвычайна важнае значэньне, як ў сацыялістычным будаўніцтве так і наогул; а як відаць з таблічкі вучні нашых школ гэтым пытаньнем займаліся вельмі дрэнна, а некаторыя школы зусім не займаліся. Між іншым, гэтае пытаньне інструктар мог вельмі лёгка засвоіць

з вучнямі ў майстэрні, паказаўшы зробленую рэч з сырога дрэва і сухога і пасьля гэтага растлумачыўшы вучням, што вільготнасьці ў дрэве можна дапусьціць ад 13—14 проц. Рэч, зробленая пры такой усушцы будзе надзвычайна трывалай пры розных тэмпэратурах. Сярэдні процант правільных адказаў па ўсіх ФЗС складае 50 проц., а ШКМ 19 проц.

На 5 пытаньне, якія ты ведаеш парокі дрэва, мы чакалі атрымаць ад вучняў наступны адказ: грыбкі, якія мы ацанілі 40 проц. косаслойнасьць 20 проц., трэшчыны 10 проц., сукаватасьць 30 %. З таблічкі № 5 відаць, што вучні ўсіх ФЗС і ШКМ далі зусім нездавальняючы адказ (у процантах):

| Назва школы | Правільны адказ | Адсутнасьць адказу | Няправ. адказ | Адказ не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС . . . | 25,5 | 61,9 | 3 | 12,54 |
| 6 ФЗС . . . | 2 | 98 | — | — |
| 19 ФЗС . . . | 7 | 43 | 50 | — |
| 27 ФЗС . . . | 46 | 19 | 9 | — |
| 39 ФЗС . . . | 9,7 | 72,3 | 18 | — |
| Урэцкая ШКМ . . | 2 | 28 | 7 | — |
| Новасёлкаўская ШКМ . | 40 | 45 | 15 | — |
| Заслаўская . . . | 21 | 51 | 25 | 3 |

Да парокаў дрэва трэба аднесьці наступныя:

1) сецявідныя трэшчыны, ці трэшчыны, якія ідуць ад сэрцавіны да кары, 2) марозабойныя трэшчыны, якія ідуць ад кары да цэнтру, 3) аблупы ці шчыліны, якія ўтвараюцца паміж кольцамі гадавога наслаеньня дрэва, 4) капы, наросты, ці наплывы, якія ўтвараюцца ад розных папсаваньняў у камбіяльным слаі дрэва, а асабліва ад разьвіцьця масы почак у адным месцы, 5) зьвітаватасьць, або пераблытанасьць тканей: пры ствале валакно мае будову ня простага напрамку, а пераблытанага, 6) косаслой—вінтавы напрамак валакон. Сукаватасьць, якая моцна зьніжае тэхнічныя ўласьцівасьці дрэвясіны. Сукі бываюць здаровыя і гнілыя. «Здаровыя сукі захоўваюць сувязь з дрэвясінай і маюць сьветлую афарбоўку і амаль што па свайму колеру не адрозьніваюцца ад самой дрэвясіны. Сукі, якія пасьля свайго адміраньня пакрываюцца зноў дрэвясінай, носяць назву выпадаючых, бо яны не зьвязаны з дрэвясінай ствала і лёгка вываліваюцца, асабліва пасьля сушкі. Хвароба гэта—такі стан дрэвясіны, пры якім

яе ткань зусім разбурваецца. Трэба адрозьніваць хваробы на жывым арганізьме дрэва і хваробы на мёртвым дрэве.

Гніль зьяўляецца вынікам размнажэньня на жывым целе дрэва паразітных грыбкоў. Гэтыя грыбкі маюць тры ступені разьвіцьця: 1) драбласьць, 2) сітавіна, 3) гніль. Дуплёватасьць—гэта выгніваньне сэрцавіны. Пры разьвіцьці грыба дрэвясіна дрэва цямнее і ператвараецца ў рухляватую масу, якая лёгка распадаецца на кусочкі. Вялікім шкоднікам зьяўляюцца жучкі-тачыльшчыкі, якія выдоўбліваюць маленькія дзірачкі, з якіх высыпаецца мучны пыл. Вось толькі пры такім талкаваньні вучні маглі даць правільны адказ на парокі дрэва ў значна вышэйшай ступені.

Сярэдні працэнт правільных адказаў па гэтаму пытаньню па ўсіх ФЗС 7, 38 проц. і ШКМ 19,2 проц.

На 6 пытаньне—чаму пры пілаваньні разводзяць зуб'я пілы, мы чакалі атрымаць наступны адказ—каб паменшыць каэфіцыэнт трэньня, гэты адказ мы лічылі за поўны адказ і ацанілі яго за 100 проц. Прыведзеная таблічка служыць яскравым паказчыкам, наколькі вучні, як ФЗС, так і ШКМ разьбіраюцца ў гэтым пытаньні. Між тым па некаторых школах і як прыклад 25-я ўзорная Менская ФЗС, на гэтае пытаньне ні адзін вучань не даў правільнага адказу. Гэта можна бачыць з пададзенай таблічкі № 6. (у процантах)

| Назва школы | Правільн. адказаў. | Адсутнасьць адказаў | Няправільн. адказаў | Адказаў не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС 5 гр. | 42 | 45 | — | 3 |
| 6 „ | 30 | 25 | 15 | 30 |
| 19 „ | 22 | 39 | 39 | — |
| 25 „ „ | — | 54 | 42 | 4 |
| 27 „ „ | 36 | 61 | 3 | — |
| 39 „ „ | 3,4 | 81,81 | 15,15 | — |
| Урэцкая ШКМ | 73 | 20 | 7 | — |
| Новасёлкаўск. ШКМ | 11 | 33 | 33 | 23 |
| Заслаўская | 23 | 11 | — | 66 |

Цікава адзначыць, што Урэцкая ШКМ па гэтаму пытаньню дала здавальняючы паказчык—73 проц. правільных адказаў.

На пытаньне—на што патрэбна жалезка, мы чакалі атрымаць ад вучня адказ—што падвойнае жалезка служыць для падламлі-

ваньня стружкі, якая каротка падламліваецца і дае мажлівасьць гладка абстругваць плоскасьці.

Адказ вучняў па гэтаму пытаньню відаць з таблічкі № 7 (у процантах):

| Назва школы | Правільных адказаў | Адсутнасьць адказаў | Няправільн. адказаў | Адказ не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС 5 гр. . . | 18,5 | 60,5 | 21 | — |
| 6 „ „ . . | — | 100 | — | — |
| 19 „ „ . . | 7 | 68 | 25 | — |
| 25 „ „ . . | — | 62 | 38 | — |
| 27 „ „ . . | 32 | 43 | 25 | — |
| 39 „ „ . . | — | 100 | — | — |
| Урэцкая ШКМ . . | — | 63 | 35 | 2 |
| Новасёлкаўская . . | 11 | 33 | 26 | 30 |
| Заслаўская . . . | — | 37 | — | 63 |

Гэтае пытаньне, як відаць з таблічкі, па школах зусім не прапрацавана. Па гэтаму пытаньню інструктар ня даў правільнай клясыфікацыі ўсіх стругальных інструмантаў, а таксама не паказаў розьніцы паміж гэтамі інструмантамі. Не праведзена гутарка аб канструкцыі шэрхэбеля, ардзінарным і двайным рубанку, фуганку, зензубелі. Трэба думаць, што вучні ў нашых майстэрнях выкарыстоўваюць стругальны інструмант так, як яны знаходзяць патрэбным, а не па патрэбе таго ці іншага матар'ялу пры яго апрацоўцы, што мае надзвычайна вялікае значэньне.

Інструктар павінен быў спачатку расказаць вучням, як я ужо адзначыў, аб пабудове стругальных інструмантаў, а таксама прывесьці гісторыю іх утварэньня, і пасьля гэтага паказаць практычна, калі неабходна выкарыстоўваць той, ці іншы стругальны іструмант пры апрацоўцы дрэва, як напрыклад—першы працэс апрацоўкі дрэва—шэрхэбель, указаць прыёмы, як ім карыстацца, устаноўка жалязка, другі працэс—фуганак, як ім карыстацца, устаноўка жалязка, трэці працэс—фуганак. А таксама трэба даць паняцьце аб ступені заточкі жалезак. Акрамя гэтага, вучні павінны добра ведаць, калі па ўласьцівасьцях дрэва можна замяніць шэрхэбель рубанкам. Па гэтаму пытаньню вучні не далі правільных адказаў, хаця з боку некаторых вучняў было імкненьне даць адказ—нашто патрэбна падвойнае жалезка ў рубанку, але гэтыя адказы былі вучнямі перанесены з дому і насілі няправільны характар, так напр. «каб глыбока браць стружку», «лягчэй габляваць», і «каб добра здымаць стружку».

Другая частка вучняў адказала, што настаўнік не тлумачыў і такі адказ атрымаўся па лініі большасьці школ. Адказы вучняў: «не тлумачыў інструктар»—носяць характар не выпадковасьці, а цалкам сапраўдны, бо гэта падцьвярджае і табліча—адсутнасьць ведаў у вучняў.

На 8 пытаньне, якім краем сьвярло здымае стружку і нашто ў сьвярле патрэбна канаўка, мы чакалі атрымаць ад вучняў наступны адказ—стружку здымае кронка пярэднім краем, канаўка патрэбна для выхаду стружкі, такі адказ мы лічылі за поўны і ацэньвалі ў 100 проц. правільнасьці адказу.

З таблічкі № 8 відаць, як вучні засвоілі канструкцыю сьвярла і працэс сьвярленьня.

| Назва школы | Поўны | Адсутн. адказ. | Няпр. адк. | Адказ не па сутнасьці | Звыш пытаньня не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС . . . | 39% | 58% | 3% | — | — |
| 6 „ . . . . | — | 100 | — | — | |
| 19 „ . . . | 21 | 79 | — | — | |
| 25 „ . . . | 13 | 87 | — | — | |
| 27 „ . . . | 41 | 87 | — | — | |
| 39 „ . . . | 7,6 | 83,39 | 9,1 | — | |
| Урэцкая ШКМ . . | 1 | 94 | 5 | — | |
| Новасёлкаўская ШКМ . | 49 | 33 | 7 | 11 | |
| Заслаўская ШКМ . | — | 100 | — | — | |

З гэтай таблічкі відаць, як слаба ўяўляюць вучні, на што патрэбна ў сьвярле канаўка і якім краем сьвярло здымае стружку. Нельга думаць, што вучні ня бачылі і не працавалі сьвярлом, а справа тут у тым, што інструктар не растлумачыў працэса сьвярленьня, а таксама не растлумачыў, як сьвярло выконвае сам працэс сьвярленьня. Інструктар павінен быў падрабязна растлумачыць вучням пабудову сьвярла—прыблізна ў такой паступовасьці. Сьвярло мае вінтавую нарэзку, берагі гэтай нарэзкі вострыя, якія пры сьвярленьні стругуць стружку, што ў сваю чаргу пападае ў канаўку і па вінту выходзіць ўверх, адначасова патрэбна даць уяўленьне вучням аб нажыме на сьвярло і толькі пасьля гэтага прыступіць да працэсу сьвярленьня. Вось-

такая лекцыя дала-б сапраўдныя політэхнічныя веды нашым вучням. Сярэдні проц. правільных адказаў па ФЗС 17,6 проц., сярэдні процант правільных адказаў па ШКМ—25,8 проц.

На пытаньне, якім інструмантам даўбяць дрэва, мы чакалі атрымаць адказ вучняў, што дрэва даўбяць долатамі, стамескай. Гэты адказ мы лічылі за поўны і ставілі 100 проц. пры правільнасьці адказу. Ня гледзячы на тое, што гэты інструмант зьяўляецца шырока распаўсюджаным, усё-ж ня ўсе вучні маюць уяўленьне аб долаце і стамесцы. Аб ведах вучняў па гэтаму пытаньню можа сьведчыць наступная таблічка (у процантах):

| Назва школы | Поўны адказ | Адсутнасьць адказу | Няправільны адказ. | Адказ не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС . . . | 47% | 47% | 6% | — |
| 6 „ . . . | 40 | 40 | 20 | — |
| 19 „ . . . | 64 | 32 | 4 | — |
| 25 „ . . . | 100 | — | — | — |
| 27 „ . . . | 82 | 18 | — | — |
| 39 „ . . . | 88 | 3 | 9 | — |
| Урэцкая ШКМ . . | 56 | 43 | 1 | — |
| Новасёлкаўская ШКМ . | 83 | 16 | — | 1 |

З гэтай табліцкі відаць, у якіх школах інструктар арганізоўваў пэдагагічны працэс, даўшы вучням поўнае ўяўленьне аб далбежных інструмантах; да такіх школ трэба аднесьці 25 ФЗС, рэшта школ, як і ў папярэдніх пытаньнях не дала поўнага ўяўленьня аб долаце і стамесцы, бо проц. пасьпяховасьці ніжэй здавальняючага. Гэта можна тлумачыць толькі тым, што ня было тлумачэньня гэтага пытаньня інструктарам, адгэтуль вучні выкарыстоўваюць інструмант, ня ведаючы яго прызначэньня і нават назвы.

Сярэдні процант правільных адказаў па ўсіх ФЗС 72,9 проц.

Сярэдні процант правільных адказаў па ўсіх ШКМ 67 проц.

На 10 пытаньне, якім інструмантам разьмечаны матар'ял перад апрацоўкай, мы чакалі атрымаць наступны адказ: мэтрам, вугольнікам, рэйсмусам, лінейкай і цыркулем. Калі вучань пералічыў усе гэтыя вымяральныя інструманты, мы веды вучня ацэньвалі ў 100 проц. правільнага адказу. Калі вучань называў адзін альбо два, мы выходзілі з наступнай ацэнкі—мэтр лічылі за 30 проц. правільнага адказу, навугольнік 10 проц., рэсмус 10 проц., лінейка 25 проц. і цыркуль 25 проц.—гэта значыць,

калі вучань у сваім адказе называў адзін навугольнік, мы лічылі за 10 проц. правільнага адказу.

Аб тым, як вучні нашых школ разьбіраюцца ў інструмантах можа сьведчыць наступная таблічка:

| Назва школы | Поўны адказ | Адсутнасьць адказу | Няправіл. адказ. | Адказ не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС . . . | 14,55% | 85,45% | — | — |
| 6 „ . . . . | — | 86 | 14 | — |
| 19 „ . . . | 19 | 66 | 4 | 11 |
| 25 „ . . . | 27 | 73 | — | — |
| 27 „ . . . | — | 65 | 29 | 6 |
| 39 „ . . . | 19 | 81 | — | — |
| Урэцкая ШКМ . . | 39 | 52 | 1 | 8 |
| Новасёлкаўская ШКМ . | 18 | 58 | — | 24 |
| Заслаўская . . . | — | 100 | — | — |

Можна сьмела думаць, выходзячы з гэтай таблічкі, што вучні зусім не выкарыстоўваюць вымяральных прыбораў, а ўся работа ў майстэрнях адбываецца на вока. Нельга ўявіць, што вучань у час палітэхнічнага навучаньня выкарыстоўвае мэтр, навугольнік, цыркуль і г. д., ня ведаючы яго назвы.

Фактычна інструктар павінен пачынаць работу ў майстэрні па дрэваапрацоўцы з тлумачэньня вымяральных прылад. Інструктар павінен даць поўнае прадстаўленьне, што такое мэтр, цыркуль, навугольнік, лінейка, рэсмус, як карыстацца гэтымі прыладамі ў час працы, у якіх працэсах пры апрацоўцы дрэва неабходна выкарыстоўваць тую ці іншую вымяральную прыладу. Пасьля тлумачэньня неабходна практычна праверыць наколькі вучні разьбіраюцца і ўмеюць выкарыстоўваць вымяральны інструмант у час сваёй працы. Толькі пасьля грунтоўнага засваеньня, можна даць вучням такую работу, дзе-б яму прышлося выкарыстаць мэтр, лінейку, навугольнік, прасачыўшы правільнасьць ужываньня. Для гэтага патрэбна, каб усе вытворчыя працэсы былі аформлены ў схэмы чарцяжы з точным паказаньнем разьмераў, дзе-бы вучань строга абмяркоўваў разьмеры для апрацоўкі матар'ялу.

Для выяўленьня ведаў вучняў 7-ай групы ў галіне дрэваапрацоўкі была праведзена анкета ў наступных Менскіх школах: 5 ФЗС, 6 ФЗС, 25 ФЗС, 27 ФЗС, 39 ФЗС і па раёну—Урэцкая ШКМ, Новасёлкаўская ШКМ 7-а, 7-в групы і Заслаўская ШКМ. Усяго ахоплена вучняў 7 груп 231. Анкета была складзена з наступных 10 пытаньняў:

1. Чым розьніцца фуганак ад рубанка.
2. Чым розьніцца фугаваньне ад звычайнага габляваньня.
3. Якое прызначэньне мае малка.
4. Чым розьніцца апрацоўка цыклінай ад габляваньня.
5. Як замацоўваць сьвярло ў сьвярлільным станку.
6. Як замацаваць выраб на такарным станку.
7. Якое прызначэньне мае лесапільная рама.
8. Якую форму мае піла лентачнага станка.
9. Якую форму мая піла цыркулярка.
10. Якія ты яшчэ ведаеш станкі дрэваапрацоўкі.

Усе гэтыя пытаньні выцякалі з праграмнага матар'ялу, якія павінны былі быць прапрацаваны ў першай палове навучальнага году. Па першаму пытаньню—чым розьніцца фуганак ад рубанка мы чакалі атрымаць наступны адказ: разьмерам фуганка, ён даўжэйшы ад рубанка. Як вучні разьбіраюцца і ўмеюць адрозьніваць фуганак ад рубанка, можа сьведчыць наступная табліčка:

| Назвы школы | Поўны адказ | Адсутнасьць адказу | Няправ. адказ | Адказ не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС . . . | — | — | 100% | |
| 6 „ . . . . | 28% | 17% | 55 | |
| 25 „ . . . . | 26 | 15 | 26 | 33 |
| 27 „ . . . . | 24 | 24 | 6 | 48 |
| 39 „ . . . . | 18·18 | 40,9 | 40,9 | |
| Урэцкая ШКМ . . | 3,64 | 96,36 | — | |
| Новасёлкаўская 7-а . | 46 | 51 | | |
| „ 7-в . | 96,55 | — | 3,45 | |
| Заслаўская ШКМ . | 17,1 | 82,9 | — | |

Гэтая табліčка служыць яскравым паказчыкам, як дрэнна засвойваецца праграма ў паасобных школах. Так, напр., 5 ФЗС гэтае пытаньне зусім не прапрацавала. Вучні ў сваіх адказах пішуць— настаўнік не тлумачыў. Адгэтуль зразумела, што ні адзін з 25 вучняў не даў правільнага адказу. Мала лепш абстаіць справа і ў іншых школах—6 ФЗС дала правільных адказаў 28 проц. 25 ФЗС (узорная) 26 проц. 27 ФЗС—24 проц., 39 проц. ФЗС—18,18 проц., Урэцкая ШКМ 3,64 проц. Цікава адзначыць, што Новасёлкаўская ШКМ 7-а дала правільных адказаў 46 проц. у той час, як 7-в гр. гэтай школы дала правільных адказаў 96,55 проц. Гэты паказчык

па Новасёлкаўскай ШКМ зьяўляецца надзвычайна характэрным, што адна група дала добры паказчык у той час, як другая група дрэнны. Гэта трэба тлумачыць на наш погляд тым, што настаўнік у адной групе добра прапрацаваў гэтае пытаньне, адкуль і атрыманы добрыя вынікі, у той час, як у другой групе на замацаваньне гэтага пытаньня было зьвярнута менш увагі. Заслаўская ШКМ дала правільных адказаў 17,1 проц., сярэдні процант правільных адказаў паміж усімі ФЗС 18,3 проц. і паміж усімі ШКМ складае 22 проц.

Між іншым шмат ёсьць такіх адказаў, па якія давядзецца думаць, што нашы вучні зусім ня бачылі ні фуганка, ні рубанка, так напр. вучань 7 групы 6 ФЗС адказвае—«рубанак служыць для рэзкі дрэва», «фуганак здымае тоўстую і доўгую стружку», вучні 27 ФЗС у сваёй большасьці адказвалі—«фуганак утварае гладкую паверхню, а рубанак здымае слой», вучні 39 ФЗС у большасьці адказвалі—«ніколі ня бачылі гэтых інстумантаў». Як відаць, настаўнікі не далі правільных тлумачэньняў, што такое фуганак і што такое рубанак. Настаўнікі не растлумачылі вучням, для якіх працэсаў прыстасаваны фуганак і рубанак. Вучні у майстэрні выконваюць заданьні мэханічна, ня ведаючы канструкцыі гэтых інструмантаў. На другое пытаньне, чым розьніцца фугаваньне ад звычайнага габляваньня—мы чакалі атрымаць наступны адказ: фугаваньне дае ня толькі правільна абструганыя плоскасьці як пры габляваньні, але распалажэньня аднэй да другой пад адпаведным кутом. Габляваньне дае правільна абструганыя плоскасьці. Адказы вучняў па гэтаму пытаньню прадстаўлены ў наступнай таблїцы. Гэтая таблічка зьяўляецца характэрным паказчыкам, як вучні разбіраюцца з звычайным габляваньнем і фугаваньнем.

| Назва школы | Поўны адказ | Адсут. адказу | Няправіль. адказ | Адказ не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС . . . | — | 36% | 64% | — |
| 6 „ . . . | — | 50 | 50 | — |
| 25 „ . . . | — | 26 | 45 | 29 |
| 27 „ . . . | — | 53 | 47 | — |
| 39 „ . . . | — | 22,74 | 77,37 | — |
| Урэцкая ШКМ . . | 0,45 | 95 | 4,54 | — |
| Новасёлкаўская 7-а . | 65 | 35 | — | — |
| „ 7-в . | 6,9 | 6,9 | 58,62 | 27,58 |
| Заслаўская . . . | 29 | 79 | — | — |

Як відаць з гэтай таблічкі поўная адсутнасьць правільнага адказу па ўсіх ФЗС і толькі ШКМ даюць некаторы правільны адказ. Гэтая таблічка ясна гаворыць, што гэтае пытаньне зусім ня было прапрацавана ў нашых ФЗС і толькі некаторыя ШКМ як напр. Новасёлкаўская гэтым пытаньнем займалася, але таксама ў недастатковай меры. Як відаць з прыкладзенай таблічкі, ні адзін вучань ФЗС ня даў правільнага адказу. Вучні на гэтае пытаньне адказвалі,—«настаўнік ня тлумачыў».

Надзвычайна важным разьдзелам па вывучэньні дрэваапрацоўкі зьяўляецца струганьне, якое займае вялікае мейсца ў палітэхнічным вывучэньні дрэваапрацоўкі, і на якое трэба інструктарам зьвярнуць належную ўвагу. З ведаў па гэтаму разьдзелу патрэбна даць па-першае струганьне, як разнавіднасьць рэзаньня, па другое—пабудову шархэбеля, рубанка, фуганка. Прызначэньне паасобных частак стругальных інструмантаў. Узьдзейнічаньне рубанка на якасьці струганьня. Пасьля таго, як вучні добра азнаёмяцца з гэтымі інструмантамі, неабходна даць ім належную гісторыю разьвіцьця гэтых інструмантаў і зрабіць параўнаньне—рубанка з стругальным станком. Пасьля гэтага перайсьці да працэсаў работы гэтымі інструмантамі. Шархэбель выкарыстоўваецца для першапачатковай апрацоўкі дрэва і жалезка яго робіцца паўкруглым, бо пры гэтай форме жалезка лягчэй здымае тоўстую стружку. Пасьля шархэбеля паверхня апрацоўваецца простым рубанкам з адным жалезкам і канчатковая апрацоўка робіцца двайным рубанкам. Гэтыя віды апрацоўкі дрэва і будуць называцца габляваньнем. Калі патрэбна асабліва правільная плоскасьць, апрацоўка ўтвараецца фуганкам з доўгай калодкай. Фуганак ужываецца пры фугаваньні досак, якія трэба склёпваць. Вось такая будзе розьніца паміж габляваньнем і фугаваньнем.

Сярэдні процант правільных адказаў па усіх ФЗС 0 проц.

Сярэдні процант правільных адказаў па усіх ШКМ 25,13 проц. На пытаньне—якое прызначэньне мае малка—мы чакалі атрымаць наступны адказ—малка выкарыстоўваецца для разметкі любых кутоў. Як засвоілі гэтае пытаньне вучні, можна бачыць з прыкладзенай таблічкі, якая зьяўляецца яскравым паказчыкам, наколькі слаба разьбіраюцца нашы вучні ФЗС і ШКМ, для чаго служыць вымяральная прылада, як малка.

| Назва школы | Поўны адказ | Адсут. адказ. | Няправ. адказ | Адказ не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС | — | 12% | 88 | |
| 6 " | — | 95 | % | — |
| 25 " | 4 | 44 | 5 | |
| 27 " | 12 | 88 | — | |
| 39 " | — | 41 | 59 | |
| Урэцкая ШКМ | 2 | 98 | — | |
| Новасёлаўская 7-а | — | 100 | — | |
| " 7-в | 3,45 | 89,65 | — | |
| Заслаўская ШКМ | — | 100 | 6,9 | |

Калі да гэтай таблічкі дадаць адказы вучняў, то стане зусім зразумелым, чаму мы атрымалі такі нізкі паказчык правільных адказаў: вучні амаль што ўсіх школ адказвалі, мы ня чулі ніводнага слова, што такое малка, ніколі ня бачыў і ня чуў, што такое «малка». Былі і такія адказы «малка падтрымлівае жалезка ў гэбліку». Сярэдні процант правільных адказаў па усіх ФЗС складае 15 проц., а ўсіх ШКМ складае: 1,2 проц.

На пытаньне, чым адрозьніваецца апрацоўка цыклінай ад габляваньня—мы чакалі атрымаць ад вучняў наступны адказ, які мы лічылі за правільны—пры габляваньні зразаюць з паверхні стружку, а цыклінай скобляць па паверхні. Наколькі засвоілі гэта пытаньне вучні ФЗС і ШКМ, можа сьведчыць наступная таблічка:

| Назва школы | Поўны адказ | Адсут. адказу | Няпр. адказ | Адказ не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС . . . | — | 96% | 4% | — |
| 6 „ . . . | — | 100 | — | |
| 25 „ . . . | — | 100 | — | |
| 27 „ . . . | — | 94 | 6 | |
| 39 „ . . . | — | 95,45 | 4,64 | |
| Урэцкая ШКМ . . | — | 100 | — | |
| Новасёлкаўская 7-а ШКМ | — | 100 | — | |
| „ 7-в „ . | — | 100 | — | |
| Заслаўская ШКМ . | — | 100 | — | |

Вось тыя паказчыкі, якія мы атрымалі. Як відаць з таблічкі, ні адзін вучань з 231 ня даў правільнага адказу, як па ФЗС, так і ШКМ усе вучні супроць гэтага пытаньня анкеты адказалі—«Ня вучылі». Ня гледзячы на тое, як раней ужо было адзначана, што ўсе гэтыя пытаньні былі пастаўлены выходзячы з праграмнага матар'ялу і павінны былі быць прапрацаваны. Поўная адсутнасьць ведаў у вучняў гаворыць і аб тым, што наша праграма па палітэхнічнаму і працоўнаму навучаньню ня выконваецца. Сярэдні процант правільных адказаў, як па ФЗС, так і па ШКМ 0 проц.

На пытаньне—як замацоўваюць сьвярло ў сьвярлільным станку—мы чакалі атрымаць наступны адказ, які лічылі за правільны: устаўляюць у патрон сьвярло, ці ў канічную расточку

шпіндзеля. Аб правільнасьці адказаў на гэтае пытаньне можа сьведчыць наступная таблічка.

| Назва школы | Поўны адказ | Адсут. адказ | Няпр. адказ | Адказ не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС . . . | — | 12% | 88% | — |
| 6 „ . . . . | 6 | 66 | 28 | |
| 25 . . . . | — | 96 | 4 | |
| 27 . . . . | 77 | 23 | — | |
| 39 . . . . | — | 100 | — | |
| Урэцкая ШКМ . . | 0,9 | 99,1 | — | |
| Новасёлкаўская 7-а ШКМ | 50 | 50 | — | |
| „ 7-в . | — | 13,8 | 86,3 | |
| Заслаўская ШКМ . | 80 | 20 | — | |

Як відаць з прыкладзенай таблічкі наперадзе ідзе па правільнасьці адказаў Заслаўская ШКМ, даўшы 80 проц. правільных адказаў, затым ідзе 27 Менская ФЗС, якая дала правільных адказаў 77 проц. Цікава адзначыць Новасёлкаўскую ШКМ, у якой 7-а група дала правільных адказаў 50 проц. у той час, як 7-в гр. гэтай школы не дала ні аднаго правільнага адказу.

Гэтае становішча мне здаецца можна тлумачыць тым, што інструктар у 7-в гр. ня тлумачыў. Вучні ў сваіх адказах пішуць: настаўнік «ня вытлумачыў» у той час, як у групе 7-а гэтых адказаў з боку вучняў няма. Вучні ня толькі павінны ведаць, як замацована сьвярло ў сьвярлільным станку, яны павінны добра ўяўляць, што сьвідраваньне ёсьць разнавіднасьць працэсу рэзаньня, вучні павінны ведаць ручныя і мэханічныя станкі. Прынцыпы пабудовы пэравых, цэнтравых і сьпіральных сьверлаў, правілы заточкі, правілы адводу стружкі, адгэтуль яны павінны ўмець замацаваць сьвярло у патроне, ці шпіндзелі. Вучні павінны добра ведаць шпіндзель, яго месца ў станку і яго функцыі, а таксама і патрон. Нарэшце патрэбна параўнаць эфэктыўнасьць сьвідраваньня па станку ручным спосабам і мэханічным. Сярэдні процант правільных адказаў па ўсіх ФЗС 13 проц. і ШКМ 38 проц.

На пытаньне—як замацаваць выраб на такарным станку, мы чакалі атрымаць наступны адказ, які лічым за правільны—зама-

цаваць выраб на такарным станку паміж цэнтрам задняй бабкі і пярэдняй вілкай.

Правільныя адказы па гэтаму пытаньню можна бачыць з наступнай таблічкі.

| Назва школы | Поўны адказ | Адсут. адказ | Няпр. адказ | Адказ не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС . . . | — | 16% | 84% | — |
| 6 „ . . . | 11 | 89 | — | — |
| 25 „ . . . | — | 100 | — | — |
| 27 „ . . . | 8 | 24 | 68 | — |
| 39 „ . . . | — | 100 | — | — |
| Урэцкая ШКМ . . | 3,78 | 96,23 | — | |
| Новасёлкаўская 7-а . | 31 | 53 | 16 | |
| „ 7-в . | 93,1 | — | 6,9 | |
| Заслаўская ШКМ . . | 91,43 | 8,57 | — | |

Гэтая таблічка дае характэрны паказчык, як абстаіць справа з палітэхнічным навучаньнем у нашых ФЗС і ШКМ. Нізкі паказчык правільных адказаў трэба тлумачыць тым, што інструктар па-рамесьніцку не разумеючы сутнасьці палітэхнічнага навучаньня арганізоўвае пэдагагічны працэс. Адгэтуль і атрымоўваецца нізкі паказчык правільных адказаў. Нельга думаць, што 5, 6, 25, 27, і 39 ФЗС вучні не працавалі на такарным станку, бо якраз гэтыя школы маюць такарныя станкі, але справа ў тым, што вучні мэханічна выконваюць той ці іншы працэс у нашых майстэрнях. Як трэба, на наш погляд, правільна арганізаваць пэдагагічны працэс, каб вучань зразумеў гэтае пытаньне?—Для гэтага трэба, каб інструктар азнаёміў вучняў групы з такарным станком, яго часткамі, як замацаваць выраб на станку і толькі пасьля гэтага можна дапусьціць вучняў для работы на такарным станку. Пры такой арганізацыі пэдагагічнага працэсу вучні добра разьбіраліся-б з тэхнічнай тэрміналёгіяй. Складаецца уражаньне з атрыманых матар'ялаў, што вучні ўмеюць працаваць на такарным станку, ня ведаючы яго. Сярэдні процант правільных адказаў па ўсіх ФЗС 13 проц. і па ШКМ 33 проц.

На пытаньне—якое прызначэньне мае лесапільная рама, мы чакалі атрымаць ад вучняў наступны адказ—лесапільная рама слу-

жыць для распілоўваньня бярвеньняў. Аб тым, як вучні ўяўляюць лесапільную раму, можа сьведчыць наступная таблічка:

| Назва школы | Поўны адказ | Адсутн. адказу | Няправільны адказ |
|---|---|---|---|
| 5 ФЗС | — | 100% | — |
| 6 „ | 66 | 23 | 11 |
| 25 „ | 4 | 82 | 14 |
| 27 „ | 6 | 82 | 12 |
| 39 „ | — | 100 | — |
| Урэцкая ШКМ | — | 100 | — |
| Новасёлкаўская 7-а | — | 100 | — |
| „ 7-в | 72 | 28 | — |
| Заслаўская ШКМ | 17,1 | 82,9 | |

Гэтая таблічка зьяўляецца характэрным паказчыкам як ФЗС і ШКМ зьвязаны з вытворчасьцю ў галіне дрэваапрацоўкі.

Гэтая таблічка дае яскравы паказчык, як праводзіцца вытворчая экскурсія на заводы дрэваапрацоўкі. З гэтай таблічкі відаць, што тыя школы, якія рабілі вытворчыя экскурсіі, больш-менш ўяўляюць аб лесапільнай раме, як напрыклад 6 ФЗС, якая дала правільных адказаў 66 проц. і Новасёлкаўская ШКМ—72 проц. З гэтай таблічкі таксама відаць і тыя школы, якія замкнуліся ў сваіх майстэрнях, як напр. 25, 27, 39 ФЗС, Урэцкая і Заслаўская ШКМ даўшы правільных адказаў ад 0-17 проц. Як відаць, ўяўленьне аб лесапільнай раме вучні атрымалі ў 6 ФЗС і Новасёлкаўскай ШКМ, рэшта школ гэтых ведаў не дала, што відаць з адказаў вучняў—«ня вучылі». Школы, у якіх загадзя была расплянавана экскурсія і вучні атрымалі заданьні, у якіх былі адбіты наступныя моманты: а) прызначэньне лесапільнай рамы, б) з якіх частак складаецца лесапільная рама, в) назіраньне за асноўнымі працэсамі расьпілоўкі бярвеньняў. У заданьні павінен быць паказаны паступовы плян назіраньняў за вытворчасьцю расьпілоўкі бярвеньняў, павінны давацца вучням канкрэтныя кантрольныя работы, як на прыклад: зарысоўкі лесапільнай рамы, ўстаноўка піл для расьпілаваньня рознай таўшчыні дошак, пуск, лік абаротаў піл. У школе арганізаваны экскурсыйны матар'ял павінен распрацоўвацца. Сярэдні процант правільных адказаў па ўсіх ФЗС складае 13 проц., а ШКМ 32,8 проц.

На пытаньне, якую форму мае піла-цыркулярка мы чакалі атрымаць ад вучняў наступны адказ: Піла-цыркулярка мае форму

дыску з зуб'ямі па акружыне і гэты адказ вучня лічылі за поўны. Ня гледзячы на тое, што ў большасьці менскіх школ у майстэрнях маюцца пілы-цыркулярkі, далёка ня ўсе вучні маюць добрае ўяўленьне аб гэтых пілах. Паказчыкам гэтага можа служыць наступная таблічка.

| Назва школы | Поўны адказ | Адсут. адказу | Няпр. адказ | Адказ не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС | 88% | 12% | — | — |
| 6 „ | 73 | — | 27 | — |
| 25 „ | 96 | — | 4 | — |
| 27 „ | 100 | — | — | — |
| 39 „ | 59,09 | 36,36 | 4,55 | — |
| Урэцкая ШКМ | 11,37 | 88,63 | — | — |
| Новасёлкаўская 7-а | 52 | 48 | — | — |
| „ 7-в | 96,56 | 3,45 | — | — |
| Заслаўская ШКМ | 8 | 20 | — | — |

Гэтая таблічка паказвае, што вялікі процант вучняў ня мае ўяўленьня аб цыркулярнай піле. Так напрыклад 5 ФЗС дала адсутнасьць адказаў 12 проц., 6 ФЗС няправільных адказаў 27 проц. і гэты процант падае на арыгінальныя адказы вучняў «напалову круглую, проставугольная, круг без нарэзаў, 39 ФЗС—«піла-цыркулярка мае выгляд кола». Яшчэ горш абстаіць справа ў Урэцкай ШКМ, дзе вучні проста адказалі: «мы пра пілу-цыркулярку ніколі ня чулі і настаўнік нам не казаў». Адказы вучняў трэба лічыць за правільныя, адсутнасьць адказу па Урэцкай ШКМ складае 88,63 проц.

Сярэдні процант правільных адказаў па ўсіх ФЗС складае 83,5 проц. і ШКМ 63 проц.

На пытаньне—якую форму мае піла лентачнага станка мы чакалі атрымаць наступны адказ, які лічылі за правільны і ацэньвалі яго за 100 проц.—піла лентачнага станка мае форму бесканечнай ленты з зуб'ямі на адным краі. Аб тым, як вучні разьбіраюцца і ўяўляюць лентачную пілу, можа сьведчыць наступная табліца:

| Назва школы | Поўны адказ | Адсут. адказу | Няпр. адказ | Адказы не па сутнасьці |
|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС | — | 10% | 80% | — |
| 6 „ | — | 11 | 89 | — |
| 25 „ | — | 96 | 4 | — |
| 27 „ | 53 | 41 | 6 | — |
| 39 „ | 9,19 | 59 | 31,81 | — |
| Урэцкая ШКМ | — | 100 | — | — |
| Новасёлкаўская 7-а гр. | 46 | 51 | 3 | — |
| „ 7-в гр. | 55,17 | 3,45 | 41,38 | — |
| Заслаўская ШКМ | 8,57 | 84,29 | 17,14 | — |

Гэтая таблічка служыць яскравым паказчыкам, як прапрацавана гэтае пытаньне ў ФЗС і ШКМ. З гэтае таблічкі мы бачым, што 5, 6 і 25 ФЗС гэтым пытаньнем зусім не займаліся, ня гледзячы на тое, што яно выцякае з праграмнага матар'ялу і толькі 27 ФЗС троху займалася гэтым пытаньнем, даўшы правільных адказаў 53 проц. і думала займацца 39 ФЗС, даўшы правільных адказаў 9,19 проц. Што тычыцца ШКМ, то іх трэба таксама падзяліць на дзьве часткі; так напрыклад Урэцкая ШКМ дала 0 проц. правільных адказаў, Заслаўская 8,57 проц. у той час як Навасёлкаўская ШКМ 7-а гр. дала правільных адказаў 46 проц. і 7-в гр. 55,17 проц.

Чым тлумачыць, што вучні ў большасьці школ зусім не ўяўляюць формы лентачнай пілы? На наш погляд на гэтае пытаньне вельмі лёгка адказаць, ды і сама таблічка гаворыць аб прычынах адсутнасьці ведаў у вучняў. Нашы інструктары ў сваёй большасьці займаюцца не па праграме, а ўсім тым, што прыдзе ў голаў. Ды і сапраўды, хто хоць трохі наглядаў за нашымі майстэрнямі, то напэўна скажа, што у нашых майстэрнях заўжды паўтараюць адзін і той-жа працэс—вучні стружуць, вучні пілуюць зачастую без пэўнай мэты, а таксама без усякага тлумачэньня з боку інструктара. З гэтае таблічкі відаць, дзе інструктар пачынае сапраўды ставіць палітэхнічнае навучаньне на правільныя рэйкі, рэзка адмяжаваўшыся ад профэсіянальнага саматужнага навучаньня. што гэта так можна бачыць з таблічкі—Навасёлкаўская ШКМ дала правільных адказаў 56,7 проц. і 27 Менская ФЗС 53 проц., рэшта школ як ФЗС, так і ШКМ займаюцца не праграмнымі пытаньнямі, а займаюцца трэніроўкай, габлююць, пілуюць. Калі параўнаем правільныя адказы паміж ФЗС і ШКМ, то сярэдні процант правільных адказаў атрымаем наступны: ФЗС 10,1 проц., а ШКМ—29,5 проц., з сярэдняга проценту відаць, што ШКМ ідуць наперадзе ў параўнаньні з ФЗС. Прычыны дрэнных посьпехаў будуць даны ў агульных вывадах.

На апошняе пытаньне—якія ты яшчэ ведаеш станкі дрэваапрацоўкі, мы чакалі атрымаць наступны адказ: стругальны 40 проц., фрэзэрны 20 проц., далбежны 20 проц., шліфавальны 20 проц., прычым адказ па гэтаму пытаньню мы расцэньвалі, выходзячы з удзельнай яго вагі ў дрэваапрацоўчай вытворчасьці. Так напр.: стругальны станок 40 проц., фрэзэрны станок 20 проц., далбежны станок 20 проц., шліфавальны 20 проц., калі вучань пералічыў усе гэтыя станкі, мы лічылі за поўны адказ і ставілі яму 100 проц. З усіх школ, намі абсьледаваных, выявілася, што толькі Навасёлкаўская і Заслаўская ШКМ далі правільных поўных адказаў, гэта значыць вучні пералічылі, праўда можа мэханічна без пэўнага ўяўленьня аб гэтых станках першая—29 проц. і Заслаўская ШКМ—58,75 проц. Што датычыцца Менскіх ФЗС, то ні адна з іх не дала правільнага адказу. Аб тым, як вучні нашых школ ўяўляюць

асноўныя тыпы станкоў дрэваапрацоўкі, можа сьведчыць наступная таблічка:

| Назва школ | Поўны адказ | Адказ не па сут. | Няпр. адказ. | Струг. | Фрэз. | Дал. | Шліф. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 ФЗС . . . | — | 67,6% | 12% | 17,5% | — | — | 3% |
| 6 „ . . . . | — | 15,6 | 57 | 6,7 | 11 | — | 1 |
| 25 „ . . . | — | 30,2 | 25,4 | 29,2 | 15,2 | — | — |
| 27 „ . . . | — | 67 | 16,5 | 4,5 | 0,9 | — | — |
| 39 „ . . . | — | 75,47 | 18,18 | 5,45 | 0,9 | — | — |
| Новасёлкаўская 7-а . | 29 | 11 | — | 29 | — | — | — |
| „ 7-в . | — | 71 | — | 29 | — | — | — |
| Урэцкая ШКМ . . | — | 100 | — | — | — | — | — |
| Заслаўская . . . | 58,55 | 41,25 | — | 58,75 | — | — | — |

Між іншым характэрна адзначыць, што ШКМ знаходзіцца ў значна большым радыусе да буйнай дрэваапрацоўчай прамысловасьці, у той час, як ФЗС Менская 19, 6, якія прымацаваны да дрэваапрацоўчага заводу і знаходзяцца амаль што ў адным квартале, ні адзін вучань гэтых ФЗС ня даў правільнага адказу, дагэтых ФЗС трэба аднесьці і 5,25, 39. Яшчэ больш цікавы факт, што 25 узорная Менская ФЗС, маючы амаль усе станкі па дрэваапрацоўцы, не дала ні аднаго правільнага адказу. Усе вучні, як адзін, адказалі—«ня вучылі, інструктар ня тлумачыў». Між іншым вучні працуюць на гэтых станках і атрымліваецца, што вучні працуюць, не разумеючы станка, а проста мэханічна, падсоўваючы дошку і выконваючы нейкі працэс, якога цалкам не разумеюць, а таксама не разумеюць і той машыны, на якой працуюць.

Чым тлумачыцца нізкі паказчык ведаў у нашых вучняў, як па ФЗС, так і па ШКМ? На наш погляд тым, што майстэрні ў нашых школах надзвычайна дрэнна арганізаваны, як з боку абсталяваньня, так і з боку вылучэньня плошчы па некаторых школах пад майстэрні. Абсталяваньне майстэрняў адбывалася без належнага кантролю, стыхійна. Такім чынам у нашы школы пападала такое абсталяваньне, якое займае плошчу майстэрні і не прадстаўляе сабой ніякай пэдагагічнай каштоўнасьці: па другое, мы маем шэраг школ, якія знаходзяцца ў стадыі арганізацыі, ці загадчыкі толькі зьбіраюцца прыступіць да арганізацыі гэтых майстэрняў, вылучаючы пад майстэрні самыя дрэнныя пакоі. Нельга не зача-



піць пытаньне аб тым, што нашы інструктары ў сваёй большасьці ня маюць сталай тэорэтычнай пэдагагічнай падрыхтоўкі, а гэта высокакваліфікаваныя рабочыя—практыкі. Таму ў школьных майстэрнях вучні выконваюць чыста мэханічна навыкі, а не палітэхнічнае выхаваньне як частку камуністычнага выхаваньня. Бадай усюды вучні выконваюць той ці іншы працэс без папярэдняга тлумачэньня. Возьмем напрыклад такі працэс, як струганьне? Перад струганьнем інструктар павінен азнаёміць вучняў з інструмантамі, якімі робіцца струганьне, як напр., шэрхэблем, ардзінарным і двайным рубанкам, фуганкам і г. д., паказаць вучням, што гэты від інструмантаў адносіцца да нажыму рэжучых, што іншыя сталярныя інструманты будуць адносіцца да другіх відаў, як напр. ударна рэжучыя—сякера, долата, стамеска; непасрэдна ўдарныя—малаток, кувадла; нажымныя—адвёртка, абцугі, плоскагубцы, францускі ключ. Пасьля такой клясыфікацыі неабходна перайсьці да тлумачэньня, як збудаваны—шэрхэбель, ардзінарны і двайны фуганкі, рубанкі і г. д.

Возьмем рубанак, трэба паказаць, расказаць вучням, што рубанак складаецца: а) з калодкі (расказаць, з якога дрэва робяцца калодкі), б) ручкі і ражок, в) клінішка, г) жалезкі. Падвойнае жалезка складаецца з самага жалезка і што жалезка прызначаецца для здыманьня стружкі, а гарбацік ламаць стружку і тым папярэджвае яе скалваньне, а таксама гарбацік ахоўвае апрацаваную паверхню дрэва ў час габляваньня ад раскола, калі патрэбна вельмі гладкая апрацоўка паверхні, тады вострыя лезьвія жалезка, разьвёўшы іх адзін ад другога на 0,5—0,75 м/м, у сярэдзіне канаўкі выдаўбляюць гняздо для пропуска жалеза і клінішка. Пярэдняя сьценка гнязда скатваецца ў бок наска калодкі, а задняя сьценка яе выводзіцца пад кутом звычайна ў ардзінарных жалезках у 48°, а для падвойных у 50-52°. Каб атрымаць гэты кут у 48° патрэбна па падатку ад рагаткі ці прорэзі адкласьці назад 7/8 вышыні самой калодкі. Чым больш нахіл жалезка, тым больш яна будзе калоць апрацоўваемую паверхню дрэва. Крута пастаўленае жалезка не скачвае стружку, а будзе скабліць яе на манер работы цыклінаю. Шырыня прорэзі ў ніжняй поласьці рубанка робіцца ад 10 да 15 м/м.

Шырыня прорэзі павялічваецца па меры патрэбы. Наогул прорэзь залежыць ад таўшчыні жалеза. Пасьля тлумачэньня аб будове і прызначэньні інструманта, інструктар павінен даць уяўленьне як практычна карыстацца рубанкам—напрыклад: рубанак трэба браць правай рукою зьверху калодкі і з-заду жалезка паміж вялікім і ўказацельным пальцамі, а левай рукой за ражок чатырмя пальцамі з левага боку, а вялікім пальцам з правага. Пасьля гэтага ўказаць вучням на супраціўленьне і тэхналёгічныя асаблівасьці таго матар'ялу, над якім вучні будуць працаваць, і толькі пасьля гэтага перайсьці на рабочыя апэрацыі, расказаўшы вучням, што правая рука пасылае рубанак ці фуганак упе-

рад, а левая накіроўвае яго ў час руху і адначасова вядзе нажым.

Нажым левая рука вядзе толькі да тых часоў, пакуль рубанак не дойдзе да канца руху, пасьля чаго нажым перадаецца правай руцэ. У час руху рубанкам сьпераду павінна быць левая нага і толькі згінаецца ў калені, а правая выцягваецца, але ступня не аддзяляецца ад падлогі. Пры апрацоўцы доўгіх паверхняў, рух трэба пачынаць з правай нагі, спачатку правая нага прыстаўляецца да левай, а потым ужо левая перасоўваецца ўперад, калі-б рух уперад пачынаўся з левай нагі, то корпус вучня пры паступовым руху рубанка траціў-бы апору ў левайназе і прымушан-бы быў ўсім цяжарам свайго цела навальвацца на рубанак і гэтым парушаў-бы роўнамерны нажым.

Нізкі паказчык ведаў у галіне дрэваапрацоўкі, які мы атрымалі па ўсіх ФЗС і ШКМ, трэба тлумачыць наступным:

1. Інструктары нашых ФЗС і ШКМ у сваёй большасьці ня маюць сталай тэарэтычнай падрыхтоўкі, і ўсе працэсы ў галіне дрэваапрацойкі зводзяцца выключна да практычных навыкаў, вось чаму нашы вучні ўмеюць добра габляваць, пілаваць і нават кіраваць складанай машынай, як, напр., стругальным, шліфавальным станкамі, не разумеючы асноўных прынцыпаў гэтых машын, а сам працэс працякае часта мэханічна.

II. Адсутнічае таксама ў інстуктароў пэдагагічная падрыхтоўка, нярэдка інструктар ня ведае, як прыпаднесьці вучням веды, якія вызначаны ў праграме. Адгэтуль інструктару цяжка знайсьці мэтады выкладаньня і правільна арганізаваць пэдагагічны працэс.

III. Слабае апэрацыйнае кіраўніцтва з боку гарінспэктуры і райінспэктуры, а галоўнае гэта тое, што няма амаль ніякага кіраўніцтва з боку загадчыкаў і загадчыкаў навучальных частак ФЗС і ШКМ. Загадчыкі мала, а часамі і зусім ня цікавяцца правільнай пастаноўкай палітэхнічнага навучаньня, не вядуць працы сярод інструктароў аб узбраеньні іх пэдагагічнымі ведамі, не дапамагаюць у складаньні вытворчых плянаў. Адгэтуль нашы школы не рэалізавалі цалкам гістарычнай пастановы ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе і што палітэхнічнае навучаньне ў цэлым шэрагу школ носіць фармальны характар і не падрыхтоўвае вучняў, як разьвітых будаўнікоў сацыялізму.

Нізкі паказчык ведаў у галіне дрэваапрацоўкі трэба тлумачыць і тым, што нашы інструктары вельмі перагружаны, працуючы ў 2—3 школах.

1. Ва ўсіх абсьледваньнях школы няма ў інструктара пляну працы сэкцыі, а таксама няма належных плянаў, схэм, па якіх працуе інструктар. Кожная лекцыя павінна быць строга распланавана, кожны вучань павінен атрымаць поўнае заданьне і матар'ял для работы, ведаючы яго тэхналёгічныя асаблівасьці, пасьля чаго вылучыць калекцыі з напісаньнем на кожнай з іх прызначэньне і асаблівасьці. Інструктару цяжка памятаць пачаты той

ці іншы вытворчы працэс, а таксама вучня, які вядзе гэты працэс, для гэтага вельмі будзе карысна скарыстаць вопыт 25 узорнай ФЗС і іх хрона-картку. У гэтай хрона-картцы мы чытаем:

Група . . . . . . . . .

Вучань . . . . Прозьвішчы і імя . . . . . . . .

Працоўнае месца № . . . . . . .

Дэталь . . . . . . . . .

Дата: пачаў . . . . . скончыў . . . . . .

| №№ п/ч | Рабочыя апэрацыі | Дата | Пачаў | | Скончыў | | Усяго | | Адзнакі інструктара |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | гадз. | мін. | гадз. | мін. | гадз. | мін. | |
| | | | | | | | | | |

З гэтай хрона-карткі мы бачым паасобныя апэрацыі, якія ідуць пад назвай «Набыцьцё ведаў», куды ўваходзіць па мэталяапрацоўцы:

1) апілоўка, 2) разьметка, 3) шабраўка, 4) сьвідраваньне, 5) нарэзка, 6) рубка, 7) коўка, 8) клёпка, 9) насечка, 10) калка, 11) пайка, 12) лужэньне, 13) абточка, 14) адрэзка, 15) падрэзка, 16) накатка.

Па дрэваапрацоўцы: 1) фугаваньне, 2) даўбленьне, 3) сьвідраваньне, 4) разьметка, 5) расьпілоўка, 6) зарэзка шыпоў, 7) прыпасоўка, 8) склёпваньне, 9) афарбоўка, 10) паліроўка, 11) шліфоўка, 12) габляваньне, 13) фугаваньне, 14) дэрэзіроўка, 15) даўбленьне, 16) сьвідраваньне, 17) абточка, 18) рэзка на лентачнай піле, 19) расьпілоўка на цыркулярнай піле, 20) шліфоўка. Як бачым з гэтай хрона-карткі, можна прасачыць працэс, які вядзе вучань спачатку і да канца, гэта значыць да афармленьня ў грамадзка карысную рэч. На наш погляд гэтакія карткі павінны быць у кожнай ФЗС і ШКМ. З матар'ялаў, якія мы атрымалі з абсьледваных ФЗС і ШКМ, мала, а часамі і зусім не зьвяртаецца ўвага на вытворчыя экскурсіі, якія адыгрываюць вялікую ролю.

Пры арганізацыі вытворчых экскурсій, на дрэваапрацоўчы завод неабходна вучням даць заданьне ў пісьмовай форме, указаць мэту экскурсіі, плян назіраньняў на заводзе ў пэўнай пасьлядоўнасьці, што запісваць з таго, што можна бачыць, характар уліку экскурсіі. Атрыманы экскурсійны матар'ял стала прапрацаваць і падвесьці вынікі ў параўнаньні ручной і мэханічнай апрацоўкі дрэва. Толькі арганізаваная і загадзя распрацаваная экскурсія дасьць вялікую пэдагагічную каштоўнасьць.

*Л. Шашкоў*

# Што паказала абсьледваньне стану агульна-адукацыйных ведаў у школах БССР

У пастанове ЦК ад 5-X 1931 г. даецца зусім выразная і зусім акрэсьленая ўстаноўка, на чым галоўным чынам павінны канцэнтраваць сваю ўвагу навукова-дасьледчыя інстытуты, якія працуюць у галіне пэдагогікі. У пастанове ЦК УсеКП(б) сказана: «Адзначаючы значны адрыў навукова-дасьледчых інстытутаў у галіне пэдагогікі ад практычных задач школы ЦК УсеКП(б) прапануе Народ. Камісар. Асьветы саюзных рэспублік сканцэнтраваць работу адпаведных дасьледчых інстытутаў галоўным чынам на вывучэньні і абагульненьні вопыту, накопленага практычнымі работнікамі школы, у асаблівасьці па палітэхнізацыі». (з пастановы ЦК).

З гэтае вынятkі з пастановы ЦК УсеКП(б) відаць, што ўпор у рабоце навукова-дасьледчых устаноў у галіне пэдагогікі павінен быць зроблен на вывучэньні і абагульненьні вопыту практычных работнікаў школы, на вывучэньні школьнае практыкі.

Аднэй з такіх задач, якую сабе паставіў інстытут ў галіне вывучэньня і абагульненьня школьнае практыкі, зьяўляецца задача па абсьледваньню стану і аб'ёму агульна-адукацыйных і палітэхнічных ведаў нашых школьнікаў.

Навукова-Дасьледчы Інстытут Камвыхаваньня, пасьля пастановы ЦК УсеКП(б) да гэтага часу правёў ужо два абсьледваньні. Першае абсьледваньне было праведзена ў канцы мінулага 1931/32 навуч. году, а другое праведзена ўжо ў бягучым 1932/33 навуч. годзе, у канцы першага сэмэстру.

Абсьледваньне стану ведаў першы і другі раз праводзілася па асноўных школьных дысцыплінах І-га і ІІ-га канцэнтру. Былі ахоплены абсьледваньнем такія дысцыпліны: 1) Матэматыка, 2) Прыродазнаўства, 3) Фізыка, 4) Геаграфія, 5) Грамадазнаўства, 6) Гісторыя, 7) Мова, прычым, калі пры першым абсьледваньні былі ахоплены 3, 4, 5, 6 і 7 групы, дык пры другім, улічыўшы некаторыя ўрокі першага, мы ўзялі меншую колькасьць груп. Менавіта, мы ўзялі чатыры ўзросных групы: 4, 5, 6 і 7. Апошнія былі ўзяты не выпадкова, а менавіта таму, што яны зьяўляюцца да некаторай ступені характэрнымі. Гэтае характэрнае заключаецца ў тым, што 4 група зьяўляецца пераходзячай з 1-га ў 2-гі канцэнтр, і таму важна і цікава ведаць, з якімі ведамі вучні гэ-

тых груп пераходзяць у другі канцэнтр. У адносінах 5-е групы, дык вучні 4-е групы, пераходзячы у 5-ю групу, трапляюць у некалькі новую абстаноўку работы. Гэта новая абстаноўка заключаецца ў тым, што ў 2-м канцэнтры павялічваецца лік школьных прадметаў, выкладаньне саміх прадметаў ўздымаецца на больш высокую тэарэтычную вышыню, павялічваецца аб'ём самастойнай работы па падручніках, павялічваецца аб'ём самастойнай работы ў лябараторыі і майстэрнях. Выкладаньне школьных дысцыплін, пачынаючы з 5-й групы, вядзецца паасобнымі выкладчыкамі. У той час, як у І-м канцэнтры, або пачатковай школе гэта выкладаньне ўсіх школьных дысцыплін знаходзілася у руках аднаго выкладчыка. А гэты момант, момант асваеньня вучнямі, не аднаго, а менавіта шэрагу новых настаўнікаў на пятым годзе навучаньня мае вялікае пэдагагічнае значэньне.

Усё гэта разам узятае прымусіла нас пры другім абсьледваньні ўзяць 5-ю групу, як групу маючую свае асаблівасьці, з тым, каб паглядзець, як гэта група хутка акліматызавалася ў новых умовах працы і як гэтыя новыя ўмовы, новыя абставіны ў сваю чаргу адмоўна, або станоўча сказалася на стане ведаў вучняў 5-е групы.

Што-ж тычыцца 7-е групы, то тое характэрнае ў адносінах да яе заключаецца, перш за ўсё ў тым, што гэтая група зьяўляецца выпускной з 7-і годкі. А паколькі гэта так, мы ня можам гэтай групе не надаваць выключнага значэньня. З яе мы выпускаем вучняў, а выпускаючы мы павінны ведаць стан іх ведаў, павінны ведаць, у якой ступені імі (выпускнікамі) засвоен той мінімум ведаў, што прадугледжан праграмамі, як сацыяльным заказам з боку пралетарскай дзяржавы ў адносінах нашае школы. Вось тое характэрнае, што мы маем з 7-і групамі і што нас прымусіла першы і другі раз уключыць гэтую групу ў абсьледваньне стану і аб'ёму агульна-адукацыйных ведаў.

Зараз цікава высьвятліць, якую колькасьць школ, груп у гэтых школах, і, нарэшце, вучняў нам удалося ахапіць абсьледваньнем. Бо ад гэтага, у значнай ступені, залежыць аўтарытэт і навуковая вартасьць тых вывадаў і абагульненьняў, якія мы будзем рабіць у агульна-падагульняючым артыкуле.

Другім абсьледваньнем мы ахапілі гарадзкіх і 8 вясковых школ. У гэтым ліку пачатковых вясковых 2 і 6 раёных ШКМ.

Апошнім абсьледваньнем было ахоплена 17 чацьвёртых груп з агульнай колькасьцю 600 вучняў; 13 пятых груп з агульнай колькасьцю 400 вучняў у іх; 13 сёмых груп з агульнай колькасьцю 350 вучняў у іх. Усяго такім чынам было ахоплена 43 групы. Агульны лік ахопленых вучняў па ўсіх групах дасягае 1350.

Вось тыя кантынгэнты, што былі ахоплены апошнім абсьледваньнем. Такая колькасьць абсьледваных вучняў дае нам мажлі-

васьць зрабіць больш-менш акрэсьлены вывад аб стане ведаў, зразумела, у адносінах школ, што ахоплены абсьледваньнем.

Зараз некалькі слоў аб задачах дасьледваньня стану і аб'ёму агульна-адукацыйных ведаў. Якую-ж мы ставілі перад сабой задачу пры арганізацыі абсьледваньня?

**Першая** задача, якую мы ставілі перад сабою, праводзячы абсьледваньне стану агульна-адукацыйных ведаў, як у першы, так і ў другі раз, заключалася ў тым, каб канстатаваць той або іншы узровень агульна-адукацыйных ведаў, па лініі паасобных прадметаў і гэтым самым паказаць, як школы змагаюцца за ліквідацыю карэннага недахопу, адзначанага ў пастанове ЦК. Пры гэтым мы ставілі сваёй задачай ня толькі канстатаваць стан ведаў па таму або іншаму прадмету наогул, але канстатаваць гэты стан ведаў па лініі кожнай школы-групы.

**Другая** наша задача заключалася ў тым, каб на падставе канстатаванага намі стану ведаў ня толькі ў разрэзе кожнага прадмету, але і ў разрэзе канкрэтна кожнае школы-групы ўскрыць прычыны, як высокіх паказчыкаў пасьпяховасьці, так і ўскрыць прычыны нізкіх паказчыкаў пасьпяховасьці па лініі паасобных прадметаў.

Нарэшце, **трэцяя** наша задача была ў тым, каб на падставе вырашэньня першых двух задач, даць некаторыя парады настаўніку мэтадычнага парадку, як аналізуемае намі праграмнае пытаньне патрэбна было з нашага пункту гледжаньня распрацаваць.

Трэба сказаць, што з усімі гэтымі задачамі мы ня цалкам справіліся. Цэнтральнай нашай задачай лічылася ўсё-ж канстатаваньне стану, або больш правільна акрэсьленага аб'ёму ведаў. І можна з упэўненасьцю сказаць, што мы з гэтай цэнтральнай задачай справіліся і нават лепш чым з іншымі задачамі. Такім чынам, пры другім абсьледваньні мы ня толькі канстатуем, але адначасна пры магчымасьці ўскрываем прычыны, чаму па аднаму праграмнаму пытаньню лепшыя паказчыкі, а па другому горшыя. Амаль пры аналізе кожнага праграмнага пытаньня, асабліва пры аналізе пытаньняў, па якіх атрыманы дрэнныя паказчыкі, мы імкнуліся падыйсьці з розных бакоў, імкнуліся ўстанавіць, у якой ступені законамерна ў сваёй пастаноўцы тое або іншае праграмнае пытаньне, у якой ступені яно даступна для асваеньня акрэсьленай ўзроснай катэгорыі. Пры другім абсьледваньні, мы імкнуліся ўстанавіць мэтадычную і наогул падрыхтаванасьць самога настаўніка.

Пасьля кароценькіх заўваг агульнага парадку, пераходзім да разгляду асноўных паказчыкаў пасьпяховасьці па лініі па-

асобных прадметаў. Стан ведаў па ўсіх прадметах лепш за ўсё паказаць наступнай табліцай:

**Стан ведаў у школах БССР** (сьнежаньскае абсьледваньне)

| Прадметы | Сярэдняе засваеньне праграмы ў %% | | |
|---|---|---|---|
| | IV гр. | V гр. | VII гр. |
| 1. Прыродазнаўства | 45,4 | 50,5 | 44,1 |
| 2. Мова (граматыка і правапіс) | 54,3 | 49,9 | 62,12 |
| 3. Мова (разуменьне чытанага) | 24 | 33 | 15 |
| 4. Грамадазнаўства | 30,1 | 49,1 | — |
| 5. Геамэтрыя | — | 50 | 48 |
| 6. Фізыка | — | 46,2 | 61,9 |
| 7. Арытмэтыка | 49,5 | 57,2 | — |
| 8. Геаграфія | 58,4 | | |
| 9. Гісторыя | — | 40,4 | — |
| 10. Хімія | — | — | 45 |
| 11. Альгебра | — | — | 61,1 |

З гэтае табліцы відаць, што самыя высокія паказчыкі па засваеньню праграмы якраз выпадаюць на точныя навукі: матэматыку, фізыку, не застаецца геаграфія, самыя нізкія паказчыкі выпадаюць на белмову (разуменьне чытанага), грамадазнаўства ў чацьвертых групах і гісторыю.

Па шэрагу прадметаў мы маем сярэдні процант засваеньня праграм не асабліва высокі і не асабліва нізкі. Такімі прадметамі зьяўляюцца хімія, у 7 групе (сярэд. паказ. 45 проц.) прыродазнаўства ў 4, 5 і 7 групах і фізыка ў 5 групе.

Агульная дыяграма стану ведаў паказвае нам, што карэнны недахоп школ яшчэ не зьліквідаваны. Стан ведаў па цэламу шэрагу прадметаў знаходзіцца ўсё яшчэ на нізкім узроўні.

Далей прааналізуем сярэднюю пасьпяховасьць у разрэзе кожнае школы і кожнае групы. Возьмем грамадазнаўства. Сярэдняе засваеньне праграмы па грамадазнаўству па ўсіх чатырох групах раўняецца, як мы бачылі, 30,1 проц.

Па лініі паасобных школ мы маем наступнае засваеньне праграмы:

**Стан ведаў па грамадазнаўству**

| Школы | Засваеньне праграмы ў %% | |
|---|---|---|
| | IV гр. | V гр. |
| 1. Менская 5 | 36 | 60 |
| 2. „ 6 | 41,2 | — |
| 3. „ 19 | 33,3 | 41,9 |
| 4. „ 27 | 45 | 42,5 |
| 5. Заслаўская | 24,2 | 45,2 |
| 6. Барысаўская | 27,2 | — |
| 7. Урэцкая (бел.) | 20,4 | 53,2 |
| 8. Новасёлкаўская | 6,7 | 37,5 |
| 9. Васілінкаўская | — | 57,4 |
| 10. Урэцкая (яўр.) | 42 | — |
| 11. Слуцкая 1 ШКМ | 29,2 | — |

З гэтай табліцы стану ведаў па грамадазнаўству відаць, што крывая пасьпяховасьці ў 4-х групах па лініі Новасёлкаўскай школы зьніжаецца да 6,7 проц., а па Урэцкай да 20,4 проц. Па лініі Менскай 37 ФЗС крывая падымаецца да 45 проц., па Менскай 6 ФЗС да 41,2 проц. Чым тлумачыцца, што па Урэцкай і асабліва Новасёлкаўскай школах мы маем вельмі нізкі процант засваеньня праграмы. Лічыць вінаватымі ў гэтым праграмныя пытаньні, па якіх праводзілася абсьледваньне, ні ў якім разе нельга, бо па большасьці школ мы маем усё-ж адносна здавальняючую засваяемасьць праграмы. Трэба шукаць прычын у іншым, менавіта—у мэтадах выкладаньня, слабой падрыхтаванасьці настаўнікаў, дрэннай школьнай дысцыпліне і г. д.

Крывая пасьпяховасьці па грамадазнаўству ў 5-х групах, ахопленых абсьледваньнем, зьяўляецца адносна стабільнай. Па пятых групах пры 49,1 проц. сярэдняй пасьпяховасьці, крывая падае па Новасёлкаўскай школе да 37,5 проц. і падымаецца па

Васілінкаўскай да 55,4 па Менскай 27-й да 56 і Менскай 5-й да 60,5 проц. Па астатніх школах % сярэдняй пасьпяховасьці (засваеньне праграмы) хістаецца паміж 37 і 60,5 проц.

Далей паглядзімо, якое становішча мы маем па гісторыі ў разрэзе кожнай школы паасобку. Абсьледваньне стану ведаў па гісторыі праводзілася па аднэй толькі 5-й групе. Крывая пасьпяховасьці па гісторыі ў 5-х групах пры 40,4 проц. сярэдняй пасьпяховасьці падае па Барысаўскай школе да 20,5 проц. і падымаецца па Урэцкай—(белар.) аж да 60,1 проц. Па астатніх 5 школах, у якіх праводзілася абсьледваньне, сярэдні процант засваеньня праграмы хістаецца ў межах 20,5 і 60,1 проц.

Крывая пасьпяховасьці па геаграфіі ў 4-х групах пры 58,4 проц., сярэдняй пасьпяховасьці, па Менскай 19-й падае да 37,7 проц. і падымаецца па Барысаўскай да 71,4 проц.; па Менскай 6-й да 73,3 проц. і нарэшце па 27-й Менскай аж да 74 проц. Гэтыя лічбы пасьпяховасьці па тых 4-х групах, па якіх праводзілася абсьледваньне, сьведчыць аб тым, што па геаграфіі мы маем пэўныя зрухі ў справе барацьбы за якасьць вучобы.

Крывая пасьпяховасьці па прыродазнаўству ў 4-х групах, пры 45,4 проц. сярэдняй пасьпяховасьці, падае па Навасёлкаўскай школе да 16,6 проц., па 19-й Менскай да 26,8 проц. і падымаеецца па 6-й Менскай да 80,2 проц. Такая вялікая разьбежка ў процантах засваеньня праграмы зразумела тлумачыцца дрэннай арганізацыяй работы ў Навасёлкаўскай школе і добрай арганізацыяй работы, падрыхтаванасьцю настаўнікаў у 6-й Менскай ды іншых.

Па 5 і 7 групах мы маем як сярэднюю пасьпяховасьць па прыродазнаўству, так і па лініі кожнай школы больш-менш стабільную. Так, напрыклад, па 5-й групе, пры 50,5 проц. сярэдняй пасьпяховасьці мы маем зьніжэньне пасьпяховасьці па 39 Менскай толькі да 40,6 проц. і ўздым пасьпяховасьці па Урэцкай (яўрэйск.) да 62,6 проц., а па 7-х групах пры 44,1 проц. сярэдняй пасьпяховасьці мы маем зьніжэньне па Навасёлкаўскай школе да 33,6 проц. і ўздым па 6-й Менскай да 52,2 проц.

Крывая пасьпяховасьці ў 7-х групах па хіміі, пры 45 проц. сярэдняй пасьпяховасьці, падае па Навасёлкаўскай школе да 27,5 проц. і падымаецца да 73 проц. па Урэцкай (беларускай).

Тут, як бачыце, мы маем вялікую разьбежку ў ведах паміж Новасёлкаўскай і Урэцкай. Як першая, так і другая школы зьяўляюцца раённымі і амаль знаходзяцца ў аднолькавых умовах, а розьніца ў засваеньні праграмы вучнямі атрымліваецца вялікая і, зразумелая рэч, тлумачыцца гэта ня тым, што ўзяты цяжкія праграмныя пытаньні, а хутчэй арганізацыяй работы, падрыхтаваннасьцю настаўнікаў ды інш.

Вельмі рэзкія скачкі мы маем па фізыцы ў 5-х групах. Пры 46,2 проц. сярэдняй пасьпяховасьці мы маем зьніжэньне ведаў па Заслаўскай школе да 11 проц., па 39 Менскай да 38 проц. і

ўздым да 74 проц. па 37 Менскай ФЗС, 73 проц. па Барысаўскай і 66 проц. па Навасёлкаўскай ШКМ.

У 7 групах адносна стабілізуецца процант засваеньня праграмы. Па гэтай групе мы маем сярэдні процант засваеньня праграмы 61,9 проц., які ніжэй 42 проц. па Менскай 6-й ня падае і вышэй 84 па Урэцкай (бел.) не падымаецца.

Возьмем мову ў разрэзе граматыкі, правапісу і пунктуацыі. Калі па мове, у разрэзе разуменьня чытанага мы маем надзвычайна нізкія паказчыкі, дык па мове ў разрэзе граматыкі, правапісу і пунктуацыі, мы маем адносна лепшыя паказчыкі. так, напрыклад, па 4-х групах сярэдняй пасьпяховасьці 54,3 проц. ува ўсіх 3-х разрэзах крывая засваеньня праграмы па Пятроўшчынскай школе падае да 40,5 проц. Па іншых школах процант пасьпяховасьці хістаецца ў межах 40,5 і 68,8. Па 5-х групах пры 49,9 проц. сярэдняй пасьпяховасьці, крывая па 19 ФЗС (Менск) зьніжаецца да 46 проц. і падымаецца да 55,5 проц. па 39 Менскай ФЗС.

Па астатніх трох школах процант пасьпяховасьці хістаецца ў межах 46 і 55,5 проц.

Значна лепш стаіць справа па 7-х групах. Па 7-х групах пры 62,12 проц. сярэдняй пасьпяховасьці (засваеньне праграмы) мы маем па 2-й Менскай ФЗС зьніжэньне крывой да 53,3 проц. і ўздым крывой да 79,5 проц. па 39 Менскай ФЗС. Па астатніх 2-х (2-й ФЗС, 7-й і 3-й ФЗС) школах процант сярэдняй пасьпяховасьці хістаецца ў межах 53,3 і 79,5 проц.

Нарэшце, спынімся ў кароткіх рысах на матэматыцы (арытмэтыцы, альгэбры і геамэтрыі). Сярэдняе засваеньне праграмы па арытмэтыцы ў 5-й групе раўняецца 57,2 проц. Крывая па Новасёлкаўскай школе зьніжаецца да 28,3 проц. і максымальна падымаецца да 67,4 проц., па Заслаўскай ШКМ і 71,8 па 5-й Менскай ФЗС. Па альгебры ў 7-х групах пры 61,1 проц. сярэдняй пасьпяховасьці, крывая засваеньня праграмы па 6-й Менскай ФЗС зьніжаецца да 38,2 проц. і падымаецца да 78,5 проц. па 39 Менскай ФЗС і 79,3 проц. па Барысаўскай ФЗС.

Па геамэтрыі ў 7 групе пры 48 проц. сярэдняй пасьпяховасьці крывая зьніжаецца да 32,2 проц. па Слуцкай ШКМ і 27 проц. па 6-й Менскай ФЗС і падымаецца да 58,8 проц. па 27 Менскай ФЗС і 60,5 проц. па Слуцкай ШКМ.

Па астатніх школах процант засваеньня праграмы хістаецца ў межах 27 і 60,5 проц.

Вось такі стан мы маем у лічбовых даных агульна-адукацыйных ведаў у школах БССР, ахопленых сьнежаньскім абсьледваньнем.

Калі раўнаць стан ведаў сьнежаньскага абсьледваньня з узроўнем стану ведаў, што мы атрымалі пры абсьледваньні ў канцы 1931-32 навучальнага году, дык мы павінны сказаць, што па лініі цэлага шэрагу дысцыплін стан ведаў узьняўся, дзяку-

ючы таму, што асноўная маса настаўніцтва перабудавала сваю работу, мэтады выкладаньня ды інш. у адпаведнасьці з пастановай ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе; атрымалася, нарэшце, гэта дзякуючы таму, што значна палепшылася працоўная дысцыпліна наогул і ў прыватнасьці працоўная дысцыпліна ў часе ўроку. Мясцовыя партыйныя арганізацыі сталі больш аддаваць увагі палепшаньню школьнай працы.

Але разам з гэтымі зрухамі ў справе палепшаньня стану ведаў па шэрагу школ і паасобных дысцыплін, мы маем шмат прарываў, як гэта назіралася па лініі прадметаў палітычна-грамадазнаўчага цыклю.

Так, напрыклад, па Менскай ФЗС мы маем наяўна нездавальняючы процант (ніжэй 40) па геаграфіі, грамадазнаўству і гісторыі. Па Навасёлкаўскай ШКМ мы таксама маем зусім нездавальняючы процант (таксама ніжэй 40) засваеньня праграмы па 4-х прадметах, дзе, праўда, пераважаюць прадметы не з грамадазнаўчага цыклю. Па Навасёлкаўскай мы маем асабліва нізкі процант засваеньня праграмы па цэламу шэрагу прадметаў. Так, напрыклад, па грамадазнаўству ў 4 групе процант засваеньня праграмы раўняецца ўсяго 6,7 па прыродазнаўству—16,6 па арытмэтыцы—28,3 і хіміі—27,5 проц.

Не застаецца Заслаўская ШКМ і Менская 39 ФЗС, якія па трох прадметах, кожная з іх, мае таксама наяўна нездавальняючы процант.

Асабліва ў небясьпечным становішчы знаходзіцца грамадазнаўства ў 4-х групах. Па 4-х групах атрымліваецца такі малюнак: з агульнай колькасьці 15 школ, па пяці школах мы атрымалі яўна нездавальняючы процант засваеньня праграмы. Процант засваеньня ў гэтых пяці школах атрыман значна ніжэй 40, а менавіта: па Менскай 19 ФЗС—33,3 проц., па Барысаўскай—27 проц., па Навасёлкаўскай—6,7 па Заслаўскай 24,2 і па Менскай 39 ФЗС—26,2 проц.

Чым-жа можна растлумачыць наогул яшчэ нездавальняючы ўзровень па засваеньні праграмы і ў прыватнасьці па толькі што акрэсьленых намі школах і прадметах у гэтых школах.

НДІ Камвыхаваньня на сёньняшні дзень ня мае ў сваім распараджэньні яшчэ дастатковай колькасьці матар'ялаў, каб зусім выразна сказаць, што канкрэтна зьяўляецца прычынай усё яшчэ нездавальняючага стану ведаў. Мы гэтыя матар'ялы будзем мець у канцы навучальнага году, пасьля майскага абсьледваньня. Але і зараз для нас зьяўляецца зусім яскравым, што яшчэ не зьліквідаваны карэнны недахоп школы свае карэньні мае ў гэтым комплексе прычын. Па нашай думцы карэнны недахоп яшчэ канчаткова не зьліквідаваны, абумоўляецца, як гэта і ў рэзолюцыі Прэзыдыуму НДІ Камвыхаваньня адзначана, нездавальняючым станам праграм, адсутнасьцю стабільных падручнікаў па шэрагу прадметаў, усё яшчэ слабой падрыхтава-

насьцю настаўніка наогул і ў прыватнасьці ў галіне мэтодыкі,— усё яшчэ слабай працоўнай дысцыплінай ў часе ўроку.

Ад таго, якая на ўроку дысцыпліна, залежыць вельмі і вельмі многа. У гэтым пытаньні ў нас ня ўсё яшчэ ў парадку. Часамі настаўнік вядзе работу з нямногімі вучнямі, а добрая палова вучняў у часе ўроку займаецца прыватнымі справамі і зусім ня цікавіцца тым, што робіцца ў клясе. Час ідзе, а веды дзеці не атрымліваюць.

*М. Пігулеўскі*

# Вагі і ўзважваньне

У аснове прыродазнаўчых навук знаходзяцца: назіраньне, досьлед і вымеры. Але нажаль, у нашых беларускіх школах настаўнікі мала зварочваюць увагі на назіраньне, яшчэ меней ўвагі дастаецца досьледу і зусім ніякай увагі няма вымерам.

Самым дасканалым вымерам на сёньнешні дзень будзе ўзважваньне. Маюцца вагі, як, напрыклад, мікровагі Розенфэльда і Мэльлера, на якіх можна адважваць пяць мілірам з дакладнасьцю да аднэй стотысячнай (0,00001) долі міліграма, калі сам міліграм—гэта, прыкладна, вага дзьвюх макавых зернят.

Каб завастрыць увагу настаўніцтва,—а асабліва 4-х груп і сямігодак,—на вагах і ўзважваньні, я і спынюся на прынцыпах пабудовы вагаў, на іх тыпах і затым на мэтадах узважваньня.

Галоўнай часткай усякіх вагаў зьяўляецца падважнік, або вагар, які ў кніжках па фізыцы часьцей—называюць рычагом. Вагар гэта цьвёрды стрыжань, які мае пункт апоры і два пункты прылажэньня сіл. У вагах такі стрыжань звычайна завецца каромыслам. Пунктам апоры і пунктам прылажэньня сіл зьяўляюцца трохвугольныя прызмы, ад цьвёрдасьці якіх і вастраты залежыць чуласьць вагаў. Адлегласьць паміж пунктам апоры і пунктам прылажэньня сіл завецца плячом рычага. Суадносіны паміж сіламі і плячамі вагара будуць адваротна-прапарцыянальныя: гэта значыць, што для раўнавагі вагара патрэбна, каб на большае плячо дзейнічала меньшая сіла і наадварот. Калі адно плячо, скажам, будзе ў дзесяць разоў болей за другое, дык сіла павінна быць у дзесяць разоў меншай. Вагі, пабудаваныя на гэтым прынцыпе завуцца **дзесятычнымі.** Зразумела, што аналёгічна можна пабудаваць і соценныя—для ўзважваньня вазоў з грузам; і тысячныя— для ўзважваньня вагонаў з грузам. Калі-ж сілы роўныя, то для раўнавагі вагара патрэбна, каб і плечы былі роўныя. Гэтае правіла ляжыць у аснове пабудовы вагаў фізыка-тэхнічных, аналітычных і каапэрацыйных, якія звычайна завуцца вагамі Беранжэ.

Я лічу неабходным, каб кожная пачатковая школа абавязкова навучыла вучняў карыстацца двумя тыпамі вагаў: вагамі Беранжэ і вагамі дзесятычнымі. Вагі Беранжэ і дзесятычныя можна пазычыць у каапэрацыі, альбо ў калгасе ці саўгасе, а то можна адны

вагі Беранжэ набыць і для школы; у школьнай гаспадарцы яны прыгадзяцца. Школа сямігодка, акрамя таго, павінна абавязкова навучыць карыстацца вагамі фізыка-тэхнічнымі; іх лёгка можна зрабіць і саматужна, а разнавесам для такіх самадзелкавых вагаў будуць служыць **бронзавыя** грошы ў 1 к., 2 к., 3 к. і 5 к., вага якіх адпаведна роўна 1 гр., 2 гр., 3 гр. і 5 гр.

Калі-ж школа будзе мець сродкі ў руб. 100, ці 150, а сямігодка можа мець такія сродкі, то можна купіць адны вагі фізыка-тэхнічныя—**абавязкова з разнавесам** і фабрычныя; гэта будзе надта карысна і для настаўніка выкладчыка фізыкі, і для вучняў.

Дапусьцім, што школа распалагае вагамі фізыка-тэхнічнымі на вінтавых ножках, з арэнтырам, адвесам, з рашотачным карамыслам і з прадзельнай нагрузкай у 500 трам.




Схэма фізыка-тэхнічных вагаў

Перш чым прыступіць да карыстаньня вагамі заўважым, што вагі псуюцца ад перагрузкі, гэта значыць, што калі на вагах абазначана 500 грам, то ня толькі 501 гр. адважваць нельга, але нават і 500 гр. адважваць непатрэбна. Зразумела, што ад аднаго граму лішку вагі не паламаюцца, але прытупіцца іх чуласьць. Калі, скажам, яны пры нагрузцы ў 200 гр. давалі дакладнасьць да аднаго сантыграма, то пасьля перагрузкі, яны згубяць гэтую чуласьць і будуць даваць дакладнасьць, прыкладна, да двух альбо трох сантыграмаў. Пры дакладных лябараторных работах гэта мае вялікае значэньне.

Ітак чуласьць вагаў залежыць ад велічыні нагрузкі: пры меншай нагрузцы—большая чуласьць, пры вялікай нагрузцы чуласьць значна паніжаецца. Гэта адносіцца аднолькава да вагаў усіх тыпаў. Калі на вагах Беранжэ выбіта 5 клгр., гэта значыць **болей за 5 клгр. адважваць нельга** на гэтых вагах.

Акрамя нагрузкі—чуласьць вагаў залежыць ад даўжыні плеч каромысла і ад лёгкасьці яго. Таму каромысла робіцца ў выглядзе рашоткі, каб захаваць пруткасьць яго і зьнішчыць лішні цяжар. А з тае прычыны, што з павялічэньнем даўжыні павінен павялічыцца і цяжар каромысла і ўзьнікае небясьпека па прагібу яго, то звычайна каромыслы ня робяцца доўгімі.

На чуласьць вагоў мае значны ўплыў вайстрата і цьвёрдасьць прызм і цьвёрдасьць іх гнёзд, таму—прызмы, на якія абапіраецца каромысла, і гнёзды робяцца з сталі добрага гатунку, а то і агата.

Высьветліўшы гэтыя асаблівасьці структуры фузыка-тэхнічных вагаў, заўважым, што тэта, хоць і ў меншай ступені, адносіцца і к вагам Беранжэ, і к дзесятычным вагам.

Як карыстацца вагамі фізыка-тэхнічнымі? Спачатку трэба іх устанавіць у гарызантальнай роўніцы, карыстаючыся адвесам і вінтавымі ножкамі. Трэба падкручваць ножкі так, каб вастрыё адвеса прышлося якраз супроць вастрыя, што знаходзіцца ў падстаўцы вагаў. Устанавіўшы вагі трэба падняць чашкі пры дапамозе арэнтыра і прасачыць, ці паказвае ўказацель на нуль. Калі не, то трэба праверыць, ці правільна наложаны чашкі, бо звычайна яны зазначаюцца буквамі «Л» і «П», што значыць—левая і правая,— і калі палажыць іх наадварот, то раўнавага парушыцца. Калі чашкі ляжаць верна, то трэба на канцах каромысла пакруціць кулькі: да каромысла—на цяжэйшай чашцы,—і ад каромысла—на лягчэйшай, увесь час арэнтыруючы вагі і зноў падымаючы. Пасьля гэтага прыступаем да ўзважваньня.

Могуць быць два выпадкі ўзважваньня: 1) даецца груз і трэба вызначыць яго вагу і 2) трэба ўзяць сталую колькасьць грам данай матэрыі.

У першым выпадку кладзём груз на левую чашку, але так, каб узважваемы груз не папсаваў чашкі, а на правую—разнавес, напрыклад, 200 грам, і падымаем арэнтырам каромысла. Няхай, напрыклад, чашка з 200 гр. цяжэй. Апускаем арэнтырам каромысла вагаў, здымаем гірку ў 200 гр. і кладзем у 100 гр. Зноў падымаем каромысла—і так кожны раз, пакуль не наступіць роўнавага.

У другім выпадку—кладзем разнавес на левую, а на правую груз і падсыпаем яго паступова да раўнавагі.

З гэтага можна зрабіць вывад, што ўзважваньне з значнай дакладнасьцю патрабуе шмат часу і вялікай цярплівасьці і вытрыманасьці, а таксама і спэцыяльных навыкаў.

Узважваньне на вагах Беранжэ альбо дзесятычных адбываецца шмат хутчэй, але ня мае такой значнай дакладнасьці. Аднак, неабходна тут-жа адзначыць, што дакладнасьць справа ўмоўная, і ў жыцьці мы часта зьніжаем ступень дакладнасьці, каб выйграць у часе.

Схэма вагоў Беранжэ

Вагі Беранжэ таксама маюць прызмы і гнёзды, каромыслы і чашкі, але як відаць з малюнку, структура іх трохі іншая і справа карыстаньня імі значна прасьцей. Чашкі іх абапіраюцца адным канцом на верхняе каромысла, а другім на ніжняе дзеля таго, каб увесь час быць у паземнай роўніцы і перамяшчацца ў раўналежных паземнай роўніцах, што не дае магчымасьці грузу, паложанаму на іх, звальвацца. Правільнасьць гэтых вагаў правяраецца перамяшчэньнем ураўнаважаных грузаў з адной чашкі на другую,—гэта значыць—мэтадам падвойнага ўзважваньня, аб якім гутарка будзе ніжэй,—а чуласьць іх азначаецца вагай самай маленькай разнавескі, якая дае відавочнае адхіленьне вагаў.

Схэма дзесятычных вагоў

Вагі дзесятычныя па надворнаму выгляду значна адрозьніваюцца ад вагаў фізыка-тэхнічных і Беранжэ, як гэта відаць на малюнку, але прынцып вагара ляжыць і ў іх аснове, прычым суадносіны паміж плячамі вагара AC : CB = 10 : 1 = M : P. Асаблівасьцю іх зьяўляецца двайная пляцформа для грузаў. Зроблена гэта для таго, каб верхняя пляцформа падымалася і апускалася роўналежна самой сабе і каб груз не скачваўся з яе. Раўналежнасьць гэта дасягаецца наступнай структурай разьмераў паміж адлегласьцямі на правым плячы вагара, як гэта відаць з схэмы, і паміж адлегласьцямі на ніжняй пляцформе вагаў: KE : CE = = CД : CB = 5 : 1 альбо іншае.

Два словы аб сыстэме разнавесу. У аснове сыстэмы разнавесу ляжаць чатыры гіркі: у 1, 2, 2 і 3 грам, альбо 1, 1, 2 і 5 грам. Гэтыя лікі адпаведна павялічваюць у дзесяць разоў, сто і тысячу, і зьмяншаюць у дзесяць, сто і тысячу раз—і разнавес гатоў. Атрымоўваецца.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 0,001 | 0,002 | 0,002 | 0,005 |
| 0,01 | 0,02 | 0,02 | 0,05 |
| 0,1 | 0,2 | 0,2 | 0,5 |
| 1 | 2 | 2 | 5 |
| 10 | 20 | 20 | 50 |
| 100 | 200 | 200 | 500 |
| 1 клгр. | 2 клгр. | 2 клгр. | 5 клгр. і. г. д. |

Усе нашы папярэднія разважаньні касаліся таго выпадку, калі мы маем больш-менш заведама правільныя вагі. А калі вагі заведама няправільныя, як тады быць? І як даведацца, ці правільныя нашы вагі?

Адказам на гэтыя пытаньні будуць тры мэтады ўзважваньня: мэтад тарыраваньня, мэтад двайнога ўзважваньня і мэтад сталай нагрузкі; усе яны даюць мажлівасьць на няправільных вагах правільна адважыць, а таксама і праверыць вагі.

М э т а д т а р ы р а в а н ь н я. На левую чашку вагаў кладзём груз, а на правую тару (дрот, пясок, альбо іншае) і дабіваемся раўнавагі. Тады здымаем наш груз з левай чашкі і кладзём разнавес—да раўнавагі. Сума лічбаў гірак і пакажа нам вагу нашага грузу.

М э т а д д в а й н о г а ў з в а ж в а н ь н я. На левую чашку кладзём груз, а на правую разнавес да раўнавагі. Дапусьцім—210 грам. Тады мяняем месцы: на левую—разнавес, а на правую груз да раўнавагі. Дапусьцім—220 грам. Пасьля гэтага 210 і 220 складаем і дзелім папалам, знаходзім сярэдняе арытмэтычнае—

215 гр.,—гэта і ёсьць прыблізная вага грузу. Больш дасканала будзе сярэдняе геамэтрычнае, гэта значыць $\sqrt{210.220}$.

Мэтад сталай нагрузкі інача́й завецца Мэндэлееўскім, бо прыдуман быў і ўжываўся вядомым нашым вучоным Д. І. Мэндэлеявым. На левай чашцы знаходзіцца, дапусьцім, адзін кілёграм, а на правай тара і вагі ў раўнавазе. Такі стан вагаў захоўваецца заўсёды. Калі нам трэба адважыць што-небудзь, то здымаем гірку ў кілёграм, кладзём на яе месца груз і дабаўляем разнавес да раўнавагі. Суму лічбаў разнавесу адымаем ад кілёграму—астача і будзе вагой нашага грузу.

Усе гэтыя мэтады, зразумела, маюць матэматычную падставу, але аб ёй у часопісу падрабязна гаварыць немагчыма, ды для шырокай масы чытачоў яна і непатрэбна; зацікаўленыя змогуць знайсьці яе ў поўных курсах фізыкі—напрыклад Хвольсона і інш.

У заключэньне скажам, што і вагі і разнавес неабходна трымаць у чыстаце, каб ня трэба было іх «чысьціць» пяском, альбо наждачнай паперай, бо ад гэтай «чысткі» зьніжаецца якасьць і тых і іншых.

Каб не губляўся разнавес, яго неабходна заўсёды трымаць толькі ў двух месцах: альбо на чашках вагаў, альбо ў спэцыяльнай скрынцы і браць іх адтуль па мажлівасьці пінцэтам, а не рукамі.

Ня трэба зьмешваць гіркі разнавесу з меркамі вагі, бо меркамі вагі зьяўляюцца грам, кілёграм і тона.

Грам—гэта ёсьць вага аднаго куб. см. чыстай вады пры $+4°$ С.

Кілёграм—вага аднаго літра чыстай вады пры $+4°$ С.

Тона—вага аднаго кубамэтру чыстай вады пры $+4°$ С.

Ёсьць яшчэ мерка—цэнтнер, альбо квінтал, які ровен ста кілёграмам.

Адносіны да гэтых мерак у нашай школе часта бываюць шкодньымі і нецярпімымі з боку тых настаўнікаў, якія жадаючы даць «нагляднасьць» дзецям «паясьняюць», што кілёграм—гэта «два з паловай фунта», а тона—«шэсьцьдзесят два з паловай пуды».

Фунты, як вядома, ўжо пятнаццаць год як афіцыйна пахаваны і толькі дзякуючы кансэрватызму часткі (і нават значнай) настаўніцтва неяк то там, то сям, ажываюць па школах. Часта настаўнік, сказаўшы два з паловай фунты, на гэтым і заспакойваецца, лічучы, што даў «яскравае» тлумачэньне. Гэта—мякка кажучы, звычайная недарэчнасьць.

— А як жа трэба рабіць?

— Трэба, даўшы азначэньне кілёграму, як вазе аднаго літра чыстай вады пры $+4°$ С, абавязкова заставіць кожнага вучня, каб ён патрымаў у руках некалькі, раней загатаваных, рэчаў, вагою кожная па аднаму кілёграму. Не пашкодзіць, калі вучань

пры гэтым і вочы заплюшчыць для таго, каб у яго ўзьнікла чыста мускульнае, а ня толькі мускульна-зрокавае пачуцьцё кілёграма, тады ён будзе заўсёды ведаць, што за штука кілёграм, і ніякія фунты яму для гэтага зусім непатрэбны.

Яшчэ большай недарэчнасьцю зьяўляецца і тлумачэньне тоны, як шэсьдзесят два з паловай пуды. Калі яшчэ можна спрачацца аб «2½ фунтах», то аб «62,5 пудах» я думаю і самы цьвёрдалобы чалавек спрачацца не стане. Ні ў якага вучня няма прадстаўленьня ні зрокавага, ні мускульнага аб «62,5 пудах», і казаць аб гэтым вучню, гэта значыць проста засьмечваць яго мазгі непатрэбным хламам. Нажаль, яшчэ і да сёлетняга году ў некаторых новых падручніках, альбо даведніках, друкуецца часам пераклад мэтрычных мерак «у рускія» і наадварот, што па мойму, зьяўляецца проста такі кансэрватыўным хвасьцізмам, каб не сказаць галавацяпствам.

Будзем спадзявацца, што як з боку выдавецтва, так і настаўніцтва, і гэтая недарэчнасьць будзе зусім зьнішчана ў імя вялікай барацьбы з «карэнным недахопам» нашай школы.

*В. Зайцаў*

# З чым 25-ая Менская ўзорная ФЗС заканчвае навучальны год

25-ая Менская ўзорная ФЗС імя тав. Чарвякова з першых-жа дзён красавіка разгарнула работу па падрыхтоўцы да пасьпяховага заканчэньня навучальнага году. Калектыў настаўнікаў паставіў перад сабой тры асноўныя задачы: дабіцца падвышэньня пасьпяховасьці, падвышэньня ідэйна-палітычнага ўзроўню дзяцей і ўзмацненьня працоўнай дысцыпліны. Каб пасьпяхова выканаць гэтыя задачы трэба было ў першую чаргу падвысіць якасьць пэдагагічнага працэсу, паставіць на належную вышыню вывучэньне прычын непасьпяховасьці кожнага асобнага вучня і мабілізавацца на барацьбу з ёй, трэба было ўзмацніць яшчэ больш усю выхаваўчую работу у школе, яшчэ больш узмацніць школьны рэжым.

З першых-жа дзён красавіка адміністрацыя школы наладзіла сыстэматычнае наведваньне лекцый настаўнікаў з пасьледуючым абгаварэньнем гэтых лекцый. У школе пачалі наладжвацца амаль штодзённыя дзесяціхвілінныя вытворчыя нарады ў канцы вучэбнага дню. Гэтыя нарады праходзілі надзвычайна актыўна і дзелавіта, на іх правяралася выкананьне вызначаных школьным саветам мерапрыемств, абгаварваліся тыя або іншыя недахопы ў правядзеньні лекцый, абгаварвалася і пасьпяховасьць вучняў. У школе пад асобны кантроль былі узяты род-

ная і руская мова, гісторыя, матэматыка і хімія. Плян лекцый па гэтых прадметах папярэдня і абавязкова праглядаўся вучэбнай часткай школы, а на саміх лекцыях прысутнічаў загадчык школы, або яго намесьнікі. Праверала́ся і работа настаўнікаў—групарганізатараў у сэнсе таго, як яны арганізуюць клясу на барацьбу за рэалізацыю дырэктыў ЦК партыі аб школе, на барацьбу за пасьпяховае сканчэньне навучальнага году.

У справе падвышэньня пасьпяховасьці вучняў трэба было, апрача лепшай арганізацыі самога пэдагагічнага працэсу, арганізаваць канкрэтную і сапраўдную дапамогу дзецям. Пасьля дэталёвага вывучэньня прычын непасьпяховасьці ў школе былі арганізаваны дадатковыя заняткі з адстаючымі дзецьмі па канкрэтных разьдзелах праграмы. Да прыкладу, у V в групе слабым вучасткам быў правапіс—разьдзел дзеяслоў, і на дадатковых занятках гэты прабел ліквідаваўся. Вучнёўскія арганізацыі школы таксама мабілізаваліся на дапамогу адстаючым,—пасьля правядзеньня адпаведнай растлумачальнай работы досыць хутка і з посьпехам прайшло прымацаваньне больш моцных вучняў да слабейшых. Для адстаючых былі ўстаноўлены кантрольныя дзёньнікі, у якіх адбівалася пасьпяховасьць кожнага вучня па тых дысцыплінах, па якіх ён адставаў, гэтыя дзёньнікі даводзіліся да бацькоў вучняў. Да рэчы аб бацьках,—у школе была праведзена разам з бацькамі, канфэрэнцыя адстаючых вучняў, на якой былі досыць шырока растлумачаны такія пытаньні, як барацьба школы за пасьпяховае сканчэньне навучальнага году, як стварэньне спрыяючых умоў у хатняй абстаноўцы для дзяцей, высьветлена было ў каго хатнія ўмовы перашкаджалі вучням рыхтаваць заданьні. Для такіх дзяцей падрыхтоўка да лекцый была наладжана ў самой школе. Школа разам з бацькамі пачала змагацца за падвышэньне пасьпяховасьці, за лепшае засваеньне дзецьмі асноў навук. Кожную шасьцідзёнку настаўнікі давалі ў вучэбную частку школы весткі аб гэтай катэгорыі вучняў. Вучэбная частка разам з загадчыкам школы і групарганізатарамі абгаварвалі гэтыя матар'ялы і калі высьвятлялася слабасьць работы таго або іншага пэдагога, дык зараз-жа адстаючы вучастак выпраўляўся.

Перад школай стаяла задача—з найбольшым посьпехам да канца навучальнага году ажыцьцявіць дырэктывы ЦК партыі аб школе, з найбольш лепшым паказчыкам скончыць навучальны год. Для гэтай мэты з першых-жа дзён у 25-й ФЗС імя Чарвякова абвяшчаецца конкурс на лепшую групу і лепшы піянэратрад. Пачалася праверка саццагавароў як цэлых груп, так і асобных дзяцей вучнёўскімі арганізацыямі, быў праведзен зьлёт ударнікаў вучобы, канфэрэнцыя бацькоў, аб якой мы казалі вышэй. У сувязі з конкурсам рэзка паднялася хваля ўдарніцтва і сацспаборніцтва, досыць сказаць, што за гэты час было заклю-

чана 132 новых індывідуальных сацдагаворы. У выніку сыстэматычнай выхаваўчай работы пэдагогам і вучнёўскім арганізацыям школы ўдалася нават ад'яўленых дэзарганізатараў і хуліганаў перавесьці ў рады ўдарнікаў, ударнікаў не на словах, а на справе. За прыкладам далёка не хадзіць. Вучань Меляшкевіч—адзін з «безнадзейных», які, да рэчы, быў выключан за кепскія паводзіны з 5-й і 9-й ФЗС, робіцца ня толькі прыкладным хлопцам па працоўнай дысцыпліне, ня толькі сам выходзіць з глыбокага прарыву ў сэнсе пасьпяховасьці; але так падцягнуўся, што зараз аказвае дапамогу аднаму з адстаючых вучняў сваёй групы. Зараз былы «безнадзейны» зьяўляецца кандыдатам на прэміяваньне.

Барацьба за падвышэньне ідэйна-палітычнага ўзроўню дзяцей праходзіць па лініі ўцягненьня іх у піянэр-арганізацыю, за час конкурсу колькасьць піянэраў у школе вырасла на 68 дзяцей, па лініі правядзеньня ўзорных збораў піянэр-атрадаў і кастроў. Настаўніцкі калектыў і вучнёўскія арганізацыі для ўзьняцьця на вышэйшую ступень інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня шырока скарысталі падрыхтоўку да сьвяткаваньня 1-га Мая, за гэты час яшчэ больш узмацнілася сувязь з 27-й нацменаўскай ФЗС, сумесна з ёю праводзіліся вечары і сьвяткаваньне 1-га Мая. Узмацніўся ўдзел школы ў барацьбе за пасьпяховае скончэньне вясеньняй пасеўнай кампаніі. Вучэбная частка школы яшчэ раз была праверана, як у вучэбных матар'ялах адбіваецца нашае пераможнае сацыялістычнае будаўніцтва і інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне.

Упаўне зразумела, што апошняя чвэрць для вучняў зьяўляецца больш напружанай і таму перад адміністрацыяй школы, перад пэдагогамі і вучнёўскімі арганізацыямі ва ўсю шырыню паўстала пытаньне аб умацаваньні школьнага рэжыму, аб правядзеньні аздаравіцельных мерапрыемств. У першую чаргу ўзяліся за перагляд нагрузкі дзяцей, адстаючыя вучні шкалькомам былі зусім аслабанены ад грамадзкай нагрузкі. Вялікія перапынкі пачалі праводзіцца па раней распрацаванаму пляну. З дзецьмі арганізоўваліся гульні, слуханьне музыкі, самадзейныя выступленьні вучняў, слуханьне радыё-газэты (школа мае свой радыё-вузел),—вось чым у асноўным запаўняліся вялікія перапынкі. Разам з доктарам яшчэ раз была перагледжана пасадка дзяцей у клясах,—дзеці з больш слабым зрокам і слухам перасаджваліся на пярэднія парты. Барацьба за чыстату стаяла ў цэнтры ўвагі і настаўнікаў, і дзяцей. Барацьба за санмінімум уключана ў агульна-школьны конкурс. За час конкурсу была праведзена стрыжка дзяцей, дзеці прапушчаны праз школьны душ і лазьні, дзіцячыя санкамісіі сыстэматычна сочаць за апратнасьцю вучняў, за іх чыстатой, у клясах, карыдорах, ва ўсіх кутках школы бездакорная чыстата. Школьнае кіно, фіз-

культура, ваенізаваныя выхады,—усё гэта пастаўлена на службу разумнага адпачынку дзяцей і ўмацаваньня іх здароўя.

Забытым вучасткам у школе была растлумачальная работа як сярод дзяцей, так і сярод бацькоў аб значэньні праверачных іспытаў. Маскоўская вопытна-паказальная школа імя Лепяшынскага дапамагла 25-й ФЗС выправіць гэты буйны недахоп.

Пад уплывам бацькоў і нават асобных настаўнікаў вучні чакалі праверачных іспытаў з хваляваньнем, слова «экзамен» можна часта было пачуць ад вучняў. Некаторыя пэдагогі нават прабавалі запалохаць дзяцей,—«пабачым, як ты мне будзеш адказваць у час экзаменаў», у прыватных гутарках з дзецьмі некаторыя настаўнікі досыць падрабязна абмалёўваючы ўсе прыгоды экзаменаў старой школы, недастаткова чотка і ясна растлумачвалі вучням сутнасьць і значэньне праверачных іспытаў у нашай савецкай школе. На найбольш уражлівых дзяцей такія гутарачкі, да таго-ж падаграваемыя запалохваньнем бацькоў, дзейнічалі вельмі моцна, у дзяцей закрадвалася сумненьне ў свае сілы і веды. Напрыклад, вучаніца VI-а групы Казанцэвіч так запалохалася іспытаў, што кінула наведваць школу і нават паступіла дзесь на работу. Вучні знайшлі яе, прывялі ў школу, загадчык школы вельмі доўга з ёю гутарыў і, ўрэшце, яна пачала зноў наведваць заняткі. Казанцэвіч адставала па матэматыцы, да яе спэцыяльна быў прымацаваны выкладчык матэматыкі і зараз яна ідзе ў ліку сярэдніх вучняў і ня кепска адказвае на іспытах. На некаторых вучнях ранейшае запалохваньне адбіваецца і зараз. Напрыклад, добра пасьпяваючыя вучні VII-й групы Наскоў і Няўзорава ў час першых іспытаў моцна хваляваліся і пры адказах у іх проста заплятаўся язык. Але, лепш дадзім слова вучню. Вось што гаворыць вучань VII-а групы Вася Сянькоў:

«У кожнага з нас глыбока ўнутры была затаённая запалоханасьць, усхвалёванасьць і гэта ня гледзячы на тое, што мы ведалі сутнасьць іспытаў».

Як школа зжыла адрыжкі старой школы? Тут па заяве загадчыка школы і пэдагогаў вялікую дапамогу аказала адозва школы імя Лепяшынскага. Яна была прапрацавана сярод настаўнікаў, пытаньні аб праверачных іспытах былі шырока абгавораны на супольных сходах вучняў і бацькоў, спэцыяльны гэтаму пытаньню былі прысьвечаны збор піянэр-атрадаў і баз, абгаварвалася яно і на сходзе школьнай камсамольскай ячэйкі. На школьным савеце з самым шырокім удзелам вучняў загадчык школы яшчэ раз зрабіў даклад аб значэньні праверачных іспытаў, былі дадзены ясныя, вычарпальныя ўстаноўкі на аснове загаду тав. Бубнова. Трэба сказаць, што Наркамасьветы БССР моцна спазьніўся з дачай указаньняў аб парадку правядзеньня іспытаў. Напрыклад, апошні загад тав. Бубнова аб праверачных іспытах быў апублікаван у апошніх днёх красавіка, а ана-

лёгічны загад НКА БССР быў падпісан толькі, здаецца, 7-га мая, а ў школы нават Менску ён папаў яшчэ пазьней.

Складанай і цяжкай па сваёй навіне для школы была справа скласьці расклад праверачных іспытаў і мэтодыка, правільней кажучы, тэхніка іх правядзеньня. Пісьмовыя дырэктывы Наркамасьветы БССР, што мела школа, гаварылі больш аб тым чаго нельга рабіць. А вось як і што рабіць,—гэтага самага асноўнага ў дырэктывах Наркамасьветы амаль ня было. Мэтодыкі правядзеньня іспытаў школа не ад Менскага ГарАНА, ні ад самаго Наркамасьветы не атрымала і адзіным матар'ялам служыла «ЗКП». Артыкулы ў гэтай газэце аб датэрміновых іспытах па радзе школ Масквы дапамаглі 25-й ФЗС выправіць, што называецца на хаду недахопы і скажэньні.

Спачатку расклад праверачных іспытаў быў складзен з фортках, якія меркаваліся скарыстоўваць для падрыхтоўкі да чарновых іспытаў. Спачатку гэта відаць так і было. Той-жа вучань Вася Сянькоў вось што гаворыць: «У кожны вольны дзень ад іспытаў мы зьбіраемся і рыхтуемся разам з настаўнікам таго прадмету, па якому назаўтра будуць іспыты». Гэтыя форткі былі ліквідаваны і запоўнены лекцыямі па раскладу.

Другім ня менш складаным пытаньнем для школы было пытаньне аб тым, як давесьці да вучняў на зразумелай і даступнай дзецям мове праграмныя запатрабаваньні. Ніякіх канкрэтных указаньняў ні з боку Менскага ГарАНА, ні з боку Наркамасьветы па гэтым пытаньні ня было. ГарАНА даслаў школе толькі кантрольныя пытаньні, ды і то не па ўсіх прадметах, але даводзіць іх да вучняў забараніў. Школьнае мэтадбюро, бачучы, што для складаньня канспэктаў на прыкладзе школы імя Лепяшынскага час уже страчан, вырашыла замяніць іх кантрольнымі пытаньнямі. Да рэчы аб кантрольных пытаньнях, што дасланы Менскім ГарАНА для кіраўніцтва пэдагогам. Гэтыя пытаньні ў радзе выпадкаў атрымаліся кур'ёзнымі, палітычна-няпісьменнымі і незаўсёды адказваючымі праграмным запатрабаваньням і ўзросным асаблівасьцям груп. Вось, напрыклад, пара пытаньняў для дзяцей 2-й групы (яшчэ да новага загаду НКА): «якая розьніца паміж дырэктарам нашай чырвонай фабрыкі і дырэктарам капіталістычнай», «у чым розьніца паміж капіталістычнай і сацыялістычнай рацыяналізацыяй». У некаторых школах былі яшчэ большыя кур'ёзы. Напрыклад, у 1-й ФЗС для вучняў IV-й групы па грамадазнаўству кантрольныя пытаньні складалі ледзь ня цэлую брашуру па палітграмаце—150 пытаньняў.

Трагізм становішча заключаецца ў тым, што Менскі ГарАНА, стаўшы перад фактам такіх кур'ёзаў, забараніў даводзіць

да вучняў кантрольныя пытаньні, але як даводзіць патрабаваньні да вучняў нічога не сказаў.

Урэшце ў 25-й ФЗС да вучняў ні канспэктаў, ні кантрольных пытаньняў так і не даведзена. Праўда, школа на сваю адказнасьць распрацавала і давяла да вучняў старэйшых груп усе кантрольныя пытаньні па гісторыі, геаграфіі і літаратуры. Настаўнікі маюць у сябе кантрольныя пытаньні па ўсіх групах і прадметах, па якіх праводзяцца іспыты.

Школа па прыкладу маскоўскіх школ правяла датэрміновыя іспыты па прыродазнаўству ў VII-й групе. Датэрміновыя іспыты выявілі рад недахопаў. Настаўнік прыродазнаўства т. Стахоўскі не адразу даў чоткія ўстаноўкі, у папярэдняй гутарцы ён сам дапусьціў такое слова як «экзамен». Наўпрэкі рашэньням вытворчай настаўніцкай нарады і мэтадбюро, тав. Стахоўскі пачаў выклікаць для адказаў вучняў па сьпісу—аднаго зьверху, а другога зьнізу, што стварыла штучныя абставіны ў клясе. Тэхніка правядзеньня іспытаў не забясьпечвала актыўнасьці ўсіх рабят, ня быў вытрыман прынцып пачаць праверку ведаў з моцнага вучня, каб гэтым самым стварыць у клясе бадзёры настрой дзяцей. Пры невялічкай замінцы адказваючага падымаўся лес дзіцячых рук, што значна палохала апошняга,—у яго нараджалася думка—вось мае таварышы ведаюць, а я не, і настрой яго падаў.

Па скончэньні датэрміновых іспытаў па прыродазнаўстве на вытворчай нарадзе, на мэтадбюро і школьным савеце былі абгавораны як само правядзеньне іспытаў, так і матар'ял аб датэрміновых іспытах у школах Масквы, былі зроблены адпаведныя вывады і даны ўстаноўкі для правядзеньня далейшых іспытаў. Праз дзень у школе пачаліся іспыты па радзе прадметаў і груп. Практыка іх правядзеньня зноў паказала, што ў некаторых настаўнікаў сустракаліся шурпатасьці. Напрыклад, выкладчык эканамічнай геаграфіі тав. Сьцепуржынскі ў VII-а групе ў папярэдняй гутарцы супакоіў дзяцей.—«Няважна, мол, калі вы пры адказах што-небудзь запамятаеце, бо запамятаць можа кожны чалавек». Гэта, па нашай думцы, размагнічвала вучняў,—ня буду чаго ведаць, так скажу, што запамятаў. Так яно і было ў час іспытаў з некаторымі вучнямі. Дзеці ў час іспытаў больш чым дружна падымалі рукі, калі ў адказваючага была хоць маленькая замінка, настаўнік не даваў магчымасьці адказваючаму прадумаць і даць разгорнуты адказ, не сачыў настаўнік і за тым, каб гэты адказ быў пісьменны, пачаў праверку ведаў з слабейшых вучняў, што спачатку, бязумоўна, адбілася на настроі дзяцей.

Найбольш цікава і жыва праходзілі іспыты ў выкладчыка фізыкі і матэматыкі тав. Міхліна. Ён папярэдня з вучнямі

ўспамінаў, якія тэмы і ў якім парадку прапрацаваны за год. Гэта дапамагала вучням аднавіць у памяці пройдзены курс і парадак прахаджэньня тэм. Потым настаўнік даваў вучням пытаньні, даваў ім крыху падумаць, падымаліся рукі дзяцей і адзін з вучняў выклікаўся да дошкі для разьвязваньня дадзенага пытаньня. Пасьля адказу выкліканага да дошкі, настаўнік ставіў новае пытаньне перад усёй клясай і зноў адзін з вучняў, па ўказаньні настаўніка, ішоў да дошкі і з крэйдаю ў руках даваў разгорнуты адказ. За час іспытаў настаўнік выклікаў да дошкі кожнага вучня па некалькі раз. Такая тэхніка правядзеньня іспытаў вельмі добра дзейнічала на дзяцей, у праверцы праграмнага матар'ялу прымала ўдзел уся кляса, і разам з тым ня было абязьлічкі і іспыты праходзілі ў нармальных школьных абставінах.

Зусім іншы малюнак на іспытах быў у выкладчыка матэматыкі тав. Шутава. Пытаньні настаўнікам ставіліся незаўсёды ўдала, ён часта іх сам выпраўляў, праверка ведаў у яго праходзіла вельмі манатонна і вяла. У клясе адчуваўся роўны, бяз ніякіх інтанацый голас настаўніка, у тон яму ўторылі і дзеці. Вучні сумуюць, зяваюць і шумяць.

Аб чым-жа гавораць першыя праверачныя іспыты?

Веды вучняў у параўнаньні з мінулым годам значна ўзьняліся, праграмны матар'ял засвоены, бязумоўна, больш глыбока чым летась; але трэба проста і рашуча сказаць, што «карэнны недахоп» яшчэ не ліквідаваны. Тут са ўсёй рашучасьцю сказваецца спадчына мінулых год і адсутнасьць стабільнага падручніка. Першыя іспыты паказалі, што выкладчыкі матэматыкі, геаграфіі і інш. прадметаў недастаткова настойліва вялі барацьбу за граматнасьць самой мовы. Гэта відаць было і на іспытах,—вучань у час адказу няправільна будаваў сказ, а настаўнік часта яго зусім не папраўляў. Вучні яшчэ ня зусім цьвёрда ведаюць геаграфічную карту, матэматыка засвоена недастаткова глыбока, пісьменнасьць дзяцей яшчэ недастаткова высокая.

Усё-ж трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што апошняя чвэрць навучальнага году дала значны зрух у справе засваеньня праграмнага матар'ялу. На праверачных іспытах па прыродазнаўству ў VII групе не зафіксавана ніводнага «нуда», у VIII-й групе—таксама 100 проц. пасьпеваючых. Горш справа з матэматыкай—у VII-б групе на іспытах 9 проц. дзяцей атрымалі адзнаку «нездавал.», у VII-в групе—7 проц. У V-а групе спачатку году па пісьмовых работах было 50 проц. непасьпяваючых, на іспытах нездавальняюча напісалі дыктоўку 12 проц. дзяцей. Па эканамічнай геаграфіі ў VII-а групе ўсе 100 проц. пасьпяваючых. Вучні VI групы па сканчэньні іспытаў па геаграфіі зьвярнуліся хутчэй да заг. навучальнай часткі падзяліцца сваімі дасягнень-

нямі,—«у нас, кажуць яны, адказвалі добра нават тыя вучні, якія ўвесь год адставалі, мы іх падцягнулі»—наперабой расказвалі дзеці загвучу. «Вучань V-й групы Кастроў адказаў мне добра, а ў апошняй чвэрці меў «нуд»,—дзеліцца вынікамі настаўнік прыродазнаўства.

У школе кожны дзень пасьля іспытаў праводзяцца абгавараньні тэхнікі правядзеньня іспытаў па кожнаму асобнаму прадмету, абгаварваюцца таксама пытаньні аб тым, як настаўнік справіўся з прапрацоўкай праграмнага матар'ялу, якасьць яго работы. Накапляецца багаты матар'ял для падвядзеньня вынікаў навучальнага году для надыходячай ператарыфікацыі настаўніка.

У заключэньне мы зварочваем увагу ўсіх школ і Менскага ГарАНА на тое, што 25-ая узорная ФЗС, праводзячы вялікую мэтадычную і дасьледчую работу, далёка недастаткова знаёміць школы Менску з вопытамі сваёй работы, не пераносіць іх на крытыку шырокіх настаўніцкіх мас. У прыватнасьці ў такім пытаньні, як праверачныя іспыты, школа, калі ня лічыць адзінага дакладу загадчыка на нарадзе загадчыкаў пры ГарАНА, варылася ва ўласным саку, робячы часам нават буйныя памылкі. Школа ў далейшай сваёй рабоце гэты прабел павінна зьнішчыць.

*Лаварэнка М.*

# Аб уліку пасьпяховасьці студэнтаў ВНУ і Тэхнікумаў

«У мэтах забясьпячэньня сапраўднага кантролю за якасьцю вучобы кожнага студэнта паасобку правесьці наступныя мерапрыемствы: увесьці дыфэрэнцыяльную форму ацэнкі пасьпяховасьці студэнтаў у залежнасьці ад характару дысцыпліны і мэтаду выкладаньня, ускласьці адказнасьць за ацэнку ведаў на прафэсарска-выкладчыцкі склад і забараніць усякія калектыўныя залікі».

(З пастановы ЦВК СССР ад 19/IX 1932 г.).

Улік пасьпяховасьці зьяўляецца адным з галоўнейшых вучасткаў барацьбы за высокаякаснага пралетарскага спэцыяліста. Улік пасьпяховасьці, зьяўляючыся адным з элемэнтаў працэсу падрыхтоўкі кадраў для сацыялістычнай гаспадаркі, павінен зьявіцца выключна важным фактарам карэннага палепшаньня ўсіх астатніх элемэнтаў пэдпрацэсу.

У самай цеснай залежнасьці ад пастаноўкі ўліку пасьпяховасьці стаіць цэлы шэраг наступных пытаньняў жыцьця навучальнай установы: 1) чоткая плянава-праграмная работа ВНУ, тэхнікуму, 2) выкананьне ў тэрмін усіх вучэбна-вытворчых ра-

бот, 3) кантроль за работай катэдр і прафэсарска-выкладчыцкага складу, 4) праверка правільнасьці і эфэктыўнасьці мэтадаў выкладаньня, 5) кантроль за правільнасьцю і глыбінёй засваеньня прапрацоўваемай дысцыпліны, 6) шырокае разьвіцьцё і стымуляваньне творчай ініцыятывы студэнта і забясьпячэньне яго матэрыяльнай базы, 7) канкрэтнае індывідуальнае сацспаборніцтва і ўдарніцтва, 8) выхаваньне студэнта, як сябра калектыву, на падставе шырокай грамадзкай актыўнасьці і адказнасьці за кожную даручаемую справу, 9) праверка чоткасьці работы ўсіх вучэбных і вучэбна-дапаможных устаноў ВНУ і тэхнікумаў, бібліятэк, габінэтаў, лябараторый і г. д.

Такі пералік асноўных пытаньняў работы прафтэхнічнай школы, якія знаходзяцца ў простай залежнасьці ад пастаноўкі ўліку пасьпяховасьці.

Закранем гэтыя пытаньні больш падрабязна.

Зусім бясспрэчна, што як ВНУ так і тэхнікумы павінны мецьсвой вучэбна-вытворчы плян, які патрэбна выканаць і перавыканаць шляхам павышэньня якасьці вучобы, шляхам паглыбленьня і пашырэньня ведаў студэнтаў. Аднак да 1932-33 вучэбнага году нашы ВНУ і тэхнікумы ня мелі цьвёрдых вучэбных плянаў і праграм. ЦВК СССР у сваёй пастанове ад 19 верасьня 1932 г. проста гаворыць: «аднак і зараз вучэбныя пляны і праграмы ВТНУ, ВНУ і тэхнікумаў маюць цэлы шэраг сур'ёзных недахопаў, галоўнымі з якіх зьяўляюцца наступныя: значная неадпаведнасьць праграм асноўным спэцыяльнасьцям выпускаемых і яшчэ большая неадпаведнасьць паміж аб'ёмам праграмы і часам, што адводзіцца на праходжаньні некаторых прадметаў, няма цьвёрдых вучэбных плянаў, большасьць ВТНУ, ВНУ і тэхнікумаў працуе па так званых пераходных плянах, прычым вучэбныя пляны і праграмы часта пераглядаюцца і ў выніку амаль усюды адсутнічае стабільнасьць вучэбнага працэсу».

Частая зьмена ў працэсе вучобы плянаў і праграм, вывад адных і ўвод іншых дысцыплін, а ў сувязі з гэтым зьмена прафэсароў і выкладчыкаў параджала кругавую безадказнасьць у пытаньні якасьці вучобы. Адсутнасьць цьвёрдых вучэбных плянаў і праграм прыводзіла да абязьлічкі катэдры, да правалу ўліку пасьпяховасьці. Адсутнасьць уліку пасьпяховасьці прыводзіла да безадказнасьці катэдры. Прафтэхнічная школа павінна зьнішчыць бягучасьць вучэбных плянаў і праграм, якія дэзарганізуюць у аднолькавай ступені выкладчыкаў і студэнтаў і не даюць магчымасьці ўстанавіць поўны і чоткі ўлік працы студэнта.

Правільна пастаўлены ўлік пасьпяховасьці дае кіраўніцтву навучальнай установы, прафэсару і самім студэнтам магчымасьць выявіць, на колькі тэй ці іншы элемэнт пэдпрацэсу апраўдвае сябе, наколькі правільна і адпавядае задачам школы тая ці іншая ўстаноўка ў працы катэдры. Значэньне такога кантролю вялі-

зарна, бо малейшая шурупаватасьць у пэдпрацэсе зараз-жа сказваецца на якасьць вучобы і на пасьпяховасьці. Глыбока прадуманы, сур'ёзна і навукова пастаўлены ўлік пасьпяховасьці павінен зьявіцца адным з галоўнейшых вагароў кіраўніцтва работай катэдры і выкладаньня.

Улік пасьпяховасьці ні ў якім разе не павінен пературварыцца ў мярцьвецкую бязжыцьцёвую форму фіксацыі пройдзенага. У руках прафэсара і дырэктара савецкай прафтэхнічнай школы ўлік пасьпяховасьці павінен зьявіцца адным з сродкаў правільнай пастаноўкі і ўжываньня мэтаду выкладаньня. Улік пасьпяховасьці павінен стаць асяродкам работы школы. На яго аснове, на глыбокім яго аналізе павінна базавацца ўдасканальваньне мэтадаў выкладаньня і гнуткасьць работы катэдры.

Улік пасьпяховасьці павінен зьяўляцца вярнейшым сродкам да выяўленьня і наладжваньня пэўнай работы ўсіх дапаможных установ ВНУ, тэхнікуму (габінэтаў, бібліятэк, лябараторыі і інш.). Улік пасьпяховасьці ня можа быць выпадковым, ён павінен паступова ўдасканальваючыся ахапляць увесь комплекс дадзеных студэнту ведаў. Вопытны і аб'ектыўны выкладчык абавязан і ўпаўне можа на падставе ўліку пасьпяховасьці па сваёй дысцыпліне выявіць усе прабелы і промахі ў пастаноўцы вучэбнай работы. Ён можа і абавязан унесьці патрэбныя карэктывы ў вучэбную работу, шляхам фіксацыі ўвагі на гэтым вучэбнай часткі. Канкрэтна пастаўлены ўлік пасьпяховасьці дае самаму студэнту яскравае ўяўленьне аб яго акадэмічным абліччы, дапамагае разьвіцьцю яго творчай ініцыятывы і забясьпечвае яго матэрыяльную базу (прынцып дыфэрэнцыянальнай стыпэндыі).

Правільныя паказчыкі сыстэматычнага ўліку зьявяцца тымі элемэнтамі, якія павінны ажывіць акадэмічнасьць, сацспаборніцтва і ўдарніцтва папоўніць яго практычным зьместам і прыдаць яму палітычную завостранасьць.

Савецкая школа краіны будуючагася сацыялізму ня рыхтуе «начотчыкаў» і ня церпіць у сваіх шэрагах бязжыцьцёвых перадатчыкаў ведаў. Задача савецкага прафэсара-выкладчыка выхаваць спэцыяліста, які ўмеў-бы злучыць рэвалюцыйную тэорыю з практыкай, праяўляў-бы шырокую грамадзкую актыўнасьць.

Навуковыя асновы тэхнікі ўліку і мэтадалёгія яго арганізацыі павінны быць дасканала распрацаваны катэдрамі. Вучэбная частка павінна распрацаваць і ўстанавіць канкрэтныя тэрміны залікаў па кожнай дысцыпліне.

Тэрміны гэтыя павінны быць рэглямэнтаваны і загадзя вядомы студэнтам і выкладчыкам. Улік і ацэнка пасьпяховасьці студэнтаў абавязкова для ўсіх студэнтаў і па ўсіх дысцыплінах вучэбнага пляну, бо галоўная мэта ўліку і ацэнкі, зьяўляецца ўзьняцьце якасьці вучобы. Асноўнымі паказчыкамі пасьпяховасьці студэнта

зьяўляецца: а) якасьць усваеньня вучэбнага матэрыялу, б) ступень аўладаньня навыкамі самастойнай работы, в) якасьць афармленьня вынікаў работы, г) ступень уменьня прыстасоўваць тэарэтычныя веды да практычных задач сацыялістычнага будаўніцтва, д) ступень падрыхтаванасьці да навукова-дасьледчай работы і г. д.

Пералічаныя паказчыкі па свайму значэньню не раўнацэнны і іх удзельная вага павінна вызначацца ў залежнасьці ад курсу і дысцыпліны. Сьвядомае і моцнае засваеньне галоўнага па тэй ці іншай дысцыпліне патрэбна лічыць пры ацэнцы ведаў выходным палажэньнем. Навыкі самастойнай работы па дысцыпліне належыць разглядаць у самым шырокім разуменьні: сюды ўваходзяць навыкі работы з кнігай, з прыладамі ў габінэтах, лябараторыях, майстэрнях, навыкі ўменьня арганізаваць сваю работу і работу іншых, уменьне рабіць абагуленьні і г. д.

Належыць зьвярнуць асаблівую ўвагу на афармленьне студэнтам вынікаў работы. Граматнасьць выкананьня, акуратнасьць афармленьня—бязумоўныя запатрабаваньні, якія павінны быць прад'яўлены да кожнай работы студэнта, павінны быць улічаны і ацэнены.

Асабліва важным і складаным разьдзелам уліку пасьпяховасьці зьяўляецца ўлік лябараторных работ і заняткаў. У практыцы некаторых навучальных устаноў назіраецца тэндэнцыя да «кансэрваваньня» мэтадаў, якое зводзіцца да таго, што раз сабраныя работы мэханічна становяцца абавязковымі для ўсіх працуючых у лябараторыі студэнтаў. Такая ўстаноўка мерцьвіць лябараторыю, уносіць схалястычнасьць у працу і зьніжае вялізарнае значэньне лябараторыі ў пастаноўцы пэдпрацэсу. З запатрабаваньнем лябараторыі і «закасьцянеласьцю» форм рботы патрэбна весьці самую рашучую барацьбу. Толькі тады магчыма лічыць, што студэнт дастаткова асвоіў прыборы, апаратуру і прыёмы работы з імі, калі ён можа ня толькі рабіць досьледы, але можа з значнай доляй творчай ініцыятывы і самастойнасьці арганізаваць іх.

Асаблівую цікавасьць і вялікія цяжкасьці прадстаўляе ўлік пасьпяховасьці нясупыннай вытворчай практыкі студэнтаў. Гэта пытаньне павінна зьявіцца тэмай спэцыяльнага артыкулу. Не застанаўляючыся на гэтым пытаньні, лічу патрэбным сказаць, што прадстаўленьне студэнтамі кароткіх, тэхнічных пісьмовых вычэрпальных справаздач аб вытворчай практыцы патрэбна лічыць абавязковым. Абавязкова гутарка прафэсара з кожным студэнтам па сутнасьці справаздачы. Перад тым, як прадстаўляюцца справаздачы кіраўніку катэдры яны абавязкова павінны праглядацца кіраўніком вытворчай практыкі ад навучальнай установы і кіраўніком дадзенай вытворчасьці і снабжацца кароткай харак-

тарыстыкай як па сутнасьці справаздачы, так і канкрэтнай рабоце дадзенага студэнта.

Апошнім этапам завяршэньня вучобы, зьяўляецца напісаньне і абарона дыплёмнай работы. Ацэнка дыплёмнай работы робіцца прафэсарамі і кваліфікаванымі працаўнікамі вытворчасьці, якія падходзяць да работы з усёй навукова-тэхнічнай сур'ёзнасьцю. Тэматыка дыплёмных работ павінна быць распрацавана адпаведнымі катэдрамі, зацьверджана дырэктарам навучальнай установы і даведзена да студэнтаў выпускнікоў з пачатку першага сэмэстру вучэбнага году. Студэнту забясьпечваецца свабодны выбар тэмы з ліку высунутых катэдрай і даецца магчымасьць самаму высунуць тэму на зацьверджаньне катэдры. Дыплёмная работа павінна паказаць веды асноў навейшай тэхнікі, пытаньняў пляна-ваньня, выявіць узровень агульна-тэорэтычнай падрыхтаванасьці студэнта, яго мэтадалёгічную ўзброенасьць і ступень падрыхтаванасьці да навукова-дасьледчай работы па спэцыяльнасьці. Выкананая студэнтам дыплёмная работа павінна быць прадстаўлена катэдры ня менш як за 2—3 тыдні да яе абароны. Прагляд і рэцэнзаваньне работы катэдры даручае аднаму з прафэсароў ці дацэнтаў па спэцыяльнасьці. Рэцэнзія на дыплёмную работу павінна быць даведзена да студэнта ня менш, як за 5—8 дзён да тэрміну вызначанага для абароны работы. Абарона дыплёмнай работы павінна рабіцца перад кваліфікацыйнай камісіяй, прыкладна наступным чынам: зачытваецца рэцэнзія на работу; члены камісіі даюць студэнту пытаньне па зьмесьце работы, даецца студэнту слова для абароны работы, галоўным чынам па рэцэнзіі на работу. На падставе аналізу работы, адказу студэнта на зададзеныя пытаньні, абароннага выступленьня студэнта, кваліфікацыйная камісія робіць ацэнку дыплёмнай работы.

Улік і ацэнка пасьпяховасьці павінны праводзіцца, як у форме бягучага ўліку, так і ў форме заліковых сэсій.

## Бягучы ўлік

Дасканалае і сыстэматычнае вывучэньне студэнта магчыма толькі пры ўмове правільна пастаўленага бягучага ўліку. Таму ВНУ і тэхнікумам патрэбна зьвярнуць асаблівую ўвагу на пастаноўку бягучага ўліку. Бягучы ўлік павінен весьціся шляхам сыстэматычных назіраньняў выкладчыкаў за ўсёй вучэбнай работай студэнтаў і шляхам сыстэматычнага фіксаваньня гэтых назіраньняў. Прыкладна магчыма ўказаць наступныя асноўныя моманты бягучага ўліку:

1) аналіз вынікаў работы студэнта запісак, заметак, канспэктаў, кантрольных работ, рашэньняў задач, складаньня чарцяжоў, прыгатаўленьня прыбораў, гэрбырый, прапаратаў і г. д.

2) улік вусных выступленьняў і адказаў студэнта на запытаньне ў час групавых заняткаў, кансультацый, дакладаў і інш.,

3) назіраньні за працэсам работы (работа з кнігай, з друкаванымі і пісьмовымі матэрыяламі, работа ў кляснай дошкі, габінэце, лябораторыі, работа з прыладамі, прэпаратамі і г. д.).

Чым разнастойней ужываемыя выкладчыкам формы ўліку, тым паўней комплекс назіраньняў, неабходных матэрыялаў для правідловых вывадаў ацэнкі пасьпяховасьці. Для фіксацыі бягучага ўліку ў кожнага выкладчыка павінен быць сшытак. Адносіны да ўліку пасьпяховасьці з боку выкладчыкаў павінны быць бязумоўна сур'ёзны і адказны. Ацэнка павінна адпавядаць ступені сапраўднай падрыхтаванасьці студэнта і быць строга абаснавана пералічанымі вышэй паказчыкамі. На заліковыя сэсіі выносяцца агульна-адукацыйныя, агульна-тэхнічныя і вядучыя спэцыяльныя дысцыпліны, прапрацаваныя на працягу сэмэстру. На кожную заліковую сэсію трэба выносіць ня больш 3—5 дысцыплін, большая колькасьць дысцыплін зьяўіцца перагрузкай для студэнтаў. Заліковыя сэсіі павінны ўтварацца да водпуску студэнтаў у адпачынак. Дысцыпліны, якія выносяцца на сэсіі, павінны быць прапрацаваны ў поўным аб'ёме і толькі ў асобных выпадках улік пасьпяховасьці на сэсіях магчыма зрабіць і па разьдзелах курсу. У практычным правядзеньні ўліку пасьпяховасьці не павінна быць трафарэтнасьці і схалястычнасьці.

Улік пасьпяховасьці на сэсіях павінен рабіцца камісіяй у складзе кіраўніка катэдры, выкладчыка дадзенай дысцыпліны і прадстаўніка навучальнай часткі. Студэнту, які не здаў заліку ў бягучай сэсіі па якой-небудзь дысцыпліне, павінна быць дазволена паўторна здаць у наступнай сэсіі.

Падагульняючая ацэнка выводзіцца як вынік (але не сярэдняя) з бягучых ацэнак. Формаю ацэнкі павінны быць адзнакі:

а) **нездавальняюча**—калі студэнт не засвоіў праграмнага матар'ялу;

б) **здавальняюча**—калі студэнт засвоіў праграмны матар'ял па мінімуму і аўладаў ведамі на аснове гэтага матар'ялу без паглыбленьня;

в) **добра**—калі студэнт акрамя мінімуму прапрацаваў і дадатковы матар'ял, добра аўладаў ім, добра засвоіў і можа ўжыць яго на пэўным вучастку сацыялістычнага будаўніцтва;

г) **вельмі добра**—калі студэнт ня толькі добра засвоіў максымум вызначанага па дысцыпліне матар'ялу, але і праявіў інтарэс і здольнасьці да дасьледчай распрацоўкі пытаньняў данай галіны, да вынаходства ў гэтай галіне, праявіў актыўны ўдзел у працы катэдры ў арганізацыі працы дапаможных устаноў катэдры—габінэтаў, лябараторый, музэяў і г. д.

На працягу бягучага ўліку па сканчэньні распрацоўкі кожнай тэмы выкладчык абавязан даваць зьвесткі навучальнай часткі пра ступень засваеньня кожным студэнтам дадзенай тэмы. Навучальная частка фіксуе дадзеныя зьвесткі ў картку студэнта.

## ПРЫКЛАДНЫ ЎЗОР КАРТКІ

Картка
№

Дата завядзеньня карткі: год........ месяц........ числа........
Назва навучальнай установы........

### Асабовая картка студэнта

1. Прозьвішча........
2. Імя........
3. Па бацьку........
4. Нацыянальнасьць........
5. Год, месяц і дзень нараджэньня........
6. Сацыяльнае паходжаньне........
7. Партыйнасьць (з якога часу)........
8. Сябра якога прафсаюзу і з якога часу........
9. Асьвета (што скончыў і калі)........
10. Кім камандыраваны ў навуч. установу........
11. Хатні адрас........

### Залічэньне ў навучальную ўстанову

1. Год........ месяц........ числа........
2. Пакінуў навучальную ўстанову: Год........ месяц і числа........
3. Пераведзен на II-гі курс. Год........ месяц........ числа........
4. Пераведзен на III курс. Год........ месяц........ числа........
5. Пераведзен на IV курс. Год........ месяц........ числа........
6. Скончыў нав. установу Год........ месяц........ числа........
7. Куды накіраваны на працу........

Характарыстыка студэнта (агульны вывад з характарыстык паасобных катэдр)........

*Загадчык нав. часткі*

## АЦЭНКА ВЕДАЎ СТУДЭНТА

| № | Назва дысцыплін | Па тэмах | | | | | | Па сымэстрах. | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6. . | I | II | III | IV | V | VI | VI | VIII | Агульная ацэнка па дысцыпліне |
| | | | | | | | | | | | | | | | | |

*Загадчык аддзяленьня*

*Е. К. Матлін*

# Мэтодыка пабудовы клінічнай гутаркі з дзіцём

Партыйныя і Ўрадавыя пастановы аб школе апошніх 2-х год ставяць перад пэдагогамі і пэдалёгамі шэраг канкрэтных задач па перабудове школы. Пытаньні мэтадаў выкладаньня, аб'ёму і зьместу праграм, умацаваньне школьнага рэжыму, пастаноўка палітэхнізацыі ў школе і г. д.—ўсё гэта пытаньні, якія зьвязаны з выхаваньнем нашай моладзі, з падрыхтоўкай яе да актыўнай, сьвядомай барацьбы за сацыялістычнае грамадзтва. Нам патрэбна—па выражэньню Маркса—«содействовать выявлению и развитию всех таящихся в человеке возможностей» [1]). Адказнасьць за выяўленьне і разьвіцьцё гэтых мажлівасьцяй кладзецца ў першую чаргу на школу. Для гэтага школа абавязана ня толькі вучыць і выхоўваць, але і **вывучаць** дзяцей, ведаць іх з усіх бакоў.

З гэтага пункту гледжаньня набывае вялізарнае значэньне мэтодыка вывучэньня дзіцяці. Мэтад дасьледваньня ў значнай ступені прадвызначае вывады. Можна прывесьці шмат прыкладаў, як здавалася—быццам аб'ектыўная мэтодыка даводзіла да антыленінскіх вывадаў. Дастаткова напомніць аб мэтодыцы спалучальных рэфлексаў. Праф. Сарохцін, карыстаючыся гэтай мэтодыкай, сконструяваў у мэтах «аб'ектыўнасьці» спэцыяльны апарат,—рэфлексалёгічны экран. Спалучаючы на гэтым экране электраскуравы раздражальнік з гукавым, ці сьветавым, ён выклікаў адказ на раздражненьне не на асноўны, а на спалучальны раздражальнік. І вось старанна дасьледуючы 150 ленінградзкіх вучняў, вывучаючы тэмп рэагаваньня, ён іх па тормазнасьці і ўзбуджальнасьці разьбіў на 5 тыпаў, пры чым зрабіў наступны вывад: «колькасьць хлопчыкаў тормазнага тыпу з узростам павышаецца. Так, у малодшай клясе тормазныя складаюць 23 проц. усіх хлопчыкаў, у сярэдняй 50 проц., у старэйшай 90 проц. усіх хлопчыкаў» [2]). Што-ж гэта такія за «тормазныя» дзеці, якія з кожным годам павялічваецца ўсё больш і больш. Адказ на гэта пытаньне можна знайсьці на 42 старонцы памянёнай працы. Сярод іншых «якасьцяй» мы знаходзім: «Уцягваюцца і арыентуюцца ў новай рабоце з сярэдняй хуткасьцю, праяўляючы ў гэтым ухіл да павольнасьці. Работу выконваюць па хуткасьці павольна ці ма-

[1]) Цыт. па Луначарскаму „Искусство, как вид человеческого поведения", стеногр. отчет 1 с'езда по изучению поведения, стр. 227.

[2]) Рефлексологические типы детей школьнога возраста. Выд. „Сеятель" 1928 г. стар. 153—154.





рудна. Эмоцыі адзначаюцца працяжнасьцю і замкнутасьцю». Вось аказваецца ў якім напрамку разьвіваецца савецкая дзетвара!

Гэткае «аб'ектыўнае» дасьледваньне камэнтараў не патрабуе.

Гэты прыклад я прывёў для таго, каб паказаць, у якой залежнасьці знаходзяцца пры дасьледваньнях вывады ад мэтодыкі, якой пры гэтым карыстаешся.

Старая буржуазная псыхалёгія пакінула нам дзесяткі мэтадаў вывучэньня дзіцяці. Найбольш пашыраны з іх анкетны мэтад, мэтад тэстаў, экспэрымэнтаў і інш. У большасьці сваёй гэтыя мэтады не даюць поўнага ўяўленьня аб дзіцяці. Бярэце, напрыклад, анкетны мэтад. У загадзя распрацаванай анкеце мы маем пэўны пералік аднатыпных пытаньняў, якія прад'яўляюцца рознастайнай масе дзяцей. Дасьледчык ня можа тут улічыць ні шчырасьці адказу, ні сапраўдных адносін дзіцяці да таго ці іншага зьявішча. Праўда, гэты мэтад мае вялікую перавагу, ён масавы. Ён можа за кароткі час даць, напрыклад, вялізарны матар'ял аб становішчы ведаў дзяцей. У гэтых адносінах анкета незамяніма. Для пэдалёгічнага дасьледваньня анкета ня можа мець гэтага значэньня. Па сваёй схэматычнасьці і стандартнасьці яна ня можа ўлічваць індывідуальных асаблівасьцяй кожнага дзіцяці паасобку. Таксама ня можна лічыць у пэдолёгіі асноўным мэтадам дасьледваньня,—тэсты. Ужо адно тое, што тэставаньне патрабуе спэцыяльнай, нязвычайнай абстаноўкі (рассаджваньне дзяцей, інструктаж, а таксама і абмяжаванасьць часам)—ужо адно гэта выклікае часта хваляваньне і сьпешку ў дзіцяці. У лепшым выпадку тэсты могуць быць невялікім дапаўненьнем.

У такой-жа ступені мала-падыходзячымі зьяўляюцца ўсялякія стандарты, накшталт скалы Бінэ-Сымона, што прыгатаваны для ўсіх эпох, клясаў і народнасьцяй. Блонскі, напрыклад так і адзываецца аб шкале Бэрта. Ён лічыць, што гэта «интернациональный критерий для определения умственного развития детей разных стран, эпох и классов» [1]). Зусім зразумела, што падобная ацэнка нічога агульнага ня мае з марксысцка-ленінскімі ўстаноўкамі. Гэта пацьвярджае і аналіз самай школы. Паводле яе, напрыклад, дзіця 3-х год павінна правільна адказаць на пытаньне: «ты хлопчык, ці дзяўчынка»? На гэткае пытаньне адкажа бясспрэчна і 2-х гадовае дзіця нашых ясьляў. З другога боку, шкала патрабуе ад 6-ці гадовага дзіцяці абавязковага знаёмства з грашыма: чырвонец, рубель, 20 капеек і пятак. Ясна, што ва ўсіх адносінах нармальна разьвіты шасьцігадовы дзіцёнак можа гэтага ня ведаць. У праграмах нашых дзіцячых садоў, здаецца, няма такіх элемэнтаў «выхаваньня» і хатнія ўмовы якраз мо-

[1]) Педология в массовой школе I ступ.

гуць не садзейнічаць пісьменнасьці ў гэтым сэнсе. На гэтай падставе судзіць аб разумовым разьвіцьці дзіцяці—недапушчальна.

Мэтадалёгія дыялектычнага матэрыялізму патрабуе ад нас дасьледваньня асобы ў працэсе яе разьвіцьця, аб'ектыўнага разуменьня яе ў натуральнай абстаноўцы; патрабуе ўліку своеасаблівасьцяй кожнага дзіцяці, што выцякаюць з таго месца, якое яно займае ў грамадзка-вытворчым жыцьці. Толькі выходзячы з гэтых прынцыпаў можна ўсебакова і правільна дасьледваць дзіця.

Найбольш адпавядаючым гэтым патрабаваньням зьяўляецца, па-мойму, мэтад клінічнай гутаркі. Ён, поруч з мэтадам аб'ектыўнага нагляданьня, пры належнай пабудове можа быць адным з важнейшых спосабаў дасьледваньня сацыяльна-псыхічных асаблівасьцяй дзіцяці.

Спачатку прагледзім, як карысталіся мэтадам клінічнай гутаркі буржуазныя вучоныя.

## „Гутарка" у Фрэйда

Каб аналізаваць прынцыпы пабудовы гутаркі ў Фрэйда неабходна хоць у самых кароткіх рысах напомніць яго тэорыю псыхоаналізу.

Уся складаная сыстэма гэтага мэтаду лячэньня псыхонэўрозаў заснавана на своеасаблівым разуменьні суадносін паміж дзьвума катэгорыямі мысьленьня: «сузнальнага» і «бязсузнальнага». Пад бязсузнальным (unbewusst)Фрэйд разумее пярвічную форму сувязі дзіцяці (а таксама і прымітыву) з акаляючым асяродзьдзем. Гэта сувязь на першых ступенях разьвіцьця грунтуецца на пачуцьцёвых адносінах па прынцыпу «прыемнага» і «няпрыемнага». Кантроль розуму—сузнальнае—наступае пазьней і на працягу ўсяго жыцьця чалавека змагаецца з бязсузнальным, якое адсоўваецца перад розумам, перад практыкай у сфэру ніжэй парогу сузнаньня. «Реальный мир—як гаворыць Рэйснэр—со своими страшными угрозами прямо таки выдавливает или вытесняет первобытный аппарат сексуального отношения к миру» [1]). Такім чынам, па Фрэйду, у нашым нэрвовамазгавым апараце адбываюцца ўвесь час канфлікты паміж сузнальным (розум, практыка) і бязсузнальным (пачуцьці). Гэта барацьба канчаецца звычайна тым, што бязсузнальнае адступае, хаваецца. Але яно не зьнікае зусім. Яно чакае выпадку аслабленьня «цэнзуры» сузнальнага і тады перад намі паўстае катастрофа—псыхонэўроз.

Да чаго-ж нізводзяцца прынцыпы яго тэрапіі? Фрэйд упэўняе, што калі ў працэсе гутаркі з хворым выявіць сутнасьць выцесьненага (г. зн. бязсузнальнага) і ўвесьці яе ў сузнальнае, дык

1) Вітэльс „Фрейд", прадмова Рэйснэра, стар. 16

зьнікае псыхонэўроз. Як толькі псыхоаналітыку ўдаецца расшыфраваць прабелы, пропускі, якія ён сустракае ў апавяданьнях хворага, і ўвядзе іх у сузнаньне нэўротыка—зьнікае хвароба [1]).

З мэтадалёгічнага боку фрэйдызм бясспрэчна прадстаўляе сабой ідэялістычную канцэпцыю. Ён зводзіць да задавальненьня пачуцьцёвых патрабаваньняў усё жыцьцё дзіцяці, ён адводзіць інстынкту, біалёгічнаму, занадта вялікае мейсца, ён пярвічным прызнае псыхіку, урэшце, самы псыхонэўроз ён разглядае як вынік абмежаваньня грамадзтвам чалавечых пачуцьцяў. Ён супроцьстаўляе асобу грамадзтву, як дзьве антаганістычныя сілы без дыфэрэнцыяцыі і клясавых фаз грамадзкага разьвіцьця.

Клара Цэткін у сваіх успамінах аб Леніне праводзіць адну з гутарак па жаночаму пытаньню, якая мела месца ў 1920 годзе [2]). Ленін у гэтай гутарцы з Цэткін даў наступную ацэнку фрэйдызму: «Теория Фрейда сейчас тоже своего рода модная причуда. Я отношусь с недоверием к теориям пола, излагаемых в статьях, отчетах, брошурах и т. п., короче в той специфической литературе, которая пышно расцвела на навозной почве буржуазного общества. Я не доверяю тем, кто постоянно и упорно поглощен вопросами пола, как индийский факир—созерцанием своего пупа... Как-бы бунтарски и революционно это занятие ни стремилось проявить себя, оно всё-же в конце концов вполне буржуазно. Это асобенно излюбленное занятие интеллигентов и близко к ним стоящих слоев. В партии среди классово сознательного, борющегося пролетариата для него нет места».

Вось як войстра Ленін бічаваў фрэйдаўскую тэорыю. Пасьля гэтай ацэнкі не застаецца месца сумненьням наконт яе ідэялістычнасьці і буржуазнасьці.

Калі-ж мы тут застанаўляемся на яго тэорыі, у прыватнасьці на будове гутаркі з пацыентам, дык толькі для таго, каб адкінуўшы ўсё чужое, буржуазнае ў яго, мажліва скарыстаць тое, што ёсьць дадатнага. Ленін ніколі не адмаўляўся ад вывучэньня буржуазнай спадчыны. У сваёй прамове на III Усерасійскім зьезьдзе РКСМ ён настайваў на вывучэньні «таго матар'ялу, які пакінуты нам старым грамадзтвам» [3]). Аб гэтым-жа гаварыла тав. Крупская, выступаючы ў спрэчках па дакладу т. Залкінда ў т-ве пэдагогаў-марксыстаў: «Если мы ў идеалиста Гегеля берем очень многое, то может быть и у чуждого материализму Фрейда всё-же отдельные интересные мысли надо взять и проработать их с нашей материалистической точки зрения» [4]).

Выходзячы з гэтага, угледзімся ў фрэйдаўскую гутарку.

---

[1]) Lewonfeld, Психоаналит. метод Фрейда, ис. библ. вып. IV стар. 33.

[2]) Клара Цеткин. О Ленине. Изд. „Моск. рабочий“. 1925 г.

[3]) Ленин, Полн. собр. соч., т. XXII, стар. 384.

[4]) „На путях к новай школе“, № 6, 1932 г.

У вызначаны час хворы зьяўляецца на прыём. Пацыента зручна кладуць на дыване, а сам аналітык прыстасоўваецца на крэсьле з-заду, каб хворы яго ня бачыў. Гэта робіцца для таго, каб пацыент ня мог сачыць за мімікай ўрача ў часе іх гутаркі. Хворы павінен расказваць ўсё, што яму прыходзіць у голаў, не клапоцячыся аб парадку і сыстэме сваіх думак. Урач не павінен праяўляць ніякай тэндэнцыйнасьці і прадузятасьці, бо гэта, па думцы Фрэйда, будзе перашкаджаць аб'ектыўнаму разуменьню хворага. Свае думкі, дагадкі псыхааналітык можа выказаць пацыенту не раней наступіўшага працэсу «перанясеньня»(uber tragung), г. зн. наступіўшага поўнага давер'я да ўрача. Такім вось чынам на працягу доўгіх месяцаў цягнецца гэта гутарка. Важна адзначыць, што ніякіх трэціх асоб у часе гутаркі ня бывае і што аналітык нічога не запісвае, а толькі ўважліва слухае. Запісы, нататкі—па яго думцы—ёсьць дрэнны выбар, і пагэтаму іх робяць зрэдку, і то пасьля гутаркі.

Такава ў агульных рысах гутарка ў Фрэйда. Мы павінны выкінуць з яе ўсю містыкаваную форму, напоўніць яе клясаваншым зьместам, перарабіць яе ў такі мэтад, пры якім дасьледуемы вучань змог-бы лёгка і вольна выказваць свае думкі і даваць адказы дасьледчыку.

## „Гутарка" ў Піажэ

Разгледзім цяпер, як пабудована гутарка ў другога сучаснага буржуазнага псыхолёга—жэнеўскага вучонага Піажэ. Спачатку некалькі слоў аб яго тэорыі.

На падставе шматлікіх дасьледваньняў мовы дзяцей да 7—8 год Піажэ прышоў да вываду, што ўсе размовы дзяцей гэтага ўзросту можна падзяліць на 2 групы: 1) эгацэнтрычную і 2) сацыялізаваную. Пад эгацэнтрычнай мовай Піажэ разумее ўсе выказваньні дзіцяці, якія кружацца навокал яго ўласнай асобы, навокал яго «я». Пад сацыялізаванай мовай ён разумее ўсе выказваньні, разважаньні, якія адносяцца да блізкага. Дзіцячы эгацэнтрызм Піажэ тлумачыць тым, што «среди детей до 7—8 лет нет общественной жизни, как таковой» [1]). Бесклапотнасьць дзіцяці, яго забясьпечанасьць неабходным да 8 год—усё гэта па яго думцы—спрыяе разьвіцьцю эгацэнтрызму. Каэфіцыент эгацэнтрычнай мовы (у адносінах да ўсёй) будзе тым большы, чым маладзей дзіця, а каэфіцыент, эгацэнтрычнага мысьленьня (у адносінах да ўсяго) будзе яшчэ большым, бо шмат эгацэнтрычных думак дзіця ня выказвае. Увогуле, па яго дасьледваньнях, каэфіцыент эгацэнтрычнай мовы дасягае 47 проц., а к 8 гадам зьніжаецца да нуля. Важна тут-жа адзначыць, што свае дасьледваньні Піажэ

[1]) Ж. Піажэ. Речь и мышление ребенка, стар. 93.

рабіў над буржуазнымі дзецьмі і што пры праверцы каэфіцыенту над савецкімі дзецьмі т. Выгоцкі[1]) знайшоў значна ніжэйшы процант. Гэта і зразумела. Калектывізм, калектыўная праца—гэтыя асновы савецкага выхаваньня—аказваюць непасрэдны ўплыў на рэзкае зьніжэньне эгацэнтрызму ў дзяцей.

У мяне няма мажлівасьці тут шырэй спыніцца на тэорыі Піажэ. Але ўжо з таго, што сказана, лёгка ўбачыць у Піажэ, як і ў Фрэйда аднолькавую мэтадалёгічную аснову—ідэялістычную, буржуазную. Аб гэтым гаворыць і тое, што эгацэнтрычную мову ён разумее не як сродак сувязі, а як «самамэту», і тое, што ён «сацыялізаванае» выводзіць з «эгацэнтрычнага» і тое, што самы эгацэнтрызм ён тлумачыць асацыяльнасьцю дзіцяці да 8 год. Антыграмадзкасьць, індывідуалізм — гэта неадымныя якасьці буржуазных дзяцей, і савецкім дзецям іх прыпісаць ня прыдзецца.

Якой-жа мэтодыкай карыстаўся Піажэ? Адзін з буржуазных псыхолёгаў жэнеўскага інстытуту Ж. Ж. Русо—Клапарэд дае наступную характарыстыку мэтаду Піажэ: «это по существу мэтод наблюдения, который состоит в том, что ребенка заставляют высказываться и тщательно записывают, каким именно образом развертывается его мысль... следуя за ребенком в каждом его ответе, все время руководя им, поощряя его высказываться все более и более свободно, наблюдатель в конце концов получает клиническую картину»[2]). Гэта і ёсьць нішто іншае як гутарка, камбінаваная з аб'ектыўным назіраньнем. Часам, напрыклад, пры дасьледваньні характару дзіцячых пытаньняў Піажэ браў аднаго 6-ці гадовага дзіцёнка і на працягу 10 м-цаў запісваў усе яго пытаньні. Матар'ял зьбіраўся штодзенна на працягу «2-х часовых бесед, которые были в некотором роде разговорными уроками, во время которых ребенок говорил то, что хотел» (стр. 177). Піажэ падкрэсьлівае, што пры гэтым утваралася абсолютна натуральная атмасфэра ходу гутаркі і што дзіця ніколі не падазравала, што яго выказваньні запісваюцца.

Трэба сказаць, што Піажэ ўдалося з вялікім майстэрствам праводзіць гэтыя гутаркі, якія ён ў радзе выпадкаў літаральна пэратвараў з малодшымі дзецьмі ў гульню. Ён папярэджвае, што дзіцёнку не заўсёды ўдаецца выказваць тое, што ён хоча і нас саміх ён часта разумее пасвойму. Пагэтаму, кажа Піажэ, трэба «тщательно различать в мысли внутреннее понимание от понимания явного, выражающегося в словах» (287). Характэрным для клінічнай гутаркі Піажэ зьяўляецца тое, што ён яе вядзе так сказаць, ня ўшыр, а ў глыбіню. Ён закранае некалькі пытаньняў і навокал іх імкнецца высьвятліць асаблівасьці дзіцяці.

---

[1]) Крытычны нарыс да памянёнай работы.

[2]) Прадмова да „р. м"

Я ўжо ўказаў, што ў досьледах Піажэ ёсьць ня толькі шмат спрэчнага, але і проста шкоднага, спэцыфічна-буржуазнага. Яго вывады зроблены над буржуазнымі дзецьмі і ні ў якім разе нельга распаўсюдзіць іх на савецкіх дзяцей. Ні ў якім разе нельга згадзіцца з яго адмаўленьнем вуменьня дзяцей да 8 год лёгічна думаць [1]) і г. д.

Але мэтад яго заслугоўвае нашай ўвагі. З іншага пункту погляду, на іншым клясавым матар'яле, пры іншым зьмесьце гутаркі нам патрэба ўсё-ж 'ткі скарыстаць тое каштоўнае, што ёсьць у яго мэтадзе.

## „Гутарка" у Гэзэла

Гэзэл, уласна кажучы, нідзе не называе свой мэтад дасьледваньня гутаркай. Ён называе яго «клінічным» і «натуральна-гістарычным» (стр. 56) альбо «параўнальным» (стр. (340) [2]). Але справа не ў назве. Элемэнты гутаркі, спэцыфічныя, не падобныя да ўжо разгледжаных, лёгка і ў яго знайсьці.

Гэзэл агаварваецца, што разгляду дзяцей па іх асаблівасьцях у сацыяльным разрэзе ён ня будзе рабіць за адсутнасьцю «адпаведнага навуковага багажа» (260), між тым, як у сапраўднасьці свае дасьледваньні ён рабіў у падаўляючай большасьці над буржуазнымі дзецьмі. Яго мэтадалёгічная апора—грубы мэханіцызм, які пераплятаецца ў шэрагу выпадкаў з ідэялізмам. Вось, напрыклад, яго разважаньні наконт разьвіцьця інтэлекту: «интелект—піша ён—растет благодаря прогрессивному усвоению почти бесконечной вереницы двигательных и психодвигательных приспособлений рефлексов, привычек, ассоциаций—шаблонов приспособительного поведения. В этом узком смысле слова умственное развитие имеет чисто количественный характер—простое умножение способов реакций, своего рода мастерство» (252). Гэта вытрымка красамоўна гаворыць за сябе і не патрабуе інтэрпрэтацыі. Рэакцыйнасьць гэзэлаўскіх установак бачна і з клясыфікацыі дзіцячай дзейнасьці. Ён падзяляе яе на 4 віды: 1) рухальная дзейнасьць, 2) мова, 3) прыстасаваўчыя паводзіны і 4) асабіста-сацыяльная. Такім чынам, Гэзэл бачыць у паводзінах дзіцяці толькі пасыўнае прыстасаваньне.

У чым-жа спэцыфічнасьць яго мэтодыкі?

Цэнтральным пунктам яго дасьледваньня зьяўляецца ўважлівае назіраньне за ўсімі думкамі, рухамі, мімікай дзіцяці, што выяўляюцца ў часе гутаркі. Праўда, ён у часе гутаркі прад'яўляе пэўны тэставы матар'ял, але гэта нельга назваць звычайным

---

[1]) Гл. аб гэтым артыкул P. Meyer у Arch. f. d. Ges. Psych. B. 78, H. 1 і 22—36. (1930).

[2]) Гезел, Умств. развит. ребенка.

тэставаньнем. Гутарка яго ніколі не абмежавана часам, і фіксуецца па-за полем зроку дзіцяці. Гэзэл зварачвае ўвагу на неабходнасьць умелага падыходу і ўтварэньня спрыяючых абставін. Нават для шасьцімесячнага дзіцяці «требуется некоторое взаимное сближение, некоторое взаимное сердечное отношение» (стр. 334).

Вялікае значэньне ён прыдае стану здароўя дзіцяці ў часе дасьледваньня.

Такавы ў агульных рысах прыёмы Гэзэла.

* * *

У практыцы савецкіх дасьледчых інстытутаў гутарка ўжываецца даволі часта. Нельга аднак сказаць, што гэтаму мэтаду адводзіцца належнае месца. Устанавілася чамусьці традыцыя праводзіць асобна «арыентыровачныя гутаркі» і «клінічныя гутаркі». Першыя ставяць сабе мэтай выявіць агульную арыентыраванасьць дзяцей: у часе, прасторы, прыродзе і інш., другія-ж павінны служыць для дасьледваньня якіх-небудзь асаблівасьцяй дзіцяці. Гэта адно. Па-другое, самая гутарка на практыцы часта зводзіцца толькі к апроснаму лісту. У такой форме гэта робіцца, напрыклад, у Інстытуце Аховы Здароўя дзяцей і падлеткаў імя 10-ці годзьдзя Кастрычнікавай Рэвалюцыі [1]). Зусім ясна, што пры такой пастаноўцы, каштоўнасьць клінічнай гутаркі не выкарыстоўваецца. Між тым, пры належнай пабудове яна можа быць мацнейшым сродкам пэдалёгічнага дасьледваньня сацыяльна-псыхічных асаблівасьцяй дзяцей.

Аналіз буржуазнага вопыту і савецкай практыкі ў галіне карыстаньня клінічнай гутаркі прыводзіць да вываду аб неабходнасьці карэннай перапрацоўкі гэтага мэтаду; як па форме, гэтак і па зьместу. Але ці можна гаварыць аб клінічнай гутарцы, як самастойным мэтадзе? Можа яна толькі форма, прыём, а ня мэтад? Што ў ёй ёсьць спэцыфічнага і чаго не хапае, каб увесьці яе на ступень самастойнага мэтаду?

Па-мойму клінічная гутарка павінна быць пабудавана на наступных агульных прынцыпах:

1. Перад гутаркай дасьледчык павінен распалагаць папярэднімі зьвесткамі аб дзіцяці. Тут вялікае значэньне будуць мець, і дасьледваньне сацыяльна-клясавага асяродзьдзя, і пэдагагічная характарыстыка, і фотозапіс паводзін. Гэтыя зьвесткі павінны даць дасьледчыку агульную арыентацыю.

2. Кожная гутарка павінна ставіць перад сабой канкрэтную задачу: што іменна будзе дасьледвана, які бок дзіцячага разьвіцьця падлягае аналізу. Трэба мець на ўвазе, што ня бывае і ня можа

---

[1]) Методика педолог. обсл. реб., Е. А. Осипова (артык. і дадатак № 11) Гос. Мед. изд. ч. I, 1930 г.

быць аднэй усёахапляючай гутаркі. У сувязі з гэтым трэба загадзя прадумаць, аб чым гутарыць з дзіцём, як накіроўваць гутарку, які зьмест і характар яна павінна мець.

3. Гутарка павінна апраўдаць сваю назву. Нельга падмяніць яе фармальным задаваньнем пытаньняў, звычайным апытам. Пачаўшы яе з індыфэрэнтных пытаньняў, трэба паступова разгортваць яе. Ухваціўшыся за якую-небудзь думку **субяседніка**—ісьці за ёй сьледам, канчаткова яе зразумець. Гутарка пагэтаму можа прыняць форму спрэчкі (з старшымі дзецьмі), ці пераплятацца з гульнёй (з рэбятамі дашкольнага і ясельнага ўзросту).

4. Абставіны гутаркі павінны быць звычайнымі, натуральнымі. Дзіця павінна сябе вольна трымаць і нічога не палохацца. Патрэбныя матар'ялы для досьледу ў часе гутаркі павінны быць спачатку па-за полем зроку дзіцяці і толькі паступова па меры патрэбы выкладзены. Натуральным, простым, іменна пэдагогічным павінна быць трыманьне самога дасьледчыка. У адваротным выпадку, пры нацягнутасьці, фармальнасьці ня ўдасца ўлавіць асаблівасьцяй дзіцяці.

5. Трэба катэгарычна адмовіцца ад прысутнасьці ў часе гутаркі іншых асоб. Дзіця ні ў якім разе не павінна адчуваць, што ўсё, што яно гаворыць, запісваецца. Супроць гэтага, як мы бачылі, выказваліся і Фрэйд, і Піажэ, і Гэзэл. І гэта сапраўды зьяўляецца правільным указаньнем. Дзіця ня можа трымаць сябе натуральна і вольна, калі кожнае яго слова тут-жа фіксуецца на паперы. Уласныя нататкі дасьледчыка, як паказаў вопыт, таксама дрэнна ўплываюць на рэбят, асабліва школьнага ўзросту. Свае заўвагі і ўражаньні лепш рабіць адразу пасьля скончэньня гутаркі.

6. Важным прынцыпам ў клінічнай гутарцы зьяўляецца ўменьне слухаць, уважліва сачыць за кожнай думкай, часам за абломкамі яе, недагаворанай, праяўленьне чуласьці да ўсяго, што хвалюе дзіцёнка, ня перабіваць, даць закончыць думку,—усё гэта зьяўляецца прамым абавязкам дасьледчыка.

7. Гутарку трэба весьці не па гарызонталі, так сказаць, а па вэртыкалі. Нельга ахапіць у аднэй гутарцы дзесяткі пытаньняў. Трэба ўзяць некалькі вузлавых пунктаў і навокал іх канцэнтраваць выказваньні дзіцяці.

Працяжнасьць яе павінна быць арыентыровачна: для дашкольніка 15—20 хвілін, для дзяцей першага школьнага ўзросту 20—30 хвілін і для другога школьнага ўзросту—да гадзіны.

8. Што датычыць самаго зьместу гутаркі, дык ужо адзначалася, што пэўнай загадзя дадзенай схэмы нельга на ўсе выпадкі даць. Мэтад гутаркі тым і каштоўны, што ён пазбаўлен ўсялякага схэматызму. Можна толькі ўказаць на агульныя разьдзелы гутаркі, на яе канву. Гэткімі элемэнтамі будуць: 1) адносіны дзіцяці да школы (дзетсад), 2) да піянэр-арганізацыі (камсамольскай), 3) да працы, 4) да грамадзка-палітычных працэсаў нашага

сацыялістычнага жыцьця. У гутарку далей увойдуць элемэнты, 5) аб адносінах да сям'і, 6) аб сваіх інтарэсах, 7) аб самім сабе і г. д.

Такавы агульныя прынцыпы:

Але ўсяго сказанага для сур'ёзнай пабудовы гутаркі яшчэ мала. Дасьледчык павінен улічыць клясавы тып дзіцёнка. Дзеці нашай школы яшчэ не складаюць аднастайную сацыяльную масу. У школе прадстаўлены дзеці рознастайных грамадзкіх пластоў: рабочыя, калгасьнікі, служачыя, аднаасобнікі, саматужнікі, дзеці рэштак гарадзкой і вясковай буржуазіі—усе яны ў школе ахоплены навучаньнем. Ведаць школу—значыць ведаць асаблівасьці дзяцей ўсіх гэтых праслоек, ведаць іх адносіны да гістарычных падзей нашага сацыялістычнага жыцьця. Відавочна, што дзеці кожнай з гэтых сацыялістычных груповак патрабуюць спэцыфічнага падыходу. Трэба памятаць, што гутарка, якая сваёй асноўнай мэтай ставіць дасьледваньне, зьяўляецца гэтакай толькі для дасьледчыка. Для дзіцяці яна аб'ектыўна зьяўляецца пэўным выхаваўчым працэсам. У праграме УсеКП(б) гаворыцца:

> «В период диктатуры пролетариата, т. е. в период подготовки условий, делающих возможным полное осуществление комунизма, школа должна быть не только проводником коммунизма вообще, но и проводником идейного, организационного, воспитательного влияния пролетариата на полупролетарские и непролетарские слои трудящихся масс, в целях воспитания поколения, способного окончательно установить коммунизм» [1]).

Усё гэта накладае на дасьледчыка адказнасьць за дыфэрэнцыяваньне пляну гутаркі, зьместу яе, формулёўку пытаньняў у адпаведнасьці з клясавым тыпам дасьледуемага дзіцяці. Пагэтаму пры масавых дасьледваньнях неабходна загадзя мець уяўленьне аб сацыяльным складзе дзяцей, з мэтаю папярэдняй разьбіўкі іх. Для кожнай сацыяльнай праслойкі павінны быць адпаведныя варыяцыі гутаркі.

Далей дасьледчык павінен ўлічыць узросныя асаблівасьці дзіцяці. Нельга, напрыклад, выяўляць арыентыроўку ў прасторы дашкольніка і школьніка ў адных і тых-жа формах. З трохгадовым дзіцёнкам таксама нельга будзе весьці гутарку за сталом, як з вучням. Тут гутарка будзе пераплятацца з гульнёй. Апрача падбору адпаведнага зьместу,—важным зьяўляецца і самы падыход. Усё гэта, зразумела, будзе залежыць у значнай ступені і ад кваліфікаванасьці дасьледчыка.

Урэшце ў клінічнай гутарцы трэба ўлічыць і тое, хто дасьледваецца: нармальнае ці цяжкае дзіцё. А калі цяжкае, дык крыніцу цяжкасьці. Ці маем мы справу з біалёгічна-няпоўнакаштоўным дзі-

---

1) Програма УсеКП(б) стар. 41.

цём (дэбілік і інш.), альбо перад намі сацыяльна-закінутае дзіцё— гэта зьяўляецца для дасьледчыка не аднолькавым. Зразумела, што ў выпадку разумовай недастатковасьці альбо соматычнай аслабленасьці вялікае значэньне будзе мець і фізычнае дасьледваньне дзіцяці. Але нават і тут рашаючым будзе вывучэньне сацыяльна-псыхічнага твару яго, што выявіцца ў працэсе гутаркі. Нельга згадзіцца з Е. А. Осіпавай, якая ў гэтых выпадках высоўвае на першае месца фізычнае дасьледваньне. Даволі спаслацца на такога буйнага аўтарытэта ў галіне псыхіатрыі, якім зьяўляецца праф. Бумкэ. Вось, што ён кажа: «что касается психозов, то ни гистологическое исследование мозга, ни исследование крови, сыворотки и желез внутренней секреции, не дало никаких определенных результатов. Гораздо более плодотворным оказался психологический подход к душевно-больным, учитывающим темперамент и характер, установку и способность к реакциям, среду и переживания» [1]). Загадзя адводжу папрок у супроцьстаўленьні дасьледваньня фізычных асаблівасьцяй—сацыяльна-псыхічным. Зразумела, што гэтыя два бакі адзінага працэсу разьвіцьця неадрыўны. Кожны з гэтых бакоў сам зьяўляецца пэўным сынтэзам адбываючыхся ў ім процілеглых і ўзаемапранікаючых працэсаў. Але было-б зусім няправільна талкаваць адзіны працэс разьвіцьця, як узаемасплячэньне біо-фізычнага і сацыяльнага на роўных «паях». У тым-та і справа, што ў адзінстве гэтых процілегласьцяй павінен быць указан **вядучы** бок. Без указаньня на вядучы бок адзінства нічога не застаецца ад ленінскага разуменьня гэтага «ядра» дыялектыкі.

Гэтым вядучым бокам у разьвіцьці дзіцяці (як і дарослага) зьяўляецца бясспрэчна—сацыяльны.

Такім чынам, гутарка і ў дасьледваньні цяжкага дзіцёнка ня губляе свайго значэньня, як мэта. Наадварот, яна дае магчымасьць бліжэй зразумець крыніцы цяжкасьці, вызначыць памеры гэтай цяжкасьці і выявіць нахілы, інтарэсы ў гэтага дзіцёнка, якія бязумоўна маюцца ў яго і якія можна далей разьвіваць.

Падводзячы вынікі, трэба сказаць, што клінічная гутарка, як мэтад дасьледваньня сацыяльна-псыхічных асаблівасьцяй дзіцяці павінен заняць належнае месца. Клінічная гутарка не прэтэндуе на ўнівэрсалізм. Больш таго, як мэты яна мае і свае недахопы. Па-першае яна патрабуе параўнальна больш часу, па-другое дасьледваньне не пазбаўлена некаторай долі суб'ектывізму дасьледчыка. Лепшай гарантыяй аб'ектыўнасьці вывучэньня дзіцяці зьяўляецца кіраваньне адзіным крытэрыем—партыйнымі ўстаноўкамі.

Зразумела, што, гутарка ня можа выціснуць іншыя мэтады. Але яна мае перад імі шэраг пераваг. Ніводны іншы мэтад не

---

[1]) Цыт. па Португолову. Детская псих. и антроп. 1928 г. вып. IV, стар. 52.

дае нам прадстаўленьня аб **сапраўдных адносінах** дзіцяці да акаляючага жыцьця, як клінічная гутарка. У пэдалёгічнай практыцы клінічная гутарка—прадуманая цікава-пабудаваная і не фармальна-праведзеная дасьць багацейшы матар'ял па дасьледваньню сацыяльна-псыхічных асаблівасьцяй дзяцей. Гэтым яна дапаможа перабудаваць школу ў адпаведнасьці з задачамі, якія пастаўлены партыяй і ўрадам.

*Сэгаль і Таўміна*

# Праца летніх школьных пляцовак

За апошнія гады пытаньне аб летняй рабоце набывае ўсё большае і большае значэньне. З ўсіх разнастайных форм летняй работы найбольшае распаўсюджаньне атрымалі лягеры і школьныя пляцоўкі.

Лягер праводзіцца па лініі піянэрарганізацыі і туды накіроўваюцца галоўным чынам піянэры. У нас маецца два віды лягераў: масавыя лягеры, што ахапляюць вельмі значную колькасьць дзяцей, і санаторныя лягеры, куды накіроўваюцца аслабленыя дзеці і дзе праводзіцца санаторны рэжым.

Акрамя гэтага ў нас маецца шэраг летніх дамоў адпачынку, якія таксама ахапляюць значную частку дзяцей.

Па Менску, напрыклад, маецца яшчэ санаторная пляцоўка ЦДД—дзённы санаторы, якая працуе круглы год, і на летні тэрмін значна пашырае сваю працу, вывозячы частку дзяцей ужо другі год ў спэцыяльна дачнае месца—Ратамку. Санаторныя пляцоўкі маюцца таксама і па другіх гарадох. Яны адчыняюцца пры дзіцячых дыспансэрах і пры дзіцячых аддзяленьнях сухотных дыспансэраў.

Але-ж, ня гледзячы на вельмі значны ахоп дзяцей (што з кожным годам ўсё павялічваецца) як па Менску, так і па іншых гарадох Беларусі, застаецца ўсё-ж яшчэ даволі значная частка зусім прадстаўленых у летні тэрмін самім сабе. Сярод іх маюцца дзеці амаль што зусім без нагляду, якія часта паддаюцца ўплыву шкодных, іншы раз нават і клясава-варожых момантаў вуліцы.

На дапамогу гэтым дзецям павінны прыйсьці рознага тыпу пляцоўкі для ўсіх школьных узростаў.

Пляцоўкі маюць вялікае значэньне, як у сэнсе барацьбы з безнадзорнасьцю, так і ў сэнсе аздараўленьня дзяцей і правільнай арганізацыі іх досуга. Дзеці, праводзячы на пляцоўцы некалькі гадзін, знаходзяцца пад добрым выхаваўчым уплывам, больш уцягваюцца ў піянэр работу, знаходзяцца ў сваім дзіцячым калектыве. На пляцоўках ёсьць магчымасьць выкарыстаць

такія магутныя фактары прыроды, як сонца, паветра і ваду, магчыма прышчапіць дзецям цэлы шэраг санітарных звычак, якія яны потым пераносяць і ўкараняюць у быту; патрэбна навучыць дзяцей рацыянальна скарыстаць свой дзень.

Пляцоўкі для ясельнага і дашкольнага ўзросту ўжо набылі ў нас даволі значнае распаўсюджваньне, значна менш зроблена ў сэнсе арганізацыі школьных пляцовак для дзяцей школьнага ўзросту, прыблізна ад 8 да 14 год.

У гэтым годзе неабходна значна пашырыць сетку школьных пляцовак.

Пляцоўка бязумоўна павінна быць пераважаючай часткай летняй работы ў масавым маштабе. Гэта найбольш гнуткая форма масавага абслугоўваньня дзяцей як для гораду, так і для вёскі. Прыкладам і сьцьвярджаньнем гэтага можа быць сетка дашкольных і ясельных пляцовак, што з кожным годам павялічваецца.

На пляцоўках мы можам мець розныя варыянты часу прабываньня дзяцей, напрыклад, могуць быць пляцоўкі, дзе дзеці праводзяць 3 г., 6 гадзін альбо 8—9 гадзін.

Таксама могуць быць і розныя варыянты з харчаваньнем дзяцей.

Бязумоўна мы павінны зрабіць ўсё магчымае, каб забясьпечыць пляцоўкі харчаваньнем хоць бы адзін раз ў дзень, але-ж у тых выпадках, калі няма ніякай магчымасьці забясьпечыць дзяцей харчаваньнем на самой пляцоўцы, можна адпусьціць дзяцей на абед да хаты, альбо дзеці могуць прыносіць харчаваньне (сьнеданьні) на пляцоўку з дому. Таксама можна адчыніць на некаторых пляцоўках і буфэты.

Для адчыненьня пляцовак значна лягчэй знайсьці і месца, чым, напрыклад, месца для лягероў, куды неабходна выехаць за горад. Таксама для пляцовак патрэбна значна меншае абсталяваньне, прычым, частка гэтага абсталяваньня маецца ўжо на месцы ў школе.

Патрэбна разгарнуць вялікую энэргічную працу за стварэньне лепшых умоў для працы школьных пляцовак. Тут неабходна адвесьці для пляцовак лепшыя вучасткі—чыстыя, з зялёнымі насаджэньнямі—сады, скверы і г. д. Там дзе школа мае сама свой двор або сад, лепш за ўсё арганізаваць пляцоўку пры самой школе. Таксама магчыма і аб'яднаньне некалькіх 2—3 школ з аднаго раёну. Там дзе няма магчымасьці адчыніць пляцоўку пры самой школе, неабходна вынесьці працу пляцовак у сады, скверы; напрыклад, у Менску можна выкарыстаць сад Прафінтэрн, трэк і астатнія скверы. Такія-ж магчымасьці бязумоўна маюцца і па іншых гарадох.

Разгортваньне працы ў летні пэрыяд павінна быць абавязковай задачай для кожнай школы, незалежна ад тых умоў, у якіх знаходзіцца школа.

Але-ж тут неабходна памятаць, што часу для арганізацыі гэтых пляцовак ужо засталося мала, і таму патрэбна правесьці гэтую працу ўдарнымі тэмпамі.

У гэтай падрыхтоўчай працы галоўныя абавязкі бязумоўна выпадаюць на органы асьветы, якім павінны дапамагаць ўсе нашы грамадзкія арганізацыі.

Неабходна прадугледзіць такія моманты, як колькасьць адчыняючыхся пляцовак і колькасны ахоп дзяцей, прадумаць формы і мэтады работы, паклапаціцца аб матар'яльнай базе, аб забесьпячэньні кадрамі.

Кадры могуць набірацца як з ліку саміх-жа настаўнікаў школы, так і з ліку завербаваных культармейцаў. Значную дапамогу ў гэтым пытаньні аб кадрах могуць аказаць і пэдтэхнікумы, адкуль можна ўзяць настаўнікаў—выхаваўцаў для пляцовак.

Асноўная адказнасьць за пастаноўку работы ляжыць на школе. Школьны калектыў павінен прыняць самы гарачы ўдзел у гэтай працы ў сэнсе адбору дзяцей, выбару месца, матар'яльнага забесьпячэньня. Школы павінны таксама прыцягнуць для гэтай працы як бацькоўскія камітэты-саўсоды, так і наогул ўсіх бацькоў праз шырокія бацькоўскія сходы, на якіх загадчык школы і ўрач АЗД зрабілі-б даклад аб мэтах і задачах летніх пляцовак, прычым магчыма было-б там абмеркаваць больш канкрэтна і працу пляцоўкі дадзенай школы. Бацькі, асабліва саўсоды, змаглі-б таксама знайсьці і частку сродкаў для арганізацыі пляцовак.

Гаворачы аб школе, неабходна таксама сказаць, што самы актыўны ўдзел у арганізацыі пляцовак павінны прыняць вучнеўскія і піянэрскія арганізацыі, якія могуць аказаць вельмі вялікую дапамогу. Некаторыя рабяты старэйшых груп могуць дапамагаць у арганізацыі экскурсіі, дапамагаць у рабоце бібліятэк і г. д.

Бязумоўна пляцоўку павінен абслугоўваць і ўрач АЗД; у гэтым сэнсе працу патрэбна наладзіць плянава, за што адказваюць Гарздравы і Дзіцячыя дыспансэры.

Самы блізкі ўдзел у гэтай працы павінны прыняць камсамольскія арганізацыі, бо кожную пляцоўку неабходна забясьпечыць, поруч з настаўнікам, і піянэрважатым, які праводзіў-бы штодзённую работу.

Але-ж трэба ясна і чотка адказаць, што школа і камсамол толькі адным‌і сваімі сіламі ня змогуць справіцца з ускладзенымі на іх задачамі. Тут павінны прыняць шчыры ўдзел прафсаюзныя арганізацыі (аб удзеле профсаюзаў у летняй аздараў-

ленчай кампаніі маецца спэцыяльная пастанова ЦСПСБ ад 19/V-1932 г.), каапэрацыя і іншыя органы харчовага забесьпячэньня, ОДД, Чырвоны Крыж і г. д.

СФК павінен, напрыклад, забясьпечыць пляцоўкі кіраўнікамі па фізкультуры.

Да гэтай работы неабходна прыцягнуць Асоавіяхім, бо ваенсправе патрэбна будзе ўдзяліць ня малую ўвагу.

Пляцоўкі павінны быць адчынены на роўным, чыстым месцы, воддаль ад шумных і пыльных вуліц. Пры выбары месц для пляцоўкі трэба ўлічыць, каб магчыма было адвесьці спэцыяльны вучастак для правядзеньня гульняў і фізкультуры, прычым гэты вучастак павінен быць добра ўтрамбаваны альбо на ім можа расьці нявысокая зялёная трава. Вельмі пажадана было-б абнесьці гэты вучастак нявысокім плотам.

На пляцоўках павінна быць забясьпечана снабжэньне вадой для піцьця.

Пры кожнай пляцоўцы павінна быць памяшканьне, у якім-бы дзеці маглі хавацца ад дажджу або навальніцы ў тых выпадках, калі пляцоўка ня пры школе. Для гэтай мэты можна зрабіць павець.

Пры пляцоўках неабходна зрабіць прыбіральні, асобныя для хлопчыкаў і дзяўчынак, якія можна пабудаваць па дачнаму ўзору. Апрача таго, неабходна закрытае памяшканьне, дзе-б знаходзіўся інвэнтар для пляцоўкі.

На пляцоўках патрэбна мець простыя сталы і зэдлі, што можна зрабіць сваімі ўласнымі сродкамі, напрыклад, у школьных майстэрнях. Можна скарыстаць абсталяваньне школьнай сталоўкі.

На кожнай пляцоўцы павінен быць бак і карэц для гатаванай вады. Гэтыя мерапрыемствы неабходна строга і бязумоўна праводзіць у жыцьцё з мэтай барацьбы з шэрагам страўнічнакішэчных захворваньняў.

На пляцоўцы таксама неабходна мець належную колькасьць умывальнікаў, рукамойнікаў (лепш зрабіць доўгія з некалькімі крантамі) і ручнікоў. Неабходна навучыць дзяцей добра мыцца, бо тут для гэтага маюцца прадпасылкі, якіх мы ня маем узімку; для зьліву рэштак абеду або сьнеданьня патрэбна мець 1—2 вядры.

Неабходна таксама зрабіць і лейкі як для паліўкі гароду, калі ён маецца пры пляцоўцы, так і для карыстаньня імі ў час абліваньня (душ). Замест лейкі можна зрабіць душ з вядра, у дне якога зроблены цьвіком дзіркі—рашотка, якая зачыняецца крышачкай, прыводзімай у рух вяроўкай. Калі ёсьць магчымасьць, можна зрабіць і душ, прыстасаваўшы яго такім чынам, каб вядро вісела на ўрытым у зямлю слупе. Душ абавязкова

зрабіць на тых пляцоўках, дзе дзеці будуць карыстацца сонечнымі ваннамі. Месца прыняцьця душа павінна быць агароджана, мець пад нагамі дрэвяную рашотку.

Акрамя таго, патрэбна забясьпечыць кожную пляцоўку прыладамі для тульняў—лёто, шахматамі, шашкамі, мячамі футбольнымі і іншымі і г. д.

Пры кожнай пляцоўцы неабходна мець невялікую бібліятэчку (перасоўку), а таксама газэты і часопісы.

Ня трэба забываць, што на кожнай пляцоўцы павінна быць невялікая аптэчка для аказаньня першай дапамогі.

За аптэчку адказвае выхавацца, піянэрважаты і санітарная камісія.

## Зьмест і формы працы на летняй школьнай пляцоўцы

Асноўным зьместам працы на летняй школьнай пляцоўцы зьяўляецца фізкультурна-аздараўленчая і палітыка-выхаваўчая работа. Работа на пляцоўцы павінна быць пабудавана так, каб яна спрыяла аздараўленьню вучняў, правільна арганізоўвала-б іх досуг і дапамагала-б у правядзеньні асноўнай задачы школы,—камуністычным выхаваньні дзяцей.

Фізкультура зьяўляецца арганічнай часткай ўсёй сыстэмы камуністычнага выхаваньня і, шчыльна зьвязаная з агульнай і вучэбна-выхаваўчай работай школы, падрыхтоўвае вучняў да сацыялістычнай працы і абароны СССР.

Т. Ленін, гаворачы аб выхаваньні нашага падрастаючага пакаленьня, сказаў: «Именно ей, этой молодежи предстоит закончить, завершить дело коммунизма, именно ей еще предстоят бои за коммунизм, и она эти бои должна встретить крепкой, здоровой, со стальными нервами и железными мускулами».

Фізкультурная праца павінна быць зьвязана з ўсімі масавымі палітычнымі мерапрыемствамі, з правядзеньнем гаспадарча-палітычных кампаній.

**Рэжым дню.** Асновай фізкультурна-аздараўленчай і выхаваўчай працы зьяўляецца правільная арганізацыя рэжыму дню.

Рэжым дню ўстанаўляецца пры дапамозе ўрача АЗД з улікам узроставых, індывідуальных асаблівасьцяй дзяцей.

Мы праводзім два варыянты прыкладнага рэжыму дню: з двума харчаваньнямі на пляцоўцы і без харчаваньня.

Гэты рэжым можна рэкамандаваць толькі як прыкладную схэму, на падставе якой трэба скласьці на кожнай дадзенай пляцоўцы адпаведны рэжым дню з улікам ўсіх маючыхся асаблівасьцяй пляцоўкі, з рацыянальным чаргаваньнем заняткаў.

**Рэжым дню. 1-шы варыянт.**

$8^{30}$— $8^{50}$—Збор дзяцей на пляцоўку, дадатковае ўмываньне дзяцей, сан. агляд.

$8^{50}$— 9 —Фізкультурная зарадка.

9 — $9^{30}$—Сьнеданьне.

$9^{30}$—11 —Праца гурткоў, экскурсіі, грамадзка-карысная работа, работа на прышкольным вучастку.

11 —$11^{15}$—Падрыхтоўка да сонечных ван.

$11^{15}$—12 —Сонечныя ванны, купаньне, душ, абліваньне.

12 —$12^{15}$—Адпачынак пасьля ванны і падрыхтоўка да абеду.

$12^{15}$— 1 —Абед.

1 — $1^{15}$—Уборка пасьля абеду.

$1^{15}$— $2^{15}$—Мертвая гадзіна.

$2^{15}$— 3 —Фізкультурныя практыкаваньні, вольныя гульні і заняткі, чытка літаратуры і газэт і расказваньне, слуханьне музыкі, збор да ўходу і ўход.

**Рэжым дню. 2-гі варыянт.**

$8^{30}$— $8^{50}$—Збор дзяцей на пляцоўку, дадатковае ўмываньне, сан. агляд.

$8^{30}$— 9 —Фізкультурная зарадка.

9 —$10^{30}$—Работа на прышкольным вучастку, праца гурткоў, гульні.

$10^{30}$—$11^{15}$—Сонечныя і паветраныя ваны, душ, абліваньне, купаньне.

$11^{15}$—$11^{45}$—Спакойныя заняткі, чыткі літаратуры, газэт і расказваньні.

$11^{15}$—12 —Збор да ўходу і ўход на абед.

12 — 2 —Абед на даму.

2 — $2^{30}$—Збор пасьля абеду.

$2^{30}$— 3 —Адпачынак

3 — 4 —Праца гурткоў, клюбная праца.

4 — $5^{45}$—Вольныя заняткі, фізкультурныя практыкаваньні, гульні.

$5^{45}$— 6 Збор да ўходу, уход.

**Зарадка.** Ранішняя зарадка, як адзін з момантаў рэжыму дню, мае значэньне ня толькі як аздараўленчае, але і як выхаваўчае мерапрыемства, што арганізуе і дысцыплінуе дзяцей. Лепш за ўсё пры ранішняй зарадцы падзяліць дзяцей на дзьве ўзроставыя групы: да 11 год і ад 11 да 14-ці.

Практыкаваньні для зарадкі выбіраюцца інструктарам па фізкультуры, які павінен правесьці іх з дзецьмі хоць-бы першыя некалькі дзён. Калі дзеці ўжо добра знаёмы з практыкаваньнямі, іх можа праводзіць піянэрважаты або настаўнік, або старшыя дзеці. Для зарадкі выбіраецца некалькі зусім простых практыкаваньняў.

**Умываньне.** Калі дзеці прыходзяць на пляцоўку, неабходна арганізаваць умываньне, прычым умываць трэба ня толькі рукі і твар, але шыю і вушы, пажадана ўмываньне да поясу.

Пасьля ўмываньня санітарнай камісіяй праводзіцца сан. агляд ўсіх дзяцей.

Можа здавацца, што ўмываньне і зарадку не абавязкова праводзіць на пляцоўцы таму, што дзеці мыюцца дома і для многіх прыход з дому на пляцоўку, калі вучань жыве далёка, можа замяніць зарадку. Але мы лічым гэтыя моманты неабходнымі на пляцоўцы таму, што яны маюць ня толькі вялізарнае гігіенічнае але і выхаваўчае значэньне.

**Санасьветпраца.** Працу на летняй пляцоўцы неабходна выкарыстаць для замацаваньня ў дзяцей навыкаў асабістай гігіены. Неабходна праводзіць гутаркі ня толькі з дзецьмі, але і з бацькамі на розныя сан. гігіенічныя тэмы. Як напрыклад, арганізацыя дзяцей, адзежа, догляд за чыстатой, барацьба з мухамі і г. д.

**Сонечныя ванны.** Летнія пляцоўкі павінны навучыць вучняў карыстацца такімі магутнымі аздараўленчымі фактарамі прыроды, як вада, сонца і паветра.

Сонечныя ванны трэба праводзіць абавязкова (па дазволу ўрача) і пасьля іх арганізаваць душ або абмываньне нагрэтай на сонцы вадой ці купаньне.

Для правядзеньня сонечных ванн трэба выбраць чыстае месца на пляцоўцы. Лепш ляжаць на посьцілцы. Ні ў якім разе нельга ляжаць на лузе альбо на сырой зямлі.

Галаву і вочы абавязкова прыкрыць посьцілкай або шапкай.

Лепш за ўсё прымаць сонечныя ванны з 9 да 11—12 гадзін раніцы, альбо з 2 да 5-ці дню. У поўдзень нельга ладзіць сонечныя ванны, каб ня было пераграваньня.

Да сонечных ванн можна праводзіць паветраныя ванны, пачынаючы пры тэмпэратуры 20° С. Паветраныя ваны патрэбна праводзіць ў руху.

Працягласьць сонечных ванн павінна быць спачатку ня больш 5—7 хвілін. Потым паступова можна павялічваць працягласьць, давёўшы да гадзіны.

У час прыняцьця сонечных ванн трэба зьмяняць палажэньне цела.

Арганізаваныя сонечныя ванны трэба праводзіць пад наглядам ўрача, па яго дазволе і пасьля агляду дзяцей.

**Купаньне.** Там, дзе ёсьць мажлівасьць, трэба праводзіць арганізаванае купаньне дзяцей ў рацэ, возеры і г. д.

Купацца можна альбо раніцой, альбо ў дзень (ня ў поўдзень). Нельга купацца нашча альбо адразу пасьля яды.

Купаньне можна пачынаць пры тэмпэратуры вады 22° С. Спачатку дазваляецца акунуцца на 1 хвіліну, а потым паступова

купаньне можна праводзіць да 10—15 хв. Увесь час купаньня дзеці павінны быць у руху, пажадана вучыць дзяцей плаваць і праводзіць гульні ў вадзе.

Купаньне павінна праводзіцца арганізавана пад кіраўніцтвам настаўніка альбо важатага. Месца для купаньня трэба раней праверыць, каб ня было глыбокіх ям і якіх-небудзь прадметаў, аб якія дзеці маглі-б параніцца.

Купаньне, таксама як і сонечныя ванны, можна дазволіць толькі пасьля ўрачэбнага агляду.

**Гульні і фізкультурныя практыкаваньні.** Другім момантам аздараўленчай працы зьяўляюцца рухавыя гульні і фізкультура. Урокі фізкультуры лепш праводзіць раніцой альбо пасьля абеду, але не раней чым праз 1—1½ гадз. пасьля прыняцьця стравы.

Для правядзеньня практыкаваньня па фізвыху патрэбен асобны чысты вучастак на пляцоўцы. Дзеці павінны быць у трусіках і падзяляюцца на дзьве групы па ўзросту.

**Мёртвая гадзіна.** Вельмі важным момантам аздараўленчай работы зьяўляецца правільна арганізаваны адпачынак дзяцей. Там, дзе магчыма трэба праводзіць мёртвую гадзіну пасьля абеду. Для гэтай мэты можна выдзяліць асобны пакой, зрабіць там нары або на добра вымытай падлозе раскласьці цюфякі. Пажадана было-б, каб мёртвую гадзіну праводзілі хоць-бы найбольш слабыя дзеці.

Калі няма магчымасьці правесьці як патрэбна мёртвую гадзіну, трэба абавязкова даць хоць невялікі адпачынак дзецям седзючы.

**Экскурсіі і прагулкі.** Шырока трэба ўжываць прагулкі і экскурсіі ў калгасы, саўгасы, лягеры АСО, РСЧА, парк культуры і адпачынку, заводы і г. д.

Экскурсіі і прагулкі праводзяцца прыкладна адзін раз у шасьцідзёнку. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на выхаваўчае значэньне экскурсіі, бо дзеці будуць мець магчымасьць азнаямленьня з савецкімі і гаспадарчымі ўстановамі, арганізацыяй ваенных лягераў, асовіахімскай справай і г. д.

Экскурсіі і прагулкі павінны быць выкарыстаны і для прыродазнаўчых нагляданьняў. Яны павінны праводзіцца па раней вызначаным пляне з акрэсьленай чоткай мэтай. Асабліва актыўны ўдзел ў правядзеньні экскурсіі павінны прыняць вучнёўскія і піянэрскія арганізацыі.

Пры арганізацыі больш далёкіх экскурсій і прагулак трэба браць з сабой гатаваную ваду і сьнеданьне.

Калі пляцоўка ня можа забясьпечыць дзяцей сьнеданьнем, патрэбна, каб дзеці прыносілі яго з дому.

Санкамісія павінна захапіць з сабой паходныя аптэчкі для аказаньня першай дапамогі.

Бязумоўна пры экскурсіях неабходна ўлічваць узроставыя асаблівасьці дзяцей, так, напрыклад, для малодшых дзяцей трэба выбіраць экскурсіі ў больш блізкія мясцовасьці.

Асабліва малых і слабых дзяцей ні ў якім разе нельга браць на дальнія прагулкі і экскурсіі.

Максымальныя адлегласьці для правядзеньня экскурсій і прагулак прыкладна наступныя:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ад 7 | да 9 | год— | 2-3 | кілёмэтры (у абодвы канцы) | |
| „ 9 | „ 12 | „ — | 5-8 | „ | „ |
| „ 12 | „ 15 | „ — | 8-10 | „ | „ |
| „ 15 | „ 17 | „ — | 12-15 | „ | „ |

**Вытворчая праца.** Асноўная вытворчая праца летам—гэта сельскагаспадарчая праца на прышкольным вучастку, дзе пад належным кіраўніцтвам дзеці могуць праводзіць арганізаваны догляд за пасевамі, напрыклад, на гародах, назіраньне за разьвіцьцём расьлін, паліўку, праполку, барацьбу са шкоднікамі, сарнякамі і г. д.

**Гурткі.** На пляцоўцы павінна і можа быць разгорнута праца розных гурткоў, напрыклад, юных натуралістаў, тэхнічныя, радыёгурткі, антырэлігійныя, мастацкія і г. д.

Экскурсіі і прагулкі могуць часткова зьвязвацца з гуртковай працай (прыродазнаўчым, радыё-гуртком і іншымі).

Запіс у гурткі добраахвотны. Зьмест працы ў гуртках падпарадкуецца вучэбным і выхаваўчым мэтам, але ня трэба строіць працу ў гуртках па тыпу школьных заняткаў.

У гуртковай працы праяўляюцца ініцыятыва, вынаходства і розныя інтарэсы вучняў.

Кіраўнікі гурткоў павінны шчыра зьвязваць працу з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва і з удзелам рабят у грамадзка-палітычнай працы, напрыклад, антырэлігійны і драматычны гурток могуць правесьці пастаноўку ў калгасе і г. д. Бязумоўна зьмест гуртковай працы павінен адпавядаць узроставым асаблівасьцям дзяцей.

**Ваенная праца.** Ваенная праца на летняй пляцоўцы павінна быць цесна зьвязана з аздараўленчай фізкультурнай работай. Для гэтай справы летні пэрыяд дае магчымасьць шырока разгарнуць работу. Задачай ваенна-палітычнай работы сярод дзяцей зьяўляецца падрыхтоўка падрастаючага пакаленьня да актыўнага ўдзелу ў абароне СССР. Неабходна і працу ў ваенных гуртках увязаць з задачамі ваеннай абароны.

Таксама можна праводзіць ваенныя рухавыя гульні, гутаркі на адпаведныя ваенныя тэмы, экскурсіі ў ваенныя лягеры і г. д. Па лініі ваеннай працы неабходна адзначыць сьвяткаваньнем некаторыя дні, напрыклад дзень АСО 14-га ліпеня, Міжнародны чырвоны дзень 1/VIII. У гэтыя дні можна правесьці ваенізаваныя гульні, фізкультурныя дэманстрацыі, дрампастаноўкі і г. д.

**Мастацкія гурткі.** Трэба зьвярнуць увагу на мастацкае выхаваньне дзяцей на летніх школьных пляцоўках. Важна добра арганізаваць мастацкае абслугоўваньне дзяцей: калектыўнае слуханьне радыё, паходы ў кіно, у тэатр і г. д. Асаблівае значэньне мае арганізацыя розных відаў мастацкай самадзейнасьці сярод дзяцей: харавыя і музычныя гурткі, зацейнікі, ІЗО і інш. Уся мастацкая праца падпарадкуецца вучэбна-выхаваўчым мэтам школы і павінна быць прасякнута момантамі інтэрнацыянальнага і антырэлігійнага выхаваньня, а па гэтаму мастацкая праца патрабуе сталага кіраўніцтва з боку пэдагога. Трэба сачыць затым, каб не перагружаць дзяцей частымі заняткамі, выступленьнямі каб гэта работа не перашкаджала аздараўленчай рабоце пляцоўкі.

**Культмасавая і палітвыхаваўчая праца.** Важна падкрэсьліць, што грамадзкая і культ-масавая праца павінна прасякнуць працу ўсіх гурткоў; напрыклад, радыё-гурток можа праводзіць радыёфікацыю ў калгасе. Мастацкія гурткі арганізоўваюць дзіцячыя выступленьні ў час экскурсіі ў ваенныя лягеры, у калгас і г. д. Цесна зьвязана з масавай працай і праца палітгурткоў. Палітгурткі могуць арганізоўваць штодзённа на 10—15 хв., паліт. інфармацыі, якія праводзяць пасьля папярэдняй падрыхтоўкі піянэрважатыя альбо вылучаныя старшыя вучні. Таксама можна арганізаваць калектыўную чытку газэт.

**Работа з кнігай.** У летні час неабходна каб школьная бібліятэка і дзіцячыя аддзелы агульных бібліятэк перабудавалі сваю работу, выносячы яе ў сады і паркі, і забясьпечылі дзіцячыя пляцоўкі добраякаснай дзіцячай літаратурай.

Піянэрскія і вучнёўскія арганізацыі павінны прымаць актыўны ўдзел у разгортваньні ўсёй аздараўленчай і палітвыхаваўчай працы пляцоўкі. Яны павінны сумесна з пэдагогам змагацца за высокую выхаваўчую якасьць у рабоце летніх школьных пляцовак.

ГорАНА павінна забясьпечыць летнія школьныя пляцоўкі сталым мэтадычным кіраўніцтвам.

**Улік працы.** Уся праца на школьнай пляцоўцы павінна быць строга плянавана. Улік працы неабходзен для правільнага вядзеньня працы, для соц. спаборніцтва і ўдарніцтва і, нарэшце, для аналізу працы, яе дадатных і адмоўных бакоў, з тым каб у будучы час выкарыстаць дадатны вопыт і выправіць меўшыя месца памылкі.

Патрэбна весьці ўлік наведваньня дзецьмі пляцоўкі, які адзначаецца на асобным рэгістрацыйным лісьце. Яго могуць весьці самі дзеці. Важна выявіць прычыны ненаведваньня дзецьмі пляцоўкі, каб прыняць адпаведныя меры.

Для ўстанаўленьня лепшай дысцыпліны трэба весьці барацьбу з прагуламі і спазьненьнямі.

Вынікі наведваньня дзеці могуць апрацаваць ў дыяграмах. Настаўнікі і піянэрважатыя павінны весьці штодзенны дзёньнік працы з ўлікам ўсіх момантаў рэжыму. Па дзёньніку можна даць справаздачу па асобных відах працы і па праведзеных экскурсіях, гуртковай працы і г. д.

**Прыкладны дзёньнік** Пляцоўка №

дата заняткі ад да гад.

Зарадка

**Сонечныя ванны.** Колькі дзяцей прымала ўдзел

**Купаньне** " " " "

**Гульні. Назва**

**Экскурсіі.** (Куды, з якой мэтай, вынікі).

**Праца на прышкольным вучастку**

**Гурткі** (з пералікам зьместу працы).

**Арганізацыйная праца**

**Сходы (абвестка дню) і г. д.**

Мажліва праводзіць улік і па больш простай схэме.

**Дзёньнік плацоўкі №**

**Дата** заняткі ад да гадз.

час ад да што рабілі

Неабходна таксама весьці мэдычны ўлік ўплыву пляцоўкі на здароўе дзяцей. Для гэтага неабходна правесьці ўзважваньне дзяцей да і пасьля сканчэньня наведваньня дзецьмі пляцоўкі. Урач павінен праводзіць сыстэматычны мэдагляд і весьці ўлік зьмен у здароўі дзяцей, наведваючых пляцоўку.

Мэдычны ўлік вядзецца ўрачом. Важным момантам летняй працы пляцоўкі зьяўляецца правядзеньне бацькоўскіх сходаў. На заключным бацькоўскім сходзе настаўнік, піянэр-важаты і ўрач павінны даць справаздачу ў праведзенай працы.

Акрамя гэтага, значную ролю ў падліку працы адыгрываюць выстаўкі працы дзяцей, насьценгазэты дзяцей, зробленыя імі дыяграмы і г. д. Тут важная роля выпадае на піянэрскія і вучнёўскія арганізацыі. У канцы працы пляцоўкі трэба арганізаваць падагульняючую выстаўку.

Аб уліку працы патрэбна памятаць з моманту адчыненьня пляцоўкі; трэба ведаць, што гэта адна з галоўных частак працы. Нам здаецца, што вельмі добра было-б пасьля сканчэньня працы на пляцоўках на старонках часопісу «Камвыхаваньне» падзяліцца вопытам працы розных гарадоў БССР, каб мы мелі малюнак працы розных пляцовак і маглі выкарыстаць гэтыя матар'ялы для разгортваньня працы пляцовак ў наступныя гады.

*Праф. Камінскі*

# Аб мерах і спосабах выхаваньня і пристасаваньне сьляпых альбо слаба-відучых да работы

У выніку пяцігодкі, якая закончана ў чатыры гады, мы маем вялічэзныя дасягненьні, як на фронце індустрыялізацыі краіны, так і ў сельскай гаспадарцы, дзе агульны паказьнік калектывізацыі па СССР складае больш 60 проц. Пытаньне «хто каго» вырашана ў нас канчаткова ў карысьць сацыялістычнага будаўніцтва. Кулак выбіт з сваёй каляіны, але яшчэ не дабіты. Гэта работа прадстаіць яшчэ ў бліжэйшую пяцігодку, якая адкрывае шырокі шлях пабудовы бяскласавага грамадзтва.

У такі адказны час асаблівую ўвагу мы павінны зьвярнуць на тое народнае няшчасьце, што нясе з сабой сьлепата. Кожная рабочая адзінка абыходзіцца ня танна для нашае савецкае дзяржавы, і таму сьлепата, якая ў пэўнай меры перашкаджае чалавеку праявіць усю сваю сілу ў тых альбо іншых галінах працы, зьяўляецца сугуба-важнай праблемай, якой наша рабочая дзяржава павінна заняцца, каб яе зьнішчыць, а калі гэта немагчыма, дык значна абмежаваць.

Адсюль будзе зразумела тая зацікаўленасьць, якую ўзбуджае да сябе барацьба з захворваньнем вачэй. Гэта адначасна служыць і папераджальнымі мерамі супроць разьвіцьця сьлепаты.

Сьлепата ня ёсьць тэрмін абсалютны: пад гэта паняцьце падводзяцца як і тыя, якія нічога ня бачаць, якія не адрозьніваюць нават сьвету сонца, так і тыя, зрок якіх абмяжоўваецца толькі сьветаадчуваньнем, г. зн. яны бачаць сьвет ад сонца, ад лямпы альбо сьвечкі, але ні сонца, ні лямпы, ні сьвечкі, як прадмету, яны ня бачаць. Да сьляпых належаць і тыя, зрок якіх настолькі заняпаў, што яны слаба арыентуюцца ў прасторы для свайго руху ў незнаёмых абставінах, маюць патрэбу ў пабочнай дапамозе.

Што прыводзіць да сьлепаты? Калі пакінуць ў баку ўроджаную сьлепату, якая ў агульнай суме сьляпых прадстаўляе ня-

значны процант, дык галоўнымі прычынамі набытай сьлепаты зьяўляліся ў дарэвалюцыйныя часы наступныя хваробы: у дзіцячым узросьце ад ганарэйнага запаленьня сьлізістай абалонкі вока (10,876 проц.), ад трахомы (9,4 проц.), ад хвароб рагавой абалонкі (8,68 проц.), ад хвароб сьнеудыстай абалонкі, куды ўваходзяць і пашкоджаньні вока (8,86 проц.), ад глаўкомы (8,978 проц.) і атрафіі зрокавага нэрву (7,751 проц.). Прыводзімыя даныя ўзяты з артыкулу праф. Магнуса, які дасьледваў 2.528 сьляпых; яны адносяцца да канца мінулага стагодзьдзя і датычацца дзяржаўных утварэньняў Заходняй Эўропы. Калі ад гэтых дадзеных мы пярэйдзем да тых, якія маем па розных частках СССР, а асабліва па БССР, дык упэўнімся, што малюнак атрымліваецца зусім іншы.

Па дадзеных агульнай перапіскі 1926 году ў Беларусі налічвалася насельніцтва 4.988.900 чал., сьляпых аказалася 6.741 чал., з іх мужчын 2.806, жанчын 3.935. Паказьнік сьлепаты роўны 135,3 (на 100.000 насельніцтва). Гэты паказьнік меншы чым у РСФСР (177,6 на 100.000 насельніцтва) і большы чым на Украіне (110,0 на 100.000 насельніцтва).

Калі разгледзіць лічбы сьлепаты па ўзросьце, а асабліва па школьным узросьце, г. зн. ад 9 да 19 год, то мы ўпэўнімся ў наступным (па даных доктара Савваітава): ад 0 да 9 год паказьнік сьлепаты роўны 24,7 (на 100.000 насельніцтва); па гэтаму разьліку ў Беларусі ў гэтым узросьце мы маем, прыблізна, 1.208 дзяцей. Паказальнасьць ад 10 да 19 год значна павялічваецца; яна роўна 62,6 (на 100.000 насельніцтва). Па гэтаму паказальніку мы маем сьляпых дзяцей па Беларусі ў гэтым узросьце 3.130 чал. Пры лічэньні, што школьны ўзрост пачынаецца ад 7 год і працягваецца далей ня менш як да 15 год,—агульны лік сьляпых дзяцей у сучасны момант, прыблізна, складзе лічбу ў 2.000—2.250 чал.

Калі ад гэтых лічбаў мы адхілімся і возьмемся за расшыфроўку вышэйпаказанага паказальніка сьлепаты, г. зн. падыйдзем да азначэньня прычын, што выклікаюць сьлепату, па крыніцах, што зьявіліся ў друку за апошнія гады, дык атрымаем наступныя дадзеныя: доктар Лосеў, які надрукаваў сваю працу ў часопісу «Беларуская мэдычная думка», прыводзіць лічбы асьлепшых ад трахомы—роўнымі 23,4 проц. з агульнага ліку сьляпых. Такі-ж процант асьлепшых ад трахомы наглядаецца і ў іншых частках СССР.

Калі мы возьмем пазьнейшыя дадзеныя, якія сабраны і пільна распрацаваны ў артыкуле тав. Маўшовіча, што выдрукаваны ў 1930 годзе, дык атрымаем такія лічбы: трахома дае па Менску паказальнік сьлепаты ў 6,2, Мазыры 17,4 (на 10.000 насельніцтва). Апошнія лічбы значна адрозьніваюцца ад першых, але ўсё-ж паказваюць, што трахома займае яшчэ большае месца сярод прычын, што выклікаюць сьлепату.

Поруч з ёй стаіць слепата ад захворваньня рагавіцы, а асабліва ад паўзучай язвы рагавіцы (гэта асабліва высьвятлена ў працы дацэнта Н. Дворжыца); і, нарэшце, вялікі процант сьлепаты даюць у нас бытавыя і прафэсыянальныя траўмы (па Лосеву—17,7%, па Маўшовічу—14,1%). Калі мы ўгледзімся ў гэтыя прычыны сьлепаты і кожную з іх разгледзім паасобку, то ўбачым, што барацьба з імі магчыма, неабходна і можа прывесьці пры нашым будаўніцтве сацыялізму да значнага захаваньня поўнасьцю працаздольных кадраў, якія разам з камуністычнай партыяй будуць змагацца за бясклясавае грамадзтва, як на прамысловым, так і на ідэалёгічных франтах.

Трахома зьяўляецца бічом, які пакінуты нам, побач з іншымі сацыяльнымі хваробамі, як тубэркулёз, сіфіліс і інш. ад праклятага мінулага буржуазнага рэжыму. Трахома па ўсіх даных як у Беларусі, так і ў іншых частках нашага Саюзу больш пашырана сярод жыхароў калгасаў, саўгасаў і індывідуальных сялян, чым у гарадах. Тлумачыцца гэта з аднаго боку большым культурным узроўнем і ўмовамі жыцьця ў гарадох, чым у сельскіх мясцовасьцях, а з другога боку большай насычанасьцю спэцыяльнымі мэдычнымі работнікамі гарадоў, чым гэта мае месца ў вёсках. Я пазьней падам табліцы забясьпечанасьці ложкавым (коечным) фондам у гарадох і вёсцы, а таксама распаўсюджаньня спэцыяльнай вочнай дапамогі па БССР.

Культурнае становішча нашага працоўнага насельніцтва, якое не эксплёатуе чужое працы, за час існаваньня Савецкай улады значна павысілася. Усім вядома, што ў нас уведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне для дзяцей школьнага ўзросту, маецца т-ва, ліквідуючае няпісьменнасьць сярод дарослага працоўнага насельніцтва, якое налічвае свае шматлікія пункты па ўсёй БССР, і штодзённы вопыт працы навучае нас, што процант пісьменнасьці па БССР значна ўзьняўся.

Па дадзеных тав. Маўшовіча (выдрукаваных ў 1930 г.) горад даваў 663,8 пісьменных на 1.000 чал., вёска—354,4 на 1.000 чал., сьляпых сярод гарадзкога насельніцтва—9 на 10.000 гарадзкіх жыхараў і 14—на 10.000 сярод сялян. Але пісьменнасьць зьяўляецца адным бокам пытаньня, другім—патрэбна лічыць поўную перабудову вёскі на сацыялістычных асновах. Пабудова калгасаў, замацаваньне іх, іх правільнае кіраўніцтва вядзе да значнага падняцьця добрабыту кожнага калгасьніка паасобку і ўсіх калгасьнікаў разам, і тым самым да падняцьця культурнага ўзроўню, а значыцца да найвялікшага культурнага росту.

Бадай, тое-ж мае дачыненьне і да хвароб рагавіцы. Паміж апошнімі асаблівае значэньне маюць хваробы рагавіцы залатушнага характару ў дзяцей і паўзучая язва, аб якой мы напаміналі раней. Абедзьве гэтыя формы для папярэджаньня і больш рацыянальнага лячэньня патрабуюць набліжэньня спэцыяльнай

урачэбнай дапамогі для насельніцтва, а таксама ўзьняцьця культурнага яго ўзроўню.

Троху інакш стаіць пытаньне з трэцяй, галоўнай прычынай сьлепаты ў нас у БССР,—з траўмай. Вялічыня гэтай лічбы залежыць, галоўным парадкам ад таго, што паасобныя рабочыя яшчэ недастаткова кваліфікаваны, мала знаёмы з новымі, што выпрацоўваюцца нашымі гігантамі, машынамі. Наогул процант ранімасьці, калі параўняць яго з ранейшымі лічбамі і цяперашнімі лічбамі ў капіталістычных краінах зьменшваецца і ён яшчэ больш зьменшыцца, як будзе поўнасьцю выканаены лёзунг тав. Сталіна—аўладаць тэхнікай. Гэта мае асаблівае значэньне ў сучасны момант, калі будуюцца сацыялістычныя заводы і фабрыкі,—у якія ўцягваюцца ўсё большыя і большыя пласты працоўнага насельніцтва, што яшчэ недастаткова аўладалі тэхнікай. На гэта павінна зьвярнуць увагу ўся наша рабочая грамадзкасьць.

Сьлепату даюць таксама інфэкцыйныя хваробы, напрыклад, дыфтэрыт, адзёр, шкарлятына, эпідэмічны мэнінгіт, спосабам паражэньня рагавіцы ці іншых частак вока. Нельга не напомніць яшчэ аб сыфілістычных і тубэркулёзных захворваньнях розных частак вока, якія нярэдка канчаюцца поўнай альбо частковай сьлепатой.

У мінулыя часы можна было спаткаць шмат людзей, якія асьлеплі ад інфэкцыйных хвароб (у асобную графу вылучаюцца сыфіліс і тубэркулёз). У сучасны момант хваробы гэтыя сустракаюцца радзей, не ахапляюць вялікай колькасьці насельніцтва, бо органы Аховы Здароўя пры зьяўленьні першых выпадкаў інфэкцыйнай хваробы мабілізуюць усю грамадзкасьць на барацьбу з ёй, а таму сьлепата ад іх здараецца зараз значна радзей. Гэта зьяўляецца прычынай таго, што сярод агульных прычын інфэкцыйныя хваробы займаюць вельмі нязначнае месца. Па даных Крывецкага з Украіны інфэкцыйныя хваробы, як прычына сьлепаты на абодвы вокі займаюць сярод іншых прычын 6-ае месца (6,93%).

Такім парадкам мы бачым, што нашы сумотныя лічбы сьлепаты могуць быць значна зьменшаны пры некаторых умовах. Аднэй з немалаважных з гэтых умоў зьяўляецца набліжэньне мэдычнай дапамогі да працоўнага насельніцтва. Як-жа ў гэтых адносінах абстаіць справа ў сучасны момант?

Акулістаў кваліфікаваных па БССР налічваецца 60—61, ложкаў для хворых на вочы—208, спэцыяльна для трахомных—50, ізаляцыйных—40, для трахомных дзяцей—125. Праз усе гэтыя ўстановы прайшло хворых вачыма ў 1927 годзе 70.200, у 1928 годзе—85.478, у 1929 годзе 94.340. Калі пры гэтым мы возьмем усе ложкі для хворых на вочы бяз уліку іх спэцыяльнага прызначэньня (агульных і трахомных), то мы атрымаем усяго ложкаў

для абслугоўваньня хворых на вочы па БССР—423, г. зн. 1 ложак на 11.865 насельніцтва. Лік гэты наяўна недастатковы, асабліва калі прыняць пад увагу, што ў БССР маецца 12—15 раёнаў, густа затрахомленых, дзе небясьпека сьлепаты дужа павялічваецца. Ня зусім спрыяльныя ў нас адносіны і з лікам спэцыялістаў вочных хвароб: іх усяго па Беларусі маецца 60—61 чал.; калі прыняць пад увагу, што значная частка іх знаходзіцца ў вялікіх гарадох (так у Менску іх маецца 17 чал., у Гомелі—8—10 чал., у Віцебску—4—5 чал.), то на долю сельскіх мясцовасьцей прыдзецца вельмі мала.

Да гэтага патрэбна дадаць, што і сярэдні пэрсанал (фэльчар, сястра), знаёмы хоць крыху з захворваньнямі воч, налічваецца ў Беларусі адзінкамі. Тут мы сустракаемся з пытаньнем аб кадрах, якое стаіць вельмі войстра ва ўсіх галінах нашага будаўніцтва. З гэтым-жа пытаньнем прыходзіцца мець справу і пры разглядзе пытаньняў аб пашырэньні сеткі падачы спэцыяльнай дапамогі на мясцох. Трэба прызнаць, што даволі значны час кіраўніцтва Наркамаховы Здароўя не займалася сваячасова пытаньнем павялічэньня спэцыялістаў на фронце барацьбы з захворваньнямі вачэй і таму на 16-м годзе Кастрычнікавай рэвалюцыі мы ў параўнаньні з агульным ростам нашага сацыялістычнага будаўніцтва зрабілі вельмі мала для барацьбы з сьлепатой і яе галоўнай прычынай—трахомай. Пераход да другой пяцігодкі падае вялікія надзеі на выжываньне тых недахопаў, якія мы мелі ў галіне барацьбы з сьлепатой і яе прычынамі. Будзе таксама расьці дабрабыт і культурны ўздым працоўных, і такім парадкам значна зьменшыцца лік сьляпых і гэтым мы зможам паказаць рабочым капіталістычных краін, чаго дасягае краіна, дзе на чале ўлады знаходзіцца рабочая кляса пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі.

Поруч з урачэбнай дапамогай у арбіту барацьбы з сьлепатой павінна быць уцягнута ўся наша грамадзкасьць, у першую чаргу настаўніцтва. Апошняе, будучы азнаёмлена з лёгка-засваяемымі правіламі, можа аказаць вялічэзную карысьць у справе барацьбы з сьлепатой. Тое-ж самае адносіцца па сутнасьці і да сельскага камсамольца, да сьвядомага калгасьніка-ўдарніка альбо саўгасьніка. Уся гэта грамадзкасьць, будучы ўцягнута ў барацьбу з сьлепатой, укараняючы ў насельніцтве элемэнтарныя правілы санмінімуму і сочачы за іх выкананьнем, дапамагла-б ня толькі зьніжэньню проценту сьляпых, але і ўнесла-б шэраг значных палепшаньняў у агульны стан здароўя насельніцтва. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на школы. Пры сучаснай палітэхнізацыі школы, калі школьны ўзрост пачынае ўжо знаёміцца з прасьцейшымі інструмантамі, вельмі важна, каб настаўнік адначасна з навучаньнем дзяцей указваў і ўкараняў у сьвядомасьць вучняў магчымасьці цяжкога раненьня вачэй пры няўважлівых адносінах да ўжываемых інструмантаў.

Калі ўвесьці ў курс падрыхтоўкі настаўнікаў магчымасьць навучаньня адзнакам і мерам папярэджваньня трахомы, то для іх стане ясна, што зьяўленьне гною хоць-бы ў невялікай колькасьці (напрыклад, у куткох воч) альбо недастатковае раскрыцьцё вочнай шчэліны зьяўляецца падозранымі адзнакамі, і яны накіруюць тады вучня да доктара і гэтым прынясуць вялікую карысьць у мерах барацьбы з сьлепатой. Зусім зразумела, што ўсялякая іх паясьняльная работа, накіраваная ў бок укараненьня правіл санітарнай чыстаты, асьцераганьня ад заражэньня, будзе дзейнічаць у той-жа бок барацьбы з сьлепатой.

Неабходна таксама, каб ва ўсіх школах віселі плякаты, карты па барацьбе з трахомай, і іншымі небясьпечнымі хваробамі вачэй. Карысьць іх бясспрэчная.

Пры тэй колькасьці сьляпых дзяцей школьнага ўзросту, якую мы маем па Беларусі (2.000—2.250 дзяцей), узьнікае сур'ёзнае пытаньне, як прыступіць да навучаньня іх, каб зрабіць іх настолькі карыснымі грамадзянамі нашага сацыялістычнага будаўніцтва, як і іншых рабочых, калгасьнікаў і саўгасьнікаў. Пытаньне гэта патрэбна разглядаць з двух бакоў: па-першае—навучаньне агульным прадметам і, па-другое—палітэхнічнае навучаньне, якое прыстасоўвае сьляпых да размаітных работ. Спрэчкі ідуць па лініі—ці навучаць сьляпых у агульных школах разам з відучымі, альбо арганізоўваць для іх спэцыяльныя школы; існуе яшчэ трэці погляд паводле якога раіцца правесьці спачатку на працягу 2-х альбо 3-х год першапачатковае навучаньне сьляпых у спэцыяльна для іх прызначаных школах, і канчаць адукацыю ў агульных школах, дзе навучаюцца відучыя супольна з сьляпымі.

Найбольш адпаведным трэба было-б лічыць першы погляд аб супольным навучаньні відучых і сьляпых з самага пачатку паступленьня ў школу і да канца навучальнага году. На жаль, мы ня маем дастаткова падрыхтаванага для гэтай мэты настаўніцкага пэрсоналу. Неабходна падумаць аб тым, каб у курс падрыхтоўкі настаўнікаў агульных школ, увесьці веды, неабходныя для навучаньня сьляпых.

Такім парадкам мы бачым, што стаць на гэты шлях мы пакуль ня можам. Думка аб спэцыяльных школах для сьляпых, у якіх сьляпыя-б групаваліся і падлягалі-б школьнай апрацоўцы ад першай да апошняй клясы, зьяўляецца рэакцыйнай і шкоднай. Справа ў тым, што ў сучасны момант сьляпыя дзеці паступаюць у школу часта з асяродзьдзя недастаткова культурнага, у якім адносіны да сьляпых дзяцей іншыя чым да відучых. Гэта стварае ў псыхалёгіі сьляпых дзяцей асаблівасьці, якія могуць быць лёгка зжыты пры супольным навучаньні відучых і сьляпых дзяцей. Таму да апошняга павінны імкнуцца, апошняе павінна стаць прынцыпам навучаньня сьляпых. Але з тае прычыны, што

ў сучасных нашых умовах, мы гэтага прынцыпу ажыцьцявіць ня можам, дык можна пагадзіцца з трэцім меркаваньнем, г. зн.: першыя два гады навучаньня сьляпое дзіцё праводзіць у спэцыяльна пабудаванай для сьляпых школе, дзе яно навучаецца першапачатковай грамаце і дзе культурны ўзровень яго значна ўздымаецца; пасьля гэтага яго лёгка перавесьці ў агульную школу.

Куды цяжэй у сучасны момант вырашыць пытаньне, якую тэхніку трэба прышчапіць сьляпым дзецям, якія, калі вырастуць, пажадаюць ударнымі тэмпамі прымаць удзел у нашым сацыялістычным будаўніцтве. Калі для вырашэньня гэтага пытаньня ўзяць старыя крыніцы—як напрыклад манаграфію Fick'a „Die Blindheit", зьмешчаную ў Грэфаўскім Handbucle, дык мы знойдзем там паказаньне на такія заняткі, якія прышчапляліся сьляпым дзецям у час навучаньня: 1) вязаньне, 2) прадзеньне, 3) пераплётнае майстэрства, 4) шчотачнае рамесьніцтва, 5) шавецкае майстэрства, 6) сталярнае майстэрства, 7) такарнае, 8) навучаньне граньню на раялі. Дакладных матываў, чаму толькі гэтымі заняткамі патрэбна абмежавацца, ня дадзена, ды іх па сутнасьці і нельга даць.

Абсалютным выключэньнем для сьляпых можна лічыць толькі заняткі, якія зьвязаны з транспартам, як чыгуначнае, аўтамабільнае, авіяцыйнае і г. д. У ва ўсіх іншых вытворствах можна знайсьці такія галіны, дзе сьляпы з поўнай сілай можа выказаць свае здольнасьці да працы. Няма сумненьня і ў тым, што сьляпыя могуць праходзіць і вышэйшую школу, але пры размаітнасьці нашых вышэйшых навучальных ўстанаў, як ВНУ, ВТНУ інстытутаў, выбар не павінен спыняцца на тых спэцыяльнасьцях, што патрабуюць вострага зроку. Тут мы зноў сустракаемся з тымі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, якія падрыхтоўваюць кваліфікаваных працаўнікоў для транспарту; не падходзяць для сьляпых таксама і мэдінстытутты, дзе нават сьляпыя на колеры ня могуць быць паўнацэннымі дактарамі. Найбольш адпаведным для сьляпых зьяўляюцца тыя вышэйшыя школы, што рыхтуюць спэцыялістаў па грамадзкіх навуках, як пэдагогаў, плянавікоў, судзьдзяў і г. д. Зусім зразумела, падыходзяць таксама і некаторыя ВТНУ, у якіх сьляпыя могуць кваліфікавацца і дасягаць высокай дасканаласьці. Такім парадкам ёсьць шмат магчымасьцяй для таго, каб сьляпыя, як і іншыя работнікі маглі атрымаць вышэйшую кваліфікацыю, і, значыцца, прыняць самы шырокі ўдзел у тым новым будаўніцтве, якое ў нас у СССР праводзіць рабочая кляса пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі.

---

# КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

*Воўкаў*

## Цікавы матар'ял з недаапрацаванымі вывадамі

Навукова-Дасьледчы Інстытут Камуністычнага Выхаваньня выдаў пад рэдакцыяй т. Каляды брашуру «Становішча палітэхнічных ведаў у ФЗС і ШКМ». Матар'ялам для брашуры зьявілася анкетнае абсьледваньне 345 вучняў сёмых груп.

На падставе атрыманага матар'ялу т. т. Каляда і Раецкі ў № 7—8 часопісу «Савецкая краіна» за 1932 год, надрукавалі артыкул «Становішча палітэхнічных ведаў ў ФЗС і ШКМ БССР». З невялікімі зьменамі гэты артыкул ёсьць разглядаемая брашура.

У брашуру, апрача чыста стылістычных зьмен і паправак у параўнаньні з артыкулам унесены наступныя дадаткі: прадмова тав. Каляды, якая паказвае прыкладныя тэмы, над якімі працуе Навукова-Дасьледчы Інстытут Камвыхаваньня; пералічаны анкетныя пытаньні, якія даваліся вучням па электратэхніцы, сельскай гаспадарцы, мэталяапрацоўчай прамысловасьці; надрукаваны параўнальныя табліцы ведаў вучняў па сельскай гаспадарцы звычайнай ФЗС і ўзорнай; табліца ведаў па мэталяапрацоўцы вучняў ШКМ; параўнаўчая табліца ведаў па мэталяапрацоўцы вучняў Менскай 25 узорнай ФЗС і Любанскай узорнай ШКМ. Апрача пералічанага ўстаўлена ў брашуры некалькі новых абзацаў: на стар. 24 аб тым, што вучні ШКМ значна лепш разьбіраюцца ў пытаньнях сельскай гаспадаркі, чым вучні ФЗС і на стар. 34 аб тым, што ў пытаньнях мэталяапрацоўкі вучні ФЗС разьбіраюцца лепш, чым вучні ШКМ.

Аўтары брашуры дапусьцілі наступную памылку: нельга на падставе абсьледваньня 345 вучняў выпускнікоў гаварыць пра палітэхнічныя веды ў ФЗС і ШКМ. Мы павінны памятаць, што абсьледваныя вучні асноўны курс навучаньня праходзілі ў той час, калі ў школе ня было крутога павароту, да палітэхнізацыі, а таму нельга мэханічна пераносіць атрыманыя вынікі абсьледваньня 345 вучняў сёмых груп на ўсіх вучняў, таксама нельга характарызаваць наогул становішча палітэхнічных ведаў у школах БССР, як гэта зрабілі аўтары ў часопісу «Савецкая краіна».

Было-б добра, калі-б т. т. Каляда і Раецкі застанавіліся ў брашуры на мэтадзе вылічэньня %%, паказалі мэтад абсьлед-

ваньня, а побач з %% далі-б абсалютную колькасьць правільных і няправільных адказаў, таксама лік вучняў, якія не давалі зусім адказаў на пытаньні. Пры такім падыходзе малюнак становішча палітэхнічных ведаў у вучняў 7-х груп абсьледаваных школ быў-бы больш ясным і даваў мажлівасьць судзіць аб правільнасьці вывадаў, зробленых у брашуры, бо на падставе надрукаваных матар'ялаў з некаторымі вывадамі згадзіцца нельга.

Возьмем наступнае: пры параўнаньні ведаў па электратэхніцы паміж Менскай ўзорнай 25 ФЗС і Любаньскай узорнай ШКМ аўтары кажуць, што: «яно сьведчыць аб значна лепшым засваеньні ведаў па электратэхніцы з боку Любаньскай узорнай ШКМ у параўнаньні з 25 узорнай Менскай ФЗС і наогул аб лепшых ведах па электратэхніцы ў памянёнай ШКМ у параўнаньні з ўсімі абсьледванымі намі школамі» (стар. 18).

Сапраўды, калі мы возьмем у процантах правільныя адказы, дык па 25 Менскай узорнай ФЗС яны складаюць 48,5, па Любаньскай ШКМ 61,2.

Аўтары і далей выпукляюць гэтыя лічбы, імкнуцца даказаць, што ў Любаньскай ШКМ вучні лепш падрыхтаваны, але аўтары брашуры пры вылічэньні %% зусім не зьвярнулі ўвагі на зьмест пытаньняў. А зьмест гаворыць наступнае: веды вучняў Любаньскай ШКМ больш шырокія ў тэорыі, тут 25 ФЗС уступае ёй, а калі справа датычыцца пытаньняў зьвязаных з практыкай,— ФЗС бярэ перавагу над ШКМ. Напрыклад, гэта відаць з наступнага. На пытаньне: «Як выкарыстоўваецца электрычная энэргія ў сельскай гаспадарцы» з вучняў ШКМ ніхто не адказаў, у той час як на гэта пытаньне вучні ФЗС далі 3,3 проц. правільных адказаў. На пытаньне аб ужываньні электрычнасьці ў прамысловасьці 25 ФЗС дала правільных адказаў 15,1 проц., а Любаньская ўзорная ШКМ ўсяго 6,4 проц.

На гэтым паказчыку разрыву тэарэтычных ведаў з практыкай трэба было-б завастрыць увагу.

Адносна ведаў па сельскай гаспадарцы, аўтары робяць наступныя вывады: «Вучні ШКМ значна лепш разьбіраюцца ў пытаньнях сельскай гаспадаркі, чым вучні ФЗС... пытаньне вывучэньня асноў сельскай гаспадаркі яшчэ не пастаўлена на належную вышыню» (стар. 24).

Але зноў не разгледжаны пытаньні, на якія вучні ФЗС даюць лепшыя адказы, чымся вучні ШКМ і на якія горшыя. Таблічку, якую падаюць аўтары, разгледзім падрабязна.

Перш за ўсё з вучняў ФЗС на пытаньне: «На якім паліве працуе трактар» адказала 63 проц., у той час як вучні ШКМ зусім не адказалі на яго.

Па раду пытаньняў процант правільных адказаў вучняў ФЗС і ШКМ аднолькавы, альбо блізкі да роўнасьці.

На пытаньне: «Якія табе вядомы нормы кармленьня сьвіней»— правільна адказала 2 проц. вучняў ФЗС і 2 проц. вучняў ШКМ.

Наступная табліца пакажа ў процантах набліжэньне колькасьці правільных адказаў па раду пытаньняў:

| №№ | Пытаньні | У процантах | |
|---|---|---|---|
| | | Усе ШКМ | Усе ФЗС |
| 1. | Ад чаго залежыць ураджайнасьць . . | 97,2 | 93,9 |
| 2. | Якія віды ўгнаеньня ведаеш . . . | 99 | 97 |
| 3. | Назаві машыны для ачысткі насеньня і сартоўкі . . . . . . . | 98 | 89 |
| 4. | Якія ведаеш машыны для апрацоўкі глебы, для пасеву насеньня, для ўборкі палявых культур . . . . . . | 96 | 92 |
| 5. | Для якіх мэт скарыстоўваецца трактар у сельскай гаспадарцы . . . . | 92 | 84 |
| 6. | Якія віды жывёлы павінны разьвязаць мясную праблему . . . . . | 96 | 89 |

За кошт-жа чаго здаецца, што веды вучняў па сельскай гаспадарцы лепшыя ў ШКМ чым ў ФЗС?

Для яскравасьці прывяду наступную табліцу, складзеную на падставе матар'ялу брашуры:

| №№ | Пытаньні | ШКМ | ФЗС |
|---|---|---|---|
| 1. | Назаві галоўныя часткі плуга, сеялкі, малатарні . . . . . . | 95 | 33 |
| 2. | Колькі высяваеццца ў сярэднім на 1 га жыта, бульбы, ільну . . . . | 59 | 8 |
| 3. | Якія кармы адносяцца да грубых, сакавітых і канцэнтраваных . . . . | 84 | 44 |
| 4. | Што робіцца з расьлінамі ў сілоснай яме . | 64 | 38 |
| 5. | Якая розьніца паміж сельска-гаспадарчай камунай і сельска-гаспадарчай арцельлю | 79 | 20 |
| 6. | Якія асноўныя мерапрыемствы па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў праводзяцца партыяй і савецкай уладай . . . . . . | 75 | 29 |

З паданай табліцы відаць: веды вучняў ШКМ пераважаюць у тых пытаньнях, дзе ў аснове ляжыць штодзенны ўдзел у жыцьці акаляючага асяродзьдзя. Гэту характэрную рысу аўтарам у вывадах трэба было-б адзначыць, каб завастрыць увагу асьветнікаў ня толькі на тым, што процант адказаў на пытаньні нізкі, але і на характары адказаў, на тым, што зьяўляецца прычынай дрэнных адказаў, якімі шляхамі можна перамагчы паказаны недахоп.

Пры разглядзе ведаў вучняў узорнай ШКМ і звычайных, агульнасьць падыходу аўтароў зноў перашкодзіла вывадам, у выніку чаго маем наступную нядбайнасьць—яны падкрэсьліваюць, што «вучні ўзорнай ШКМ, за выключэньнем норм кармленьня сьвіней, даюць, у параўнаньні, са звычайнай ШКМ, больш высокі процант правільных адказаў па ўсіх пытаньнях сельскай гаспадаркі» (стар. 26).

Пры больш дасканалым аглядзе прыведзенай табліцы выяўляецца наступнае: вучні звычайных ШКМ далі перавагі ў правільных адказах не па аднаму пытаньню аб нормах кармленьня сьвіней, але яшчэ на пытаньне: «Для чаго праводзіцца спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі» (90 проц., у той час як узорная дала 81 проц.) і «Якая розьніца паміж саўгасам і калгасам» (94 проц., а ўзорная дала 89 проц.), таму сьцьвярджэньне быццам узорная школа дае «больш высокі процант правільных адказаў па ўсіх пытаньнях сельскай гаспадаркі» зьяўляецца няверным, правільнасьць чаго падкрэсьлівае і тое, што па шэрагу пытаньняў адказы ў процантах амаль роўныя. Гэта пакажа наступная табліца:

| №№ | Пытаньні | У процантах | |
|---|---|---|---|
| | | Узорныя ШКМ | Усе ШКМ |
| 1. | Якую перавагу мае буйная сацыялістычная гаспадарка над дробнай . . . | 98 | 95 |
| 2. | Якія ведаеш машыны для апрацоўкі глебы, для пасеву насеньня, для ўборкі палявых культур . . . . . . | 100 | 95 |
| 3. | Назаві галоўныя часткі плуга, сеялкі, малатарні . . . . . | 100 | 94 |
| 4. | Якую ролю адыгрывае МТС у сельскай гаспадарцы . . . . . | 92 | 86 |
| 5. | Назаві асноўныя часткі трактару . . | 70 | 69 |
| 6. | Якія кармы адносяцца да грубых . . | 89 | 83 |

Але канчатковы вынік ведаў па сельскай гаспадарцы выращаецца па ўзорнай ШКМ у 89 проц., а ў звычайных у 64 проц.

Чаму такая розьніца?

Яна атрымалася за кошт некалькіх пытаньняў, на якія ўзорная ШКМ дала правышэньне ў адказах, у параўнаньні са звычайнай ШКМ на 40—93 проц.

Такіх пытаньняў мы маем ўсяго пяць. Вось яны:

| №№ | Пытаньні | У %% Ш. К. М. | |
|---|---|---|---|
| | | Узорн. | Звычайн. |
| 1. | Ад чаго залежыць ураджайнасьць . . | 98 | 9 |
| 2. | Якія віды ўгнаеньня ведаеш . . . | 100 | 11 |
| 3. | Назаві машыны для ачысткі і сартоўкі насеньня . . . . . | 100 | 10 |
| 4. | Колькі можа ў сярэднім узараць трактар у адну гадзіну . . . . | 98 | 58 |
| 5. | На якім паліве працуе трактар . . | 93 | 0 |

Усё паказанае вышэй сьведчыць, што аўтары фармальна і агульна падышлі да ўліку ведаў вучняў, у выніку чаго няправільна паказалі сапраўднае становішча ведаў у адзначаных школах.

З вывадам, што вучні ўзорнай ШКМ маюць лепшыя веды па сельскай гаспадарцы чым вучні ўзорнай ФЗС (у абсьледаваных школах), можна згадзіцца, але ня трэба забываць, як відаць з таблiцы, што гэта перавага ідзе за кошт блізкага дзецям узорнай школы.

Калі мы пяройдзем да ведаў і навыкаў па мэталяапрацоўчай прамысловасьці, дык на ўсіх пытаньнях спыняцца няма сэнсу, пакажу толькі тое, што на такое пытаньне як: «Назаві асноўныя часткі такарнага станку»,—Менская 25 узорная ФЗС дала 68,58 проц. правільных адказаў, а Любаньская ШКМ—0 проц. На пытаньне: «Якое прызначэньне мае мадэльны цэх на мэталяапрацоўчым заводзе»,—з вучняў 25 ФЗС адказала 74,37 проц., а Любаньскай—0 проц. З прапанаваных 14 пытаньняў па мэталяапрацоўцы на 4 вучні Любаньскай ШКМ зусім ня далі адказу. І тут аўтары за процантнымі вылічэньнямі ўпусьцілі тое, што вучні ўзорнай ФЗС ня ведаюць тэхналёгіі матар'ялаў, а Любаньскай ШКМ такарных, сьлясарных станкоў і інш.

Трэба падкрэсьліць як недахоп брашуры—ядбайнасьць у лічбах. На стар. 26 аўтары правільныя адказы вучняў узорнай ФЗС

на пытаньні па с/гаспадарчай вытворчасьці паказалі ў процантах з дакладнасьцю да сотых частак, а на стар. 28 пры параўнаньні іх з вынікамі ўзорнай ШКМ іх адкінулі. Тое-ж самае маем у адносінах да Любаньскай ШКМ. На стар. 16 паказана 35 проц. правільных адказаў на пытаньне «Месца электрамагніту ў электрычнасьці і электратэхніцы», а на стар. 17 значыцца 35,4. На гэта пытаньне вучні 25 Менскай узорнай ФЗС далі 57,5 проц. правільных адказаў (стар. 140), а ў табліцы на стар. 17 значыцца 67,5 проц. Колькасьць правільных адказаў па электратэхніцы Любаньскай ШКМ у табліцы паказана 61,2 проц., а ў тэксьце—65,21 проц. На стар. 8 аўтары брашуры пішуць, што абсьледваньнем было ахоплена 345 вучняў і тут-жа заяўляюць, што на адно з пытаньняў правільна адказала 68 вучняў і няправільна 287, што разам складае 355. Такіх неадкладнасьцяй у брашуры шмат.

Аўтары ўзялі курс на колькаснае параўнаньне правільных адказаў, якія давалі школы без апісаньня вытворчага абкружэньня школы матар'яльнай базай, без паказу барацьбы за палітэхнічныя веды. Яны адарвалі засваеньне асноў навук ад вытворчай працы, не паказалі як скасаваць недахопы і г. д. У выніку гэтага вынікі занадта агульныя і часта ня ўпэўняюць чытача ў правільнасьці, і там, дзе трэба было гаварыць аб поўным правале палітэхнічных ведаў, аўтары ня выкрываюць гэтага.

Побач з агульнымі вывадамі не паказаны недахопы палітэхнізацыі, прычыны, якія выклікалі іх шляхам выпраўленьня ў выніку гэтага з задачай «вывучэньня і абгаварэньня практычнага вопыту, накопленага працаўнікамі школы», аўтары справіліся недастаткова.

Ня гледзячы на недахопы нельга не адзначыць тую вялікую працу, якую прарабілі т. т. Каляда і Раецкі па зборы і апрацоўцы матар'ялу.

*Аўралёў і Баркан*

# Аб падручніку Ш. Брохэса „Хімія“ ч. 1-я для V і VI гр.

*Выданьне Вучпэдсэктар Д. В. Бел. 1932 г. тыр. 100.000 экз.*

У даны момант адзіным масавым падручнікам па хіміі на беларускай мове ў масавай школе БССР зьяўляецца падручнік «Брохэса».

Гэты падручнік мае шэраг буйнейшых недахопаў, асабліва нецярпімых далей ў сьвятле апошніх пастаноў партыі і ўраду аб

масавай школе і выданьні стандартных падручнікаў. Важнейшым адмоўным бокам падручніка зьяўляецца яго характар так званай «Рабочай кнігі» (хаця ён гэтак і завецца), асуджаны пастановаю ЦК.

Гэта знайшло сваё яскравае выражэньне ў прадмове аўтара да беларускага выданьня, у памятцы працуючым у лябараторыі і ўступе, дзе адзіным мэтадам вывучэньня хіміі выстаўляецца лябараторны мэтад, а па-сутнасьці мэтад сьляпога эмпірызму ды яшчэ ў догматычнай форме. Аўтар не дае цэльнай сыстэмы ведаў па хіміі, а падмяняе яе вузка-эмпірычна разрозьненымі работамі, якія займаюць больш палову падручніка і да якіх тэарытычны матар'ял зьяўляецца нязначнай прывескай. Сам аўтар адзначае ў прадмове, што «ў большасьці выпадкаў» лябараторныя работы паданы перад тэарытычным матар'ялам. Гэта значыць аўтар вымушае тэорыю плесьціся ў хвасьце практыкі вучня V і VI групы сямігодкі. Пры тым і настаўніку адводзіцца зусім другарадная роля—«Зрабіць ўступную гутарку». На ст. 4 аўтар раіць вучню: «Перад тым, як пачнеш работу, прачытай уважліва па кніжцы апісаньне работы, і прыгатуй ўсё». «Высьвятлі сабе, у якім парадку ты будзеш ўсё рабіць, толькі пасьля гэтага ты можаш прыступаць да работы». Асноўнае запатрабаваньне, каб вучань прапрацаваў неабходны тэарытычны матар'ял, на падставе якога ён мог-бы выконваць работу сьвядома, а не мэханічна,—адсутнічае. Вось прыклад аднэй наўтад узятай такой работы № 3 «1) Усыпце у сухую прабірку трошкі цукру (да ⅕). Трымаючы прабірку трымалкай, награвайце яе на агні сьпіртоўкі і наглядайце, што адбываецца з цукрам пры награваньні. 2) Наглядайце за дымападобнай матэрыяй, што выдзяляецца з прабіркі. Паспрабуйце яе запаліць. **Заўвага:** матэрыя, што выдзелілася, гэта ня дым; яна толькі падобна на дым. 3) Накальвайце прабірку да таго, часу, пакуль дым не перастане выдзяляцца. Дайце прабірцы астыць. Разглядзіце, што ў ёй асталося», тут вучань сьлепа выконвае апэрацыі, зусім не разумеючы для чаго гэта патрэбна. Апрача мэтадычна пэдагагічнай нягоднасьці такога прыёму, ён шкодзен з мэтадалёгічнага пункту, прышчэпліваючы вучням разуменьне практыкі, як выніку ізаляванага індывідуальнага вузка-эмпірычнага досьледу. Хаця ў прадмове аўтар гаворыць, што «матар'ял у кніжцы цесна увязан з нашым будаўніцтвам», у сапраўднасьці гэта толькі зводзіцца да выпадковых паасобных спасылак на некаторыя больш буйныя аб'екты хімічнай прамысловасьці СССР. Па БССР і такіх спасылак няма. Аўтар зусім няправільна трактуе хімізацыю, як простае разгортваньне хімічнай прамысловасьці, а не стварэньне яе новых галін і ўцягненьне хіміі ў такія галіны народнае гаспадаркі і вытворчыя працэсы, дзе яна дагэтуль ня ўжывалася. Зусім ня высьветлены перавагі створаныя для хіміі, як навукі і хімічнай прамысловасьці ў СССР. Таксама не падкрэсь-

лена клясавая сутнасьць хіміі ў капіталістычных краінах і ў нас. Нідзе аўтар ніводным словам ня ўказвае на роль партыі і савецкай ўлады ў дасягненьнях сацбудаўніцтва і савецкай хіміі, ў прыватнасьці, нічога няма аб задачах пастаўленых партыяй перад хіміяй на другую пяцігодку.

Пры высьвятленьні значэньня хіміі, як прадмету выкладаньня ў школе, вызначана яе мейсца сярод іншых прыродазнаўчых навук, яе роля ў фармаваньні матэрыялістычнага сьветапогляду, у прыватнасьці у барацьбе з рэлігійнымі забабонамі.

І гэта зусім эразумела, бо сам аўтар у шэрагу месц побач з грубым мэханіцызмам скачваецца ў балота ідэалізму і махізму. Так, напрыклад, у асобна пададзеным гістарычным разьдзеле ст. 6—9, не гаворачы аб няправільным адрыве яго ад ўсяго зьместу курсу, даецца шкодная трактоўка гісторыі хіміі, як быццам-бы навукі, якая разьвівалася незалежна ад прадукцыйных сіл і клясавай барацьбы і часам зусім няпісьменная, як трактоўка поглядаў старажытных грэцкіх філёзофаў часоў Арыстотэля, дзе аўтар не знайшоў сказаць нічога іншага, як тое, што «тлумачэньні, думкі іх вельмі наіўныя». Гэта ня гледзячы на тое, што ўжо ў той час Дэмокрыт супроцьпаставіў ідэалістычнай канцэпцыі Арыстотэля, матэрыялістычную канцэпцыю і сформуляваў як гэніяльную гіпотэзу, сучасную атамістычную тэорыю. Зусім няправільна падаецца гістарычная роля альхіміі, як толькі прадукту спрытных ашуканцаў і дзівакоў, верыўшых у філёзофскі камень без вызначэньня дадатнай ролі альхіміі. У поўнай супярэчнасьці з Энгельсам, які раданачальнікам сучаснай навуковай хіміі лічыць Дальтона, аўтар у якасьці гэтакіх высоўвае Ляву-азьзе, Бойля і Ламаносава. Зусім апушчаны флёгістычны пэрыяд разьвіцьця хіміі. Знаёмства з апошнім мае вялікае значэньне для высьвятленьня дыялектыкі разьвіцьця самое навукі.

Прыкладам грубейшага мэханіцызму можа служыць такое сьцьвярджэньне аўтара: «можна сказаць, што ўсё жыцьцё, якое нас акружае, зьяўляецца радам хімічных працэсаў» (стар. 14). Калі ў пытаньнях суадносін тэорыі і практыкі ў ва ўступе і сыстэме пабудовы падручніка аўтар прытрымліваецца вузка-эмпірычных пазыцый, то ў адпаведных мясцох падручніка, дзе ён трактуе аб паняцьцях навуковай гіпотэзы, тэорыі, закону і суаднсіны між імі (ст. 58)—ён скачваецца на ідэалістычныя і мэханісцкія ўстаноўкі... «Уяўленьні (думкі), што дапамагаюць нам у навуцы разумець і вытлумачыць розныя зьявы, называюцца нав. гіпотэзіяй,—піша аўтар. Такім чынам гіпотэза трактуецца аўтарам не як абагульненьне пэўнага раду вядомых фактаў, а як невядома адкуль і як ўзьнікшыя і нічым не абумоўленыя думкі. Далей (там-жа) аўтар піша, «каб вытлумачыць, як адбываюцца розныя хімічныя факты, зараз прынята малекулярна-кінэтычная тэорыя; аказваецца малекулярна-атамістычная **будова** вешчаства

ня ёсьць вынік усёй сумы пазнаньня прыроды грамадзтвам, а зьяўляецца толькі нейкай умоўнасьцю прынятай для зручнасьці. Гэтую-ж думку аўтар паўтарае на наступнай старонцы, кажучы як адбываюцца розныя хімічныя зьявы, **лёгка вытлумачыць**, (падкрэсьлена намі) з дапамогай малекулярна-атамістычнай тэорыі», і далей аўтар піша: «паводле атамістычнай тэорыі будову матэрыі можна сабе ўявіць так:»... Такім чынам для аўтара рэальных доказаў існаваньня малекул і атомаў няма, як быццам-бы малекулярна-атомная будова вешчэства прынята ва ўгоду адпаведнай тэорыі, а не тэорыя зрабілася гэтакай з гіпотэзы, дзякуючы таму, што навукай канчаткова была даказана рэальнасьць атамаў і малекул.

Урэшце ў кніжцы маецца шмат недакладнасьцяй, мяжуючых і з няпісьменнасьцю, як напрыклад атаясамленьне элемэнту з простым вешчэством. Простыя матэрыі таксама называюцца хімічнымі элемэнтамі. Такіх матэрый вядома каля 90» (стр. 18). На стар. 61 аўтар яшчэ раз паўтарае: «Вы ўжо ведаеце, што лік існуючых простых матэрый (элемэнтаў) прыблізна складае да «90». Гэта ў той час, калі бадай кожны школьнік ведае, што з вядомых 92 элемэнтаў большасьць вядома ў выглядзе некалькіх алетрапічных відазьмен (вуглярод, серка, фосфар і г. д.), з якіх кожная зьяўляецца простым вешчэством і такім чынам колькасьць простых вешчэств, значна большая чым элемэнтаў.

Зусім няправільна мэтафізычнае падкрэсьліваньне аўтара быццам-бы абсалютнай нязьменнасьці атомаў пры хімічных рэакцыях і малекул пры фізычных зьменах (зьменах агрэгатных станаў (ст. 59—63).

Адсутнасьць паняцьця аб малекулярнай вазе, паёх эквівалентнасьці ў разьдзеле «Будова матэрый», цягне за сабой немагчымасьць дакладнага ўяўленьня спосабу азначэньня атомнай вагі элемэнтаў. Адсюль няправільнае палажэньне аўтара, быццам колькаснага і якаснага аналізу дастаткова для ўстанаўленьня формулы хімічнага злучэньня.

Тут аўтар блытае паняцьцё эмпірычнай формулы з формулай дакладнай. Адсюль-жа няправільнае сьцьверджаньне быццам толькі меркаваньні прастаты зьяўляюцца падставай для ўжываньня найпрасьцейшых формул. Сапраўды малекулярная вага дае на гэта пытаньне адназначны адказ і часам наперакор прастаце абавязвае браць як раз не самую простую формулу скажам для перакісу вадароду $H_2 O_2$, а не H O.

Няправільна поўнае замоўчваньне існаваньня электронаў, аб якіх у агульнай форме, як бы далейшай ступені пазнаньня матэрыі, неабходна сказаць.

Як стандартны падручнік кніга Брохэса бязумоўна не падыходзіць.

*М. Сямёнава і Е. Матлін*

# Зьнішчыць скажэньні на пэдалёгічным фронце

Жнівеньская пастанова ЦК партыі аб школе зазначае на вялікую ролю пэдалёгіі ў сыстэме вучэбна-выхаваўчай работы і ставіць перад пэдагогамі і пэдалёгамі шэраг канкрэтных задач: ліквідацыя карэннага недахопу, арганізацыя рэжыму дня, праблема палітэхнізму і інш. Гэтыя задачы могуць быць выкананы толькі тады, калі маса пэдалёгаў і пэдагогаў, змагаючыся на два франты ў пэдалёгіі супроць мэханіцызму як галоўнай небясьпекі на даным этапе і меншавіствуючага ідэалізму і эклектызму, крута павернецца да пэдагагічнай практыкі і распачне актыўна абслугоўваць палітэхнічную школу і дзіцячы камуністычны рух.

Мы маем яшчэ шэраг антыленінскіх установак на пэдалёгічным фронце. Даволі ўказаць на працу катэдры пэдалёгіі пры ВПІ (Менск). Гэта зьяўляецца фактам, што студэнтам даваліся тэксты з яўна кулацкай сутнасьцю (аб якіх пісаў тав. Шаткін). Таксама зьяўляецца фактам, што праф. Сарахцін на справе яшчэ не адышоў ад сваіх мэханістычных скажэньняў. Ён яшчэ раз запэўняе, што «базай пэдпрацэсу зьяўляецца кара галоўнага мазга», спасылаючыся пры гэтым на... Леніна. Ленін навучаў нас, што мозг зьяўляецца матар'яльным субстратам мышленьня. «Мышленьне ёсьць прадукт высока-арганізаванай матэрыі мазга». Паводле Сарахціна выходзіць, што пэдпрацэс абмяжоўваецца рамкамі мазгавой кары. Гэта—наяўны біалёгізмі. Разьвіцьцё кары мазга адбываецца пад уплывам акаляючага дзіцёнка сацыяльна-клясавага асяродзьдзя. Чым больш дзіцё атрымлівае стымулаў з вонкавага сьвету, чым багацей яго асяродзьдзе, тым хутчэй разьвіваецца яго мозаг, тым у структурных адносінах зьяўляецца танчэйшай яго кара і тым больш дзіцё праяўляе актыўнасьці. Інакш чым-жа растлумачыць тое, што пры аднолькавай анатоміі і фізыалёгіі мазга ў розных людзей мы маем розны зьмест мышленьня, розныя клясавыя ідэалёгіі.

Пэдолёгі да апошняга часу яшчэ недастаткова ўключыліся ў штодзенную работу школы. Такі адрыў тэорыі ад практыкі пэдпрацэсу зьяўляецца далей нецярпімым і патрабуе рашучай перабудовы ўсёй работы.

Яшчэ ў больш дрэнных умовах знаходзіцца падняцьцё кваліфікацыі масавага настаўніка. Падвышэньне палітычна-адукацыйнага ўзроўню настаўніцтва зьяўляецца магутным сродкам узьняцьця якасьці работы нашай школы. У гэтых адносінах аграмаднае значэньне мае сетка завочнага навучаньня. Між тым, гэты вучастак работы зьяўляецца зусім закінутым. Бадай, бясканторольна пішуцца і рассылаюцца заданьні.

Аб гэтым сьведчаць выдрукаваныя Менскім Белпэдтэхнікумам у колькасьці 5.000 экз. заданьні па пэдалёгіі і пэдалёгічны практыкум для 1-га і 2-га курсаў, што выпушчаны з друку ў канцы 1932 года.

У першым заданьні аўтар запэўняе чытача, у тым, што ў заданьні «даецца марксысцкая ўстаноўка на працэс разьвіцьця». На справе-ж, у гэтым устанавачным заданьні ні слова не гаворыцца аб задачах пэдалёгіі ў сувязі з пастановай ЦК партыі аб школе. Ні слова няма аб партыйнасьці пэдалёгіі, як навукі. Замоўчваньне партыйнасьці пэдалёгіі ў аўтара зьяўляецца не выпадковым, бо і наступныя заданьні прасякнуты антыленінскімі скажэньнямі. Прызнаньне партыйнасьці марксысцкай навукі азначае прызнаньне яе пралетарскага характару і яе клясавай супроцьлегласьці ўсялякай іншай навуцы. Толькі той марксыст—гаворыць Ленін—хто даводзіць ідэю барацьбы клясаў да ідэі дыктатуры пралетарыяту. Аднаго толькі славеснага прызнаньня барацьбы клясаў яшчэ недастаткова, яно не выводзіць нас з рамак буржуазнага сьветаразуменьня. Прызнаньне партыйнасьці азначае яе рэвалюцыйнае прымяненьне на справе ў адпаведнасьці з новымі задачамі, якія паўстаюць перад пралетарыятам на кожным новым больш высокім гістарычным этапе.

Аўтар у мэтах самастрахоўкі ў рабочым матар'яле адзначае, што матар'ял «складзен паводле» такога-та падручніка. Але гэта ні ў якім разе ня здымае адказнасьці за зьмест рабочага матар'ялу. Больш таго, безагаворачнае прыпаднясеньне чужых думак ёсьць доказ поўнай салідарнасьці і згоды з імі аўтара заданьняў.

Замест барацьбы на два франты ў пэдалёгіі, аўтар распаўсюджвае ў гэтых заданьнях грубыя мэханістычныя, а ў шэрагу выпадкаў, і «лявацкія» ўстаноўкі.

Галоўнай формай рэвізіі марксызму-ленінізму ў тэорыі, у прыватнасьці ў пэдалёгіі, зьяўляецца мэханіцызм. Таму, спынімся ў першую чаргу, на мэханістычных скажэньнях.

На 19-й старонцы заданьня для 2-га курсу прапагандуецца такая думка: «Кожны нязвычайны раздражальнік выклікае арыентыровачны рэфлекс і з гэтае прычыны ў паводзінах (дзяцей-ясельнікаў С. і М.) пераважаюць арыентыровачныя рэфлексы».

Такім парадкам, аўтар зводзіць паводзіны ясельніка да арыентыровачных рэфлексаў. Калі можна гаварыць аб арыентыровачным рэфлексе, дык толькі ў дачыненьні новапароджанага. Але ва ўзросьце 2—3 год, калі мова ўсё ўзрастае і дапамагае дзіцёнку пашыраць свае прадстаўленьні аб асяродзьдзі, калі дзіцёнак у практычным вопыце—у гульнях, у сувязі з іншымі дзецьмі і дарослымі—узбагачае сваё мышленьне, зьвядзеньне паводзін дзіцёнка да рэфлексаў зьяўляецца мэханістычным скажэньнем ленінскага разуменьня разьвіцьця чалавека.

Такі-ж групы рэфлексалёгізм мы знаходзім і на 25-й старонцы, дзе аўтар ўсьлед за Арамавым нізводзіць зацікаўленасьць дзіцёнка (інтарэс) да дасьледчага рэфлексу. Ён піша «калі падыйсьці да гэтага пытаньня (дзіцячых інтарэсаў С. і М.) з пункту гледжаньня пэдалёгічнага, то стане зразумелым, што мы тут маем справу з інтарэсам да ведаў і дасьледчым рэфлексам». Такім парадкам, аўтар інтарэсы ў дашкольнікаў зводзіць да рэфлексу. У дашкольным ўзросьце дзіцё асабліва здольна да вывучэньня акаляючага сьвету, да аналізу акаляючага яго асяродзьдзя. Гэтыя працэсы абумоўляюць і ідуць разам з ускладненьнем тонкай структуры мазга. У гэты час пачынаюць разьвівацца асацыяцыйныя валокны, якія служаць для злучэньня розных вучасткаў кары. У гэтым узросьце мы маем шэраг навыкаў працоўнага, калектыўнага і інш. парадкаў, якія становяцца асновай яго паводзін. Інтарэсы дзіцёнка робяцца шырэйшымі і цэнтр іх пераносіцца на акаляючае яго асяродзьдзе.

Бязумоўна, ўсю гэту складанейшую дзейнасьць дзіцёнка ні ў якім разе нельга зьвесьці да рэфлексаў. Рэфлёкс, ёсьць адказ на раздражэньне і ніколі адарвана ня існуе. Дзіцёнак ня проста мэханічна адказвае на раздражэньні, а, успрымаючы і перарабляючы іх, актыўна дзейнічае.

Поруч з гэтым мы маем у гэтых-жа заданьнях адкрытыя лявацкія ўстаноўкі. На старонцы 36—37 аўтар піша: «ня гледзячы на асноўную арыентыроўку ў напрамку самастойнага дасьледваньня жыцьцёвых зьяў, школьнікі яшчэ большую частку свайго часу праводзяць у клясах». Такім чынам, асноўная ўстаноўка ў пэдпрацэсе—па словах аўтара—зводзіцца да «самастойных дасьледваньняў вучняў». Гэта ёсьць ні што іншае, як ужо ўсім знаёмая «лявацкая» ўстаноўка Шульгіна на школу, якая з такой рашучасьцю была асуджана пастановамі ЦК аб школе.

Аўтар заданьняў ня хоча зразумець, што цэнтральнай фігурай ў пэдагагічным працэсе зьяўляецца пэдагог. Гэта, зразумела, не азначае, што актыўнасьць самога вучня павінна стрымлівацца. Але нельга гаварыць аб асноўнай арыентыроўцы «у напрамку самастойнага дасьледваньня». Гэта зьяўляецца антыпартыйнай ўстаноўкай у галіне школьнага будаўніцтва, а гэта асабліва недапушчальна пасьля простых указаньняў ЦК партыі аб ролі пэдагога.

Можна было-б зазначыць яшчэ на шэраг блытаных і памылковых думак, як напрыклад: прызнаньне наяўнасьці эга-цэнтрызму ў падлеткаў (стар. 50), рэкамэндацыя антропамэтрычных стандартаў, выпрацаваных на «менскіх дзецях», бяз клясавай дыфэрэнцыяцыі і г. д. Але дастаткова і таго, што сказана, каб пераканацца ў шкоднасьці гэтых заданьняў.

Варта адзначыць, што ў рабочым матар'яле не знайшлі свайго месца каштоўнейшыя работы, як Энгельса «Роль труда в процессе очеловечения обез'яны» і выказваньні Леніна аб мышленьні.

Выпуск гэтых заданьняў яшчэ раз даводзіць тое, што няма яшчэ дастатковай клясавай пільнасьці з боку адпаведных органаў, адсутнічае патрэбны нагляд і адказнасьць за выпускаемую прадукцыю. Аўтар заданьняў не апублікаваў свайго прозьвішча, але па маючыхся ў нас вестках пісаў іх вядомы ўжо па працы ў Наркамасьвеце БССР Сьцяпура. Наша думка зводзіцца да таго, што гэтыя заданьні, як мага хутчэй, патрэбна з карыстаньня выключыць.

*Алеся Александровіч*

# Дзіцячы пэрыядычны друк—на належную вышыню

*(„Іскры Ільліча" за 1932 г. і пачатак 1933 г.).*

ЦК партыі ў пастанове аб выдавецкай рабоце, зазначаючы, што часопісы вельмі часта не зьяўляюцца баявымі выданьнямі, падкрэсьлівае—«роля пэрыядычнай журнальнай дзіцячай літаратуры асабліва адказная».

«Іскры Ільліча» орган Наркамасьветы і ЦК ЛКСМБ разьлічаны на дзяцей малодшага ўзросту, разьлічаны на акцябрацкі ўзрост. Гэты часопіс шырока скарыстоўваецца настаўнікам ў працы з малодшымі групамі. І таму часопіс павінен даваць жывыя, палітычна-насычаныя, жыцьцерадасныя адказы на тыя пытаньні, якія вынікаюць з кругу інтарэсаў нашага акцябронка.

Часопіс павінен паднімаць ідэёва-палітычны ўзровень дзяцей, пашыраць іх кругагляд, часопіс павінен сыстэматызаваць і арганізоўваць усю суму ўражаньняў і пачуцьцяў, якія малодшы школьнік атрымлівае ад нашай шматбаковай, супярэчлівай і гераічнай рэчаіснасьці. Роля часопісу ў справе выхаваньня нашых акцябрат вялікая, вельмі адказная.

Адным з карэнных недахопаў часопісу, які кідаецца ў вочы пры чытаньні—гэта ігнараваньне ўзросных асаблівасьцяй свайго чытача. Хоць мы чытаем на тытульнай старонцы, што часопіс «Іскры Ільліча» разьлічаны на меншых дзяцей, але сярод друкаванага матар'ялу можна знайсьці матар'ял даступны і дашкольніку, даступны і старэйшаму ўзросту. Часопіс імкнецца «об'ять необ'ятное». Часопіс імкнецца патроху задаволіць дзяцей усіх узростаў (гэтаму спрыяе тое, што ў нас выходзіць на беларускай мове толькі адзін часопіс для дзяцей).

Такі ўнівэрсалізм распыляе сілы рэдакцыі, зьніжае палітычную дзейнасьць часопісу.

Вялікае месца адводзіцца часопісам знаёмству дзяцей з працай і клясавай барацьбой, з тымі дасягненьнямі, якія мы маем у галіне рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Паказ клясавай барацьбы, тактыка клясавага ворага ў нашыя дні, шкодніцтва кулакоў і іх падпявал, падняцьце вытворчасьці працы ў калгасах з пераходам на зьдзельшчыну, паказ адданых справе калектывізацыі калгасьнікаў, дапамога дзяцей у калгасе, іх праца—усё гэта знайшло свой адбітак на старонках часопісу. Пры гэтым памянёныя тэмы пададзены пераважна ў белетрыстычнай форме.

З твораў, зьмешчаных на гэтую тэму—асабліва вылучаюцца творы Платона Галавача (урывак з «Спалох на загонах»), Насімовіча, Няверава, Таежнага, Крамма, Шыдлоўскага. Свой творчы рост паказаў за апошні год Пальчэўскі—здольны дзіцячы пісьменьнік.

Зусім выпала з часопісу тэматыка гораду, прамысловасьці.

Паказ заводу, паказ энтузіязму рабочых, якія пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі змагаюцца за пабудову сацыялізму. Паказ жыцьця рабочага ўдарніка. Узаемаадносіны бацькі—ударніка з сынам—акцябронкам. Новы быт у сям'і рабочага—паказ пралетарскага гораду—усяго гэтага мы не знаходзім у часопісу.

Часопіс не паказвае свайму чытачу, што вядучую ролю ў нашым сацбудаўніцтве адыгрывае пралетарыят.

Часопіс дае няправільнае прадстаўленьне аб БССР. У маладога чытача можа скласьціся прадстаўленьне аб БССР, як краіне «калгаснай» сельска-гаспадарчай, пераважна.

Літаральна можна пералічыць тыя творы, у якіх закранаецца тэматыка гораду, прамысловасьці. Нарыс Якімовіча «Аб новым Менску», дае нам вобраз перадавога пралетара, Маўр у апавяданьні «Чужаземец», закранае так гэта, паміж іншым, Дыла ў апавяданьні «Пра паліто». Зьмяшчаецца партрэт ударніка заводу Варашылава, пару нарысаў і схэм аб выкананьні пяцігодкі, у якіх цяжка разабрацца і даросламу.

І гэта ўсё.

8 нумароў часопісу, якія вышлі ўжо ў 1933 г., не паказваюць пералому ў працы.

Недаацэнка тэматыкі гораду, зусім нездавальняючы паказ пралетарыяту гораду, мы павінны кваліфікаваць як сур'ёзьнейшы палітычны зрыў у рабоце часопісу.

Рэдакцыя зараз павінна перабудаваць сваю работу такім чынам, каб ліквідаваць гэты прарыў.

Часопіс «Іскры Ільліча»—разьлічан на дзяцей малодшага ўзросту, гэта значыць у асноўным на нулявікоў і вучняў першае і другое групы. Ясна, што часопіс павінен адбіць на сваіх старонках жыцьцё школы, яе працу, заахвоціць свайго чытача вучобай.

Часопіс шмат аддае ўвагі гэтай, сапраўды, вузлавой тэме. Грамадзкае жыцьцё школы, барацьба за веды, за сьвядомую дысцыпліну ў школе, роля настаўніка трактуюцца, асьвятляюцца ў часопісу ў сьвятле пастаноў ЦК аб сярэдняй і пачатковай школе.

Рэдакцыя выкарыстоўвае featureзнастайныя цікавыя мэтады работы. Часопіс прымае вялікі ўдзел у барацьбе школы за лепшы сшытак. Шырока разгортвае працу па дапамозе слабейшым вучням з боку мацнейшых, з боку настаўнікаў. Друкуе рапарты, лісты вучняў розных школ аб ходзе вучобы. Зьмяшчае партрэты лепшых ударнікаў вучобы.

Вялікую ўвагу часопіс аддае і горшым, прычым імкнецца высьветліць прычыны адставаньня іх у вучобе.

Шырока часопіс выкарыстоўвае карыкатуры, у якіх высьмейваюцца розныя «балячкі» школьнага жыцьця: прагулы, спазьненьні, няўважлівыя адносіны да лекцый, невыкананьне заданьняў.

Праўда, гэты багацейшы матар'ял аб школе даецца пераважна ў аспэкце грамадзка-карыснай працы. Праўда, пераважае публіцыстычны матар'ял.

У некаторых творах аб школе адчуваюцца рэшткі лявацкіх загібаў у пэдагогіцы, дзе паказ грамадзка-карыснай працы школы адарваны, не падпарадкаваны барацьбе за веды.

Але трэба зазначыць, што часопіс у гэтым напрамку прарабіў вялікую работу. Ён наладзіў цесную сувязь са школамі. Ён стаў бліжэйшым памочнікам школы ў барацьбе за веды, за сьвядомую дысцыпліну. Гэта зьяўляецца вялікім дасягненьнем у працы часопісу.

Сёнешнія акцябраты будуць жыць, працаваць ва ўмовах бясклясавага грамадзтва. Перад намі стаіць адказнейшая задача выхаваць з іх людзей сацыялістычнага грамадзтва. Яны павінны быць не такімі людзьмі, якім суджаны «благие порывы», і якія ажыцьцявіць іх ня могуць. Яны павінны быць людзьмі з загартаванай воляй, з сталёвай бальшавіцкай цьвёрдасьцю і рашучасьцю. Гэту рысу характару нашых правадыроў, лепшых бальшавікоў мы павінны выхаваць у кожнага акцябронка.

Нашы дзеці павінны расьці інтэрнацыялістамі.

Наколькі-ж часопіс змагаецца за інтэрнацыянальнае выхаваньне, за выхаваньне сваіх чытачоў у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму?

Колькасна мы ў часопісу спаткаем многа твораў, дзе распрацоўваецца інтэрнацыянальная тэматыка.

Больш поўна часопіс знаёміць нас з той сувязьзю, якую маюць акцябраты, піянэры нашага Саюзу з акцябратамі і піянэрамі іншых краін. Знаёміць часопіс з жыцьцём дзяцей рабочых, з цяжкімі ўмовамі працы, з уціскам рабочых. Сярод твораў на гэту тэму вылучаецца Маўра «Чужаземец», Крамма «Марко», «Як Фрэнке стаў піянэрам». Друкуюцца лісты, якімі абменьваюцца атрады.

Зусім слаба асьветлена жыцьцё нацыянальнасьцяй, якія жывуць у БССР.

Ніводнага мастацкага дакуманту аб жыцьці нацыянальнасьцяй БССР.

Ніводнага твору, які паказаў-бы братэрскае супрацоўніцтва працоўных розных нацыянальнасьцяй, іх энтузіязм у барацьбе за пабудову сацыялізму.

Ніводнага твору, які дапамог-бы барацьбе з рознымі шавіністычнымі вылазкамі ў дзяцей, а з такімі мы вельмі часта сустракаемся ў школьнай практыцы.

Тут трэба адзначыць, што і наогул ва ўсёй дзіцячай літаратуры мы налічым усяго некалькі твораў на інтэрнацыянальную тэматыку.

Пісьменьнікі павінны гэта ўлічыць і даць дзецям кніжку, якая дапамагла-б інтэрнацыянальнаму выхаваньню, даць кніжку аб жыцьці і гераічным змаганьні працоўных розных нацыянальнасьцяй, якія жывуць у БССР. Часопіс таксама павінен зьвярнуць на гэта самую сур'ёзную ўвагу.

Сярод «патрыётаў» дзіцячай літаратуры можна пачуць разважаньні, якія зводзяцца да таго, што дзіцячая літаратура і літаратура для дарослых гэта нешта процілеглае, што адно выключае другое.

Ясна, што такія няправільныя думкі перш за ўсё шкодзяць нармальнаму разьвіцьцю савецкай дзіцячай літаратуры.

Дашкольніку, школьніку, дзякуючы яго ўзростным асаблівасьцям, недаступны ўспрыманьню творы літаратуры для дарослых. З узростам-жа ўсё больш і больш сьціраецца для яго мяжа паміж дзіцячай літаратурай і літаратурай для дарослых, падросткі-ж ужо цалкам уключаюцца ў літаратуру для дарослых.

Значыць, не адрываць дзіцячую літаратуру ад літаратуры дарослых, а ўключаць, знаёміць з творамі савецкіх пісьменьнікаў— у урыўках, у адпаведнай апрацоўцы—дзяцей, нават, малодшага ўзросту, бязумоўна, неабходна.

Гэта вельмі патрэбна іменна зараз, бо пры вялікім адставаньні дзіцячай літаратуры ўрыўкі з твораў пісьменьнікаў маглі адсунуць тую халтуру, якая вельмі добра сябе адчувае на старонках дзіцячых кніжок, а таксама і часопісаў.

Падаць дзецям твор дарослай літаратуры справа, цяжкая. Цяжкая таму, што трэба гэты твор, урывак, даць дзецям у даступнай форме, цяжка яшчэ і таму, што трэба яшчэ захаваць і якасныя паказальнікі твору.

Часопіс зусім недастаткова выкарыстоўвае літаратуру дарослых для дзяцей.

Часопіс часта мэханічна пераключае творы дарослай літаратуры ў літаратуру дзіцячую.

І вынікі непажаданыя.

У часопісу друкуюцца творы Чарота «Паэма пра Міколу Сініцына» і калгас «Бязбожнік». Чарот пісаў для дарослых і, вядома, без належнай апрацоўкі, яны недаступны ўспрыманьню

дзяцей малодшага ўзросту. Дзеці ня змогуць захапіцца жыцьцём гэтага героя паэмы—Міколы Сініцына, яны не зразумеюць паэмы. Тое самае і з другім творам «Калгас «Бязбожнік». У той час, як паасобныя ўрыўкі дзецьмі засвоіліся, завучыліся-б на памяць.

У некалькіх нумарох часопіс зьмяшчае байкі Крапівы, напісаныя на антырэлігійныя тэмы. Гэта ўсім вядомыя «Калядная гутарка», «Як Антон сустрэў вялікдзень», «Цёткам навука».

Мне хочацца спыніцца на двух апошніх. У гэтых байках аўтар хоча выклікаць нянавісьць, агіду да рэлігійных сьвят.

Аўтар паказвае свайго героя з усімі «осложнениями» пасьля сьвята: «Потым Антон поўзаў задам, потым зьезьдзіў дважды ў рыгу, потым лёг, нагамі дрыгаў... хлеў сьвінны зрабіўся і г. д.

Якую рэакцыю выкліча прачытаньне такога твору ў дзяцей. Хто мае справу з дзецьмі, той добра ведае цягу дзяцей да розных «цэпкіх» слоўцаў. Пасьля зачытаньня такога твору дзеці адразу падхопяць, запамятаюць якраз дробязі. Вось такія «цэпкія» слоўцы, якія я вышэй назвала. Тут можна чакаць і элемэнтаў драматызацыі, padражаньня разам і адчуваньням героя. Такія словы адсунуць на задні плян мэтавую ўстаноўку твору, яго ідэалёгічную накіраванасьць. Ідэя твору ня дойдзе да маладога чытача, яна пройдзе міма яго ўвагі.

Чаго-ж мы дасягнем?

Мы дасягнем таго, што павялічым лексыкон нашых малодшых школьнікаў словамі, зваротамі далёка ня эстэтнымі (вульгарызмамі). А за культурны лексыкон нашага школьніка мы павінны весьці ўпартую барацьбу ў штодзенным жыцьці школы і за сьценамі яе. Да мовы кожнага дзіцячага твору мы павінны падыйсьці з самымі высокімі запатрабаваньнямі.

Канешне, Крапіва пісаў гэтыя творы для дарослых, а не для дзяцей. Мне толькі хочацца адзначыць, што, выкарыстоўваючы літаратуру для дарослых, мы павінны падыходзіць да яе з пэдагагічным крытэрыем, з сур'ёзным адборам і апрацоўкай, а ня проста мэханічна пераносіць творы таго ці іншага пісьменьніка ў дзіцячую літаратуру.

На старонках часопісу частым госьцем зьяўляюцца Александровіч, Чарот, Якімовіч, Баранавых, Кляшторны, Багун, Хаткевіч. Гэта сьведчыць аб актывізацыі пісьменьнікаў, аб уключэньні іх у дзіцячую літаратуру.

Але калі прачытаць творы Кляшторнага, Багуна, Хаткевіча і некаторых іншых—дык многія творы іх надзвычайна слабыя, многа горшыя за іх-жа творы ў літаратуры для дарослых. Вершы часта напісаны насьпех, ня сур'ёзна, напісана «вообще», не апрацаваны.

Чым гэта тлумачыцца?

Гэта тлумачыцца тым, што на дзіцячую літаратуру многія нашы пісьменьнікі яшчэ і зараз глядзяць, як на літаратуру II-га

сорту. Як напішаш так і добра будзе. Нам думаецца, што аўтары пасароміліся-б несьці такую прадукцыю ў часопіс для дарослых, а ў дзіцячую літаратуру, канешна, можна—усё роўна надрукуюць.

Ня трэба даводзіць, што дзіцячая літаратура павінна быць высокаякаснай, высокамастацкай.

Пастанова ЦК УсеКП(б)Б ад 23 красавіка 1932 г. аб перабудове літаратурных мастацкіх аб'яднаньняў адкрывае новы этап у разьвіцьці савецкай дзіцячай літатуры.

Як-жа часопіс мабілізаваўся на ажыцьцяўленьне гэтай важнейшай пастановы партыі, як ён перабудаваў сваю работу?

У той час, калі марксысцкая крытыка выкрыла і разьбіла літфронтаўскую стаўку на нарыс, як на адзіны жанр пралетарскай літаратуры, на старонках часопісу дамінуючым жанрам зьяўляецца нарыс. Адсутнасьць марксысцкай крытыкі па дзіцячай літаратуры дала магчымасьць розным разьбітым варожым тэорыям схавацца і ня дрэнна адчуваць сябе на старонках дзіцячай кнігі.

Літфронтаўскія тэндэнцыі яшчэ моцны ў дзіцячай літаратуры. Яны прывялі да скарачэньня жанраў і формаў у дзіцячай літаратуры. Стаўка на нарыс прывяла да скарачэньня колькасна сюжэтных рэчаў у дзіцячай літаратуры.

Безсюжэтнай, схэматычнай, разважліва сухой кніжцы, апавяданьню мы павінны аб'явіць жорсткую барацьбу. Мы павінны зараз змагацца за пашырэньне тэматыкі для дзяцей. Нас не павінна палохаць разнастайнасьць тэматыкі. Наш школьнік, акцябронак атрымлівае самыя разнастайныя ўражаньні, пачуцьці ад нашай рэчаіснасьці. Ён хоча яе пазнаць. Мы павінны задаволіць гэтае законнае патрабаваньне. Мы павінны памятаць, што з дзіцём можна і трэба гаварыць на самыя разнастайныя тэмы. Справа ня ў тэме, а ў трактоўцы, у падачы яе. Справа ў тым, каб па-мастацку і даступна падаць матар'ял.

Самыя разнастайныя жанры павінны быць скарыстаны ў літаратуры для дзяцей.

Нам патрэбна бадзёрая, жыцьцерадасная, палітычна-завостраная кніга з разгорнутай фабулай, з героямі, якія-б захаплялі дзяцей.

Дзіцячую кнігу нават для старэйшага ўзросту цяжка ўявіць сабе без ілюстрацый. Дзіцячая кніжка для малодшага і дашкольнага ўзросту проста ня мысьліцца без малюнкаў, без ілюстрацый.

Па афармленьні часопісу «Іскры Ільліча» працуе цэлы калектыў, каля 8 чалавек.

Здавалася-б усё добра. Працуе калектыў маладых, пераважна мастакоў. Жывы абмен думак, вопыту дапаможа ім сацыялістычнымі мэтадамі работы ўзьняць якасьць малюнкаў, здавалася-б, такі калектыў павінен быў стварыць пэўны стыль у рабоце.

На справе зусім ня тое... Варта прагледзіць некалькі нумароў часопісу і вам кідаецца ў вочы вялікі разнабой у рабоце. Вы сустрэнеце самыя розныя школы, напрамкі, напрамачкі. Усё гэта

стварае пэўную асаблівую стракатасьць. Рэдка вы сустрэнеце ясны, яскравы, выразны малюнак. Часопіс зьявіўся месцам экспэрымэнтаў для мастакоў.

Фантазія, а часьцей за ўсё, арыгінальнічаньне мастака, памножанае на паперу нявысокай якасьці, памножанае на дрэннае тэхнічнае выкананьне ў друкарні, дае фантазію ў кубе. Малюнак абарачваецца ў рэбус. А нашаму чытачу маладому бяда. Разгадваць малюнкі прыходзіцца.

Бясспрэчна, што такія экспэрымэнты ў дзіцячым часопісу зьніжаюць пазнавальную сілу малюнку. Такія малюнкі зьніжаюць палітычную дзейнасьць кнігі-часопісу ў цэлым.

Ліст т. Стэцкага выдавецтву «Молодая Гвардия» павінен быць паложан у аснову працы па афармленьню дзіцячай кніжкі. Да нашых мастакоў ён проста яшчэ не дайшоў. Ніякага павароту, зруху ў рабоце па афармленьню часопісу прасачыць нельга. Усё ідзе, як ішло.

Тав. Стэцкі ў сваім лісьце піша: «Замест яскравага графічнага адлюстраваньня магутнага росту савецкай індустрыі, на малюнках дзіцячай кнігі беспарадкава раскіданы разнакаляровыя пляны, ломаныя лініі, нікчэмныя канструкцыі, замест людзей—туманныя сілуэты, недарэчныя фігуры».

Гэтыя радкі нібы напісаны спэцыяльна аб часопісу «Іскры Ільліча».

Туманныя сілуэты, недарэчныя фігуры—гэта «стыль» малюнкаў часопісу.

Бязумоўна, такія малюнкі, не дапамагаюць мастацкаму выхаваньню дзяцей. Яны не ўзмацняюць ідэалёгічную зарадку кнігі, а аслабляюць яе. Такія малюнкі перашкаджаюць кнізе выпаўніць назначэньне яе—быць сродкам камуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня.

Наколькі-ж часопіс адпавядае тым запатрабаваньням, якія партыя паставіла перад дзіцячым пэрыядычным друкам? Трэба проста сказаць, што становішча нашага пэрыядычнага дзіцячага друку, у прыватнасьці часопісу «Іскры Ільліча» далёка не здавальняючае.

Часопіс бязумоўна вырас ў параўнаньні з 1931 г. Матар'ял друкуецца больш актуальны, цікавы, улічваюцца інтарэсы школьніка. Часопіс прыцягнуў новыя пісьменьніцкія сілы для супрацоўніцтва ў часопісу. Ён акуратна выходзіць з друку, чым ня могуць пахваліцца часопісы для дарослых.

Але ўсё-ж рэдакцыя працуе бесплянава. Матар'ял часта пападае ў часопіс выпадкова, што пад рукі трапіцца. Якасьць мастацкай прадукцыі ў большасьці нізкая, адчуваецца, што рэдакцыя варыцца ва ўласным саку, саматужнічае. Тут трэба адзначыць, што дзякуючы таму, што фронту дзіцячай літаратуры ў

нас аддавалася мала ўвагі, часопіс працаваў ў надзвычай цяжкіх умовах.

Трэба, каб НКАсьветы, камсамол, уся пісьменьніцкая і савецкая грамадзкасьць узялася за справу пэрыядычнага дзіцячага друку, як за сваю кроўную справу.

І мы павінны стварыць і створым такі савецкі дзіцячы часопіс—кніжку, які сапраўды стане полымем у барацьбе за камуністычнае выхаваньне падрастаючага пакаленьня.

*Я. З.*

## За інтэрнацыянальнае выхаваньне дзетвары

*А. Кароце.* **Гары Айзмэн, Амэрыканскі піонэр.** *Д. В. Б.*

*Э. Кіпэр.* **Дзеці** *Юндзетсэктар Д. В., Б. цана 35 кап.*

У сувязі з пасьпяховым сканчэньнем першай пяцігодкі, рэшткі разгромленага кулацтва, недабітага вялікадзяржаўнага шавінізму і нацдэмакратызму заварушыліся, спрабавалі затармазіць пераможнае сацыялістычнае будаўніцтва, каб адтэрмінаваць сваю нямінуючую пагібель (справы Белдзяржснабу, зямельных органаў і г. д.). Гэтая актывізацыя клясавага ворага назіралася ў радзе вучасткаў нацыянальна-культурнага будаўніцтва, дзе мы мелі шэраг сур'ёзных прарываў і контррэвалюцыйных вылазак.

Шкодніцкая дзейнасьць клясавага ворага на культурным фронце за апошні час выявілася асабліва яскрава па лініі скажэньня Ленінскай нацыянальнай палітыкі. Кулак, буржуазны нацыяналіст дзейнічае замаскавана, хавае сваю контррэвалюцыйную работу пад фальшыва-нацыянальным сьцягам. Добра разумеючы, што магутнасьць нашага ладу заснавана на братэрскім аб'яднаньні працоўных розных нацый, клясавы вораг усяляк імкнецца разбурыць гэтае адзінства, сарваць ажыцьцяўленьне прынцыпаў пралетарскага інтэрнацыяналізму.

Шавіністы розных колераў прасякаюць у школу, спрабуюць ахапіць сваім шкодным ўплывам падрастаючае пакаленьне, прышчапіць яму нацыянальную абмежаванасьць.

Адсюль праявы антысэмітызму, ігнараваньня беларусізацыі, нецярпімасьць расійскай мовы, цкаваньня дзяцей нацменшасьцяй і г. д., якія мелі месца ў некаторых школах.

Вось чаму, зараз як ніколі, перад намі паўстае вялізарнай важнасьці задача: **узмацніць інтэрнацыянальнае выхаваньне, дасягнуць збліжэньня між сабой дзетвары розных нацый, паралізаваць уплыў клясавага ворага, які дзейнічае пад фальшыва-нацыянальным сьцягам.** Трэба наладзіць ў школе пастаянную інфармацыю аб жыцьці дзяцей за мяжой, прапрацаваць з вучнямі пастановы партыі аб нацыянальна-культурным будаўніцтве, узмацніць

работу школьных ячэек МОПР і АЗЭТ, распаўсюджваць і чытаць літаратуру па інтэрнацыянальнаму выхаваньню.

За апошні час Юндзетсэктар ДВБ выдаў шэраг кніжак, якія могуць быць скарыстаны ў мэтах узмацненьня інтэрнацыянальнага выхаваньня. Выпушчана некалькі апавяданьняў і нарысаў пра змаганьне замежных піянэраў, жыцьцё дзяцей розных нацый ў СССР ды інш.

Апавяданьне «Гары Айзмэн» знаёміць нас з барацьбой пралетарскіх дзяцей у Злучаных Штатах супроць буржуазнай школы і сыстэмы выхаваньня. Гэта праўдзівая гісторыя арышту і суду над піянэрамі за рэвалюцыйную работу ў школе, аб якой ў свой час паведамлялі газэты.

У сваім імкненьні мілітарызаваць школу, падрыхтаваць з вучняў паслухмяных абаронцаў бацькаўшчыны—краіны доляру і надзейных прыхільнікаў капіталістычнага ладу,—буржуазія ПАЗШ сустракае моцнае супраціўленьне пралетарскай дзетвары. Ня гледзячы на забарону і ўціск, піянэрскі рух у Паўночнай Амэрыцы няўхільна пашыраецца, ахапляе сваім уплывам ўсё большыя пласты дзяцей працоўных, якія ўцягваюцца ў барацьбу з капіталам. На гэтым фоне разгортваецца рэвалюцыйная дзейнасьць Гары Айзмэна.

Апавяданьне прасякнута духам пралетарскага інтэрнацыяналізму, дае эмацыянальную зарадку чытачу, укараняе веру і ўпэўненасьць у перамозе адзінага фронту дзяцей працоўных ўсіх краін.

Але «Гары Айзмэн» не пазбаўлен элемэнтаў дзіцячага «авангардызму», гэтага своеўзорнага адбітку левацкіх пэдагагічных тэорый. Паводле апавяданьня, піянэры змагаюцца самастойна, без кіраўніцтва партыі і камсамолу, самі... узначальваюць дзіцячы камуністычны рух. Мала таго, яны самастойна вядуць агітацыйна-масавую работу сярод дарослых рабочых.

Вось чаму перад чытаньнем дзецьмі гэтага твору, настаўнік павінен правесьці лекцыю ці гутарку аб расстаноўцы клясавых сіл у ПАЗШ і рэвалюцыйнай барацьбе працоўных, якая ўзначальваецца камуністычнай партыяй.

Тэмай апавяданьня Э. Кіпэра «Дзеці», зьяўляецца барацьба піянэраў у савецкай школе за ўкараненьне прынцыпаў пралетарскага інтэрнацыяналізму і добраякаснае навучаньне.

Настаўнік з «былых» Антось Міронччык, чужы элемэнт прымазаўся да савецкай школы, імкнецца пасеяць нацыянальную варожасьць сярод дзяцей. Ён ужывае антысэміцкую лаянку і фізычныя меры ўзьдзейнічаньня да вучняў-яўрэяў, прыкрываючы сваю шкодніцкую дзейнасьць маскай «сумленнага пэдагога». Піянэрарганізацыя выяўляе высокую сьвядомасьць, выкрывае; выводзіць на суд грамадзкасьці клясавага ворага, дамагаецца праз РайАНА і друк зьняцьця яго з працы.

Апавяданьне мабілізуе клясавую пільнасьць дзяцей, завастрае іх увагу на барацьбе супроць шавінізмаў розных колераў, за ідэалёгічную вытрыманасьць і добраякаснасьць школьнага выкладаньня. Мы рэкамэндуем яго шырокай увазе школ і піянэрскіх атрадаў.

Юндзетсэктар Д. В. Б. павінен зьвярнуць больш ўвагі на выданьне літаратуры па інтэрнацыянальнаму выхаваньню дзетвары. Тая колькасьць назваў, якая ёсьць на беларускай мове, далёка нездавальняе ўзросшых запатрабаваньняў у гэтай літаратуры.

---

# ЗЬМЕСТ



---

